20 ліпеня 2018 | № 27 (590)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

9 772218 214005 18027

Эпоха Мікалая Дзямянцея

стар. 19

**ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ!**

**НАСТУПНЫ НУМАР ГАЗЕТЫ ВЫЙДЗЕ 10 ЖНІЎНЯ**

САЧЫЦЕ ЗА НАВІНАМІ НА НАШЫМ САЙЦЕ NOVYCHAS.BY

7–18

Літаратурная Беларусь

22

**«ПЯСТУН НАЦЫЯНАЛЬНАГА ГОНАРУ СЯРОД ЧУЖЫХ НАРОДАЎ»**

Ігната Дамейку выгналі з Радзімы, і ён стаў нацыянальным героем Чылі. Але да канца жыцця заставаўся верным бацькоўскай старонцы

# Камунізм = фашызм

**Цяпер «імем Рэспублікі Беларусь»**



Сяргей ПУЛЬША

На мінулым тыдні адбыўся вельмі паказальны адміністрацыйны працэс. Судзілі нашага аўтара, экс-палітвязня і анархіста Мікалая Дзядка. Судзілі яго нібыта за «распаўсюд нацысцкай сімволікі». Дзядок быў прызнаны вінаватым і атрымаў штраф у памеры 10 базавых велічынь.

Увогуле, судзіць анархіста за прапаганду нацызму — гэта аксюмаран. Анархісты па змоўчванні з'яўляюцца найбольш радыкальнымі антыфашыстамі. Але начальнік трэцяга аддзялення па супрацьдзеянні экстрэмізму ГУБАЗіК Міхаіл Бедункевіч, даследаваўшы профілі Дзядка ў сацсетках, знайшоў там выявы свастыкі. Суд, не ўлічыўшы кантэкст, выявіў, вынес вырак.

У гэтым працэсе ёсць два цікавыя моманты, вартыя пільнай увагі. Першы момант: працэс Дзядка не быў адзіным. Аднachасова з ім судзілі за «распаўсюд экстрэмісцкіх матэрыялаў» актывістку Марфу Рабкову. У той жа час за такі ж «распаўсюд нацысцкай сімволікі» ў Гомелі пад суд трапіў відэаблогер Арцём Шапараў.

Ва ўсіх гэтых працэсах абвінавачванне — даволі нацягнутае. Шапараў «апрануў» у размытую нацысцкую форму дырэктарку школы, Рабкова змясціла ў сацсетках толькі фотакалаж з шапкай «Class War». Прычым на момант змяшчэння, гэты выраз не быў прызнаны экстрэмісцкім. Падаецца, што ў краіне пачалася кампанія, мэта якой — выставіць сацыяльных актывістаў як прыхільнікаў фашызму, і, такім чынам, дыскрэдытаваць іх у вачах грамадскасці.

Напэўна, у адрозненне ад тых жа актывістаў, улада вельмі пільна глядзіць на каляндар. Актывісты, занятыя Курапатамі і Мундыялем, неяк забыліся, што ў 2019 годзе павінны прайсці парламенцкія выбары, якія могуць быць сумешчаныя з прэзідэнцкімі. І, хутчэй за ўсё, такія спробы дыскрэдытацыі сацыяльных актывістаў можна лічыць пачаткам падрыхтоўкі да палітычных кампаній, якія нас чакаюць ужо вось-вось.

Дарэчы, хвалю рэпрэсій перад выбарамі, скіраваную найперш на сацыяльных актывістаў, прарочыў сам Дзядок у артыкуле «Прэзідэнцкія выбары: як гэта будзе», надрукаваным «НЧ» яшчэ ў красавіку гэтага года. Можа стацца, што, «працэсы за нацызм» як падмурак па дыскрэдытацыі актывістаў — гэта пачатак.

Вельмі важны і другі момант. Свае 10 базавых штрафу Дзядок атрымаў у тым ліку і за калаж, змешчаны ў «НЧ» з нагоды «Дня чорнай стужкі» — Агульнаеўрапейскага дня памінання ахвяраў сталінізму і нацызму. На гэтым калажы свастыка перацякае ў серп і молат. У артыкуле, да якога калаж быў ілюстрацыяй, прыводзіліся факты падабенства савецкага і нацысцкага рэжыму і дыскутавалася пытанне: чаму нацызм асуджаны, а камунізм — не?

Дзядка асудзілі за выяву, на якой свастыка злучаная з сярпом і молатам. Гэта не асобныя выявы свастыкі і сярпа з молатам, гэта адзін сімвал. Ну аніяк савецкія сімвалы не адрываюцца ад партыйнага знаку НСДАП!

Персанальна я супраць прыроўнівання савецкіх сімвалаў да нацысцкіх. Так, і той, і той рэжымы — крыважэрныя. Але СССР усё ж даваў беларусам хоць маленькія шанцы на выжыванне. У ім існавала хоць фармальная, але БССР. У ім фармальна, але прысутнічала

## Дзень чорнай стужкі

**Ці можна ставіць знак роўнасці паміж камунізмам і фашызмам?**

Сяргей ПУЛЬША

Амаль незаўважна прайшло 23 жніўня — Агульнаеўрапейскі дзень памяці ахвяр сталінізму і нацызму. Дзень, у які быў падпісаны славуты пакт Молатава — Рыбентропа, шмат для каго застаецца спрэчным.

Для мяне асаблівай розніцы паміж дзвюма рэжымамі не назіраецца. Так, Нацысцкая Германія ідэалагічна сцвярджала «вяршэнства арыйскай расы» над іншымі народамі. Тое, што зараз мы называем распальваннем нацыянальнай варожасці. Але ці быў лепшы за Германію сталінскі рэжым?

Наўрад ці. Што было ў СССР? Гегемонія працоўнага класу? Масавыя «чысткі» па прыкмеце сацыяльнага паходжання і паводле маёмаснага становішча? Першымі пад удар рэпрэсіяў траплялі заможныя людзі — так званыя «кулакі» і іншыя. То бок, гэта было распальваннем варожасці па сацыяльнай прыкмеце.

І першае, і другое зараз заба-

дысідэнты траплялі ў савецкія «шарашкі» альбо ў нацысцкія лагеры кшталту «Доры» пад Пенемюндэ, дзе ствараліся ракеты «Фау». Менш запатрабаваным шлях быў адзін — звычайныя баракі і смерць.

Не трэба думаць, што нацысцкія і савецкія лагеры прынцыпова адрозніваліся. Гэта было нават, як бы зараз сказалі, «узаемапранікненне» дзвюх жудасных культураў. Нацысты спакойна выкарыстоўвалі тую «інфраструктуру» і тыя аб'екты, якія ім на савецкай тэрыторыі пакінуў НКУС. Тое ж самае адбывалася і падчас наступу савецкага войска ў Еўропе: «асобыя аддзелы» змяшчаліся ва ўжо пабудаваных нацыстамі лагерах. Не змянялася нічога, апроч кантынгенту.

А ці не ўсё роўна, у якім лагеры цябе заб'юць — у савецкім альбо ў нацысцкім?

Некаму ўсё ж шанцавала. Мы ведаем, што з Германіі збегла шмат інтэлігенцыі, але і з СССР не менш. Прычым, беглі на працягу ўсёй гісторыі «прасунутай дзяржавы рабочых і сялян». У каго была такая магчымасць, зразумела.

Не буду казаць пра аднапартыйную сістэму, фактычную забарону прафсаюзаў, на месца якіх прыходзіла «прыкормле-

**Ці не ўсё роўна, у якім лагеры цябе заб'юць — у савецкім**

— чачэнцы, паволжскія немцы, крымскія татары... Выбачайце, зараз такая розніца падаецца прынцыпова не істотнай.

На вялікі жаль, цяпер адбываецца

на тоесных рэжымаў — у жывых павінен быў застацца толькі адзін. І адзін застаўся, выйграўшы гэтую вайну.

Але ідэалогія СССР і нацыянал-са-

права на беларускамоўнае навучанне, існавала беларуская мова, культура, пісьменнікі... Нацысцкімі ж планамі існаванне беларусаў (і габрэяў, і іншых славянаў) не прадугледжвалася ўвогуле. Як ні банальна, але «дзяды ваявалі», і пад «сярпаста-малаткастым» пазбавілі нас ад фізічнага вынішчэння з боку «чыстых арыйцаў».

Але маё дыскусійнае меркаванне больш нікога не хвалюе. Па Канстытуцыі, у нас у краіне тры галіны ўлады — выканаўчая, заканадаўчая і судовая. Судовая галіна ўлады «імем Рэспублікі Беларусь» (гэта значыць — ад усіх нас, і ад майго імя таксама) вызнала, што серп і молат, будучы неад'емнай часткай калажу, з'яўляецца сімвалам, як мінімум прыроўненым да нацысцкага. Такім чынам, Дзядок атрымаў 10 базавых не толькі за свастыку, але і за серп і молат.

Беларуская хрысціянская дэмакратыя і Павел Севярынец з нагоды прысуду Дзядку павінны пляскаць у ладкі — яны доўга змагаліся за асуджэнне камунізму і забарону савецкіх сімвалаў. Нечакана для сябе, дамагліся. Хоць у нас у краіне і не распаўсюджанае прэцэдэнтнае права, але асуджэнне Дзядка ў тым ліку за сімвалы СССР дае падставу лічыць іх такімі ж, як нацысцкія.

**Судовая галіна ўлады вызнала, што серп і молат з'яўляецца сімвалам, прыроўненым да нацысцкага**

Што далей? Забарона Камуністычнай партыі Беларусі, якая ўтрымлівае серп і молат у сваёй сімволіцы? Дэмантаж савецкіх помнікаў, якія ўтрымліваюць серп і молат? Па логіцы вынікае так.

*P.S. У адпаведнасці з заканадаўствам, згодна артыкулу 17.10 КаАП, не з'яўляюцца адміністрацыйнымі правапарушэннямі выраб, публічная дэманстрацыя і (або) распаўсюджванне нацысцкай сімволікі або атрыбутыкі фізічнай асобай, індывідуальным прадпрымальнікам або юрыдычнай асобай пры ажыццяўленні дзейнасці ў галіне тэатральнага, музычнага, цыркавога і выяўленчага мастацтва, бібліятэчнай справы, кінематаграфіі, музейнай справы, арганізацыі і правядзення культурна-відовішчных мерапрыемстваў, выдавецкай справы, адукацыйнай дзейнасці, сродкаў масавай інфармацыі.*

# З'язджаюць самыя канкурэнтныя

**Беларусы сталі часцей з'язджаць на заробкі за мяжу. Па статыстыцы Дэпартамента па працы і міграцыі МУС, за першае паўгоддзе за мяжой працаўладкаваліся 5 882 чалавекі (на 864 чалавекі больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года).**

Кіраўнік аналітычнага цэнтра «Стратэгія», доктар эканамічных навук, прафесар Леанід Заіка прыгадвае лічбу, названую Мясніковічам, — 450 тысяч «дармаедаў».

— Гэта прыкладная колькасць людзей, якія з'язджалі зарабляць за мяжу, — мяркуе эканаміст і адзначае, што колькасць гастарбайтэраў складала да мільёна беларусаў.

На думку Заікі, прыведзеная Дэпартаментам па працы і міграцыі статыстыка — безумоўна, толькі для чыноўнікаў.

— На справе мы бачым два віды ад'ездаў. Першы — назаўсёды. Гэта самае небяспечнае: з'язджаюць, як правіла, самыя канкурэнтныя, моцныя, энергічныя і тыя, хто не баіцца цяжкасцяў. Другі від ад'ездаў — часовы. Цяпер можна працаваць дома, атрымліваючы даходы за мяжой. Як правіла, так робяць нашы праграмісты і кампутаршчыкі. Мне таксама даводзілася працаваць у замежных універсітэтах, я ад'язджаў туды для чытання лекцый і правядзення даследаванняў. Выехаў, папрацаваў і вярнуўся ў Беларусь.

Свет становіцца больш кампазіцыйным, праца — больш мабільнай. Вы можаце атрымаць добры кантракт на даследаванні, папрацаваўшы год, і зробленых 100 тысяч долараў вам хопіць надоўга.

Сучасная карціна міграцыі не адпавядае таму, што было ў XIX або XX стагоддзях. Зараз мазгі падарожнічаюць па ўсім свеце. Самая буйная фірма, якая арганізоўвае падарожжа мазгоў, — інтэрнэт.

Эканаміст адзначае, што самы просты метад падліку, колькі беларусаў выехала працаваць за мяжу, — апытанні хатніх гаспадарак і насельніцтва.

— Такія даследаванні праводзілі Вардамацкі і Манаеў. Паводле іх, каля 30% працоўных выязджае на працу за мяжу. Мяркую, колькасць беларусаў, якія выязджаюць на заробкі, можа дасягнуць і паўтара мільёна.

З ухвалы і пры падтрымцы Лукашэнкі свабодны выезд на працу за межы Беларусі з'яўляецца дзяржаўнай палітыкай. Гэтую перавагу стварылі беларускія ўлады, дамовіўшыся з рускімі і казахамі пра адзіную прастору, якая ў тым ліку прадугледжвае свабодны рух працоўнай сілы.

Леанід Заіка называе плюсы, якія дае магчымасць папрацаваць у іншых краінах.

— Гэта тэст, наколькі чалавек здольны працаваць у іншамоўным асяроддзі. Другі момант — павышэнне прафесійнага ўзроўню. Мае знаёмыя прадпрымальнікі наймалі рабочых на будоўлю ў Польшчы. Аказалася, што нашы бетоншчыкі не ўмеюць працаваць з арматурай.

У ТОП–10 краін, у якія часцей за ўсё выпраўляюцца на заробкі беларусы, увайшлі: Расія, Польшча, Літва, ЗША, Германія, Чэхія, Фінляндыя, Кітай, Катар, Карэя.

— Спіс краін спецыфічны і вызначаецца прафесійным падыходам, — каментуе Заіка. — Сярод гастарбайтэраў шмат будаўнікоў, часткa едзе на часовыя заробкі — прыбіраць ураджай.

Вахтавым метадам беларусы працуюць у газа- і нафтаздабываючых расійскіх рэгіёнах. Шмат жанчын з'язджае працаваць у Расію ў сферы паслуг — догляд за дзецьмі, прыборка дамоў. Можна зарабляць тысячу долараў на месяц, займаючыся выхаваннем дзяцей.

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

# Справай Галко створаны небяспечны прэцэдэнт

Мікалай ДЗЯДОК

**Суд Савецкага раёна прысудзіў Дзмітрыю Галко 4 гады абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу. Прасцей кажучы — «хімію». Пракурор прасіў за нібыта два ўдары кулаком міліцыянта — тры гады пазбаўлення волі.**




Зміцер Галко — журналіст, які працаваў у «Беларускім Партызане», «Новым Часе» і шэрагу іншых выданняў. Таму акалічнасці яго справы ад пачатку выклікалі ў грамадства пытанні. Было ж іх, сумнеўных акалічнасцяў, занадта шмат, каб лічыць гэтую справу побытавай.

Прысуды па палітычных справах у Беларусі — заўсёды маркёр хістанняў палітычнага рэжыму ў той ці іншы бок. Па тым, колькі гадоў, чаго і каму далі, можна вызначыць, як далёка хістаецца стрэлка «жэстачайшасці».

«Палітычны складнік тут быў ад самага пачатку. Калі б яго не было, ніякага прысуду б не было. Мяне б апраўдалі альбо далі б нейкі арышт: няма доказаў, адны супярэчнасці. Я не бачыў у турме аніводнай такой справы, каб была такая крывая», — сказаў Зміцер у каментары НЧ.

Ускосна гэты факт пацвярджаецца стаўленнем сукамернікаў і міліцыянтаў да вязня: «Абсалютна ўсе [ставіліся] як да палітычнага. Прычым і міліцыянты, ад самага пачатку — ад Сланіму — казалі: «Гэта асаблівы чалавек». Хто казаў «бандэравец», хто — «апазіцыя». Усюды, аж да самага апошняга міліцыянта ведалі. Зараз, калі мяне выпускалі, яны па тэлефоне размаўлялі: «Тут у нас апазіцыю выпускаюць». І пералічвалі, хто прыйшоў, якія СМІ, што Статкевіч быў».

Нават тое, што прысуд па такому «трыгернаму» для МУС артыкулу (гвалт у дачыненні да міліцыянта) не быў звязаны з пазбаўленнем волі, таксама ўскосна сведчыць, што меркаванні Галко маюць падставу. У перыяды, калі няма пратэстаў, улада намагаецца не адпраўляць на нары актывістаў і журналістаў, абмяжоўваючыся ўмоўнымі тэрмінамі, адтэрміноўкамі, «хіміямі» і залікам утрымання пад вартай падчас следства.

Непасрэдных і несупярэчлівых відавочцаў збіцця міліцыянта Дзмітрыем Галко так і не знайшлося. А сам Галко віну адмаўляў: «Уся справа складалася з супярэчнасцяў. Увесь час казалася пра нейкі алкаголь. П'яны — не п'яны. Больш нічога ў судзе не гучала».

Тактыка «мяккіх прысудаў», якой карыстаецца ўлада апошнія гады, дазваляе дасягнуць мэтаў: ізаляваць арыштанта ад актыўнай грамадзянскай (ці ў выпадку з Галко — журналісцкай) дзейнасці і запалохаць іншых. Свае некалькі месяцаў у СІЗА Галко ўсё ж адседзеў, а «хімія», хоць і не лагер, але ўстанова рэжымная.

«Яны правільна вырашылі: калі я паеду на «хімію», пра гэтую справу амаль адразу забудуцца. Што такое хімія? Жыве чалавек амаль на волі, працуе. У гэтым сэнсе я нават незадаволены. Калі б я сядзеў у турме, пра справу памяталі б. На «хіміі» забудуць, але я ўсё роўна буду сядзець», — казаў Зміцер пасля суду.

Умацавала гэтая справа і яшчэ адну, значна больш падступную практыку: караць людзей не па палітычных артыкулах, а ствараць сітуацыі для асуджэння па артыкулах побытавых. Так было з Андрэем Бандарэнкам (хуліганства), з Міхаілам Жамчужным (па «хабарніцкіх» артыкулах), Эдуардам Пальчысам (распальванне міжнацыянальнай варожасці), Уладзімірам Кондрусем (масавыя беспарадкі), Алегам Жалновым (гвалт у дачыненні да міліцыянта), са зняволенымі антыфашыстамі (таксама хуліганства)... Даволі часта ўладзе атрымліваецца дамагчыся, каб на міжнародным узроўні людзі не былі прызнаныя палітвязнямі, бо фармальна асуджаныя за ўчынкі, нібыта не звязаныя з палітыкай...

Варта адзначыць, што са справай Галко створаны яшчэ адзін небяспечны прэцэдэнт: выкарыстанне непаўналетніх дзяцей як нагоду для ўварвання міліцыянтаў у кватэру і далейшага ўчынення ў ёй гвалту. Прытым, вядома, пра пакаранне міліцыянтаў і гаворкі не ідзе. Міліцыянт, атрымліваецца, — асоба недатыкальная, нават калі сам творыць беззаконне і ўчыняе гвалт.

Увогуле ж, хуткасць, з якой дзяржава адаптуецца да новых умоваў, стварае новы кантэкст, калі пры наяўнасці ў Крымінальным кодэксе палітычных артыкулаў, сядзець «палітычныя» будуць выключна за хуліганства, гвалт у дачыненні да міліцыянтаў, хабары і няяплату падаткаў. Ці гатовая грамадзянская супольнасць, праваабаронцы і палітычныя актывісты да гэтай новай рэчаіснасці? Пытанне адкрытае.

# Рэстарацыя «Паедзем, паядзім» трапляе пад байкот

Міхаліна МЯТЛІК

**Абаронцы Курапатаў агучылі комплекс захадаў, якія яны будуць ажыццяўляць у дачыненні да скандальнай рэстарацыі.**

Каардынатар пратэстаў Павел Севярынец заклікаў ужо з 19 ліпеня далучацца да пікетавання яшчэ аднаго з рэстаранаў уладальнікаў «Паедзем, паядзім» у Мінску — «Гранд Кушавель». Абаронцы плануюць раздаваць улёткі, тлумачыць наведвальнікам, чым бізнесоўцы Зайдэс і Сурыс займаюцца ў Курапатах, і рэкамендаваць не наведваць рэстаран. Паралельна з 12.00 будзе працягвацца варта ў Курапатах.

Акрамя таго, будзе весціся праца з пастаўшчыкамі прадуктаў для «Паедзем, паядзім». Ужо накіраваныя звароты з заклікам спыніць супрацоўніцтва да кампаній «Лідскае піва», «Vino&Vino», «Мароз прадукт», е-дастаўку «Еўраопта». Аналагічныя лісты атрымаюць і іншыя пастаўшчыкі. Калі гэтыя звароты праігнаруюць, распачнецца кампанія закліку да байкоту праз сацыяльныя сеткі.

У замежныя пасольствы будуць накіраваныя прапановы не выдаваць візы ўласнікам, службоўцам, ахоўнікам і найбольш агрэсіўным наведвальнікам «Поедем, поедим». Шэраг дзеянняў па байкоце будзе адбывацца ў інтэрнэце.

20 ліпеня а 12.00 на Сядзібе БНФ збярэцца штаб грамадскага байкоту. Абаронцы запрашаюць людзей далучацца і падкрэсліваюць, што ўсе дзеянні па байкоце будуць адбывацца негвалтоўна. «Гвалт ідзе ад уласнікаў рэстарацыі, не ад нас», — адзначаюць абаронцы.

Кіраўніца ініцыятывы «За ўратаванне мемарыялу Курапаты» Ганна Шапуцька адзначыла, што ўпершыню сутыкнулася з маўчаннем пракуратуры: ведамства ўжо месяц не адказвае на яе зварот, хаця павінна гэта зрабіць цягам двух тыдняў. Пракуратура яўна чакае, не ведае, як рэагаваць. Абаронцы атрымалі адказы з рай- і аблвыканкама, з Міністэрства культуры. Апошняе сцвярджае, што не зацвярджала праект «Бульбаш-хола»(!), абмяркоўвалася толькі ўстанова прыдарожнага сервісу ІП Лебедзевай.

На думку Ганны Шапуцькі, варта вярнуцца да ахоўных зон Курапатаў станам на 2003 год. У сваёй прамове актывістка згадала даследаванні Дзяніса Івашына, апублікаваныя на старонках «Новага Часу», дзякуючы якім высветлілася, што большасць акцый «Паедзем, паядзім» належыць не беларусам. Рэстаран яўна не мае прыбыткаў ад наведвальнікаў, магчыма, «выжывае» за кошт кейтэрынгу. «Справа годнасці кожнага беларуса — абараніць мемарыял», — кажа спадарыня Ганна.

Пасля прэс-канферэнцыі частка абаронцаў паехала ў Адміністрацыю Лукашэнкі перадаваць зварот з патрабаваннем правесці праверку і перагледзець ранейшы дазвол на дзейнасць рэстарацыі побач з месцам расстрэлаў.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Неграмадзянская несупольнасць

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Аляксандр Рыгоравіч — агульнапрызнаны спецыяліст ва ўсім: ад сельскай гаспадаркі да футболу, ад запуску спадарожнікаў да мовазнаўства. Вось і зараз ён вынайшаў простую формулу ў грамадазнаўстве і сацыяльных навуках. «Грамадзянская супольнасць — гэта грамадзяне», — шчыра заявіў ён.**

Падаецца, калі б браты Стругацкія жылі сёння і ў Беларусі, яны б напісалі і трэцюю кнігу з цыклу «Панядзелак пачынаецца ў суботу», а наш Аляксандр Рыгоравіч даў бы шмат яскравых і смачных выразаў для постаці прафесара Выбягаллы. Так, грамадзянская супольнасць — гэта грамадзяне. Самалётабудаўніцтва — гэта самалёты. А сельская гаспадарка — гэта гаспадарка. Толькі сельская.

«Гэта не тое, што тры апазіцыянеры, два чыноўнікі і яшчэ нейкія арганізацыі. Грамадзянская супольнасць — гэта грамадзяне. А грамадзяне нашай краіны ў сваёй большасці — гэта і ветэраны, і моладзь, якую прадстаўляюць нашы, як я іх называю, камсамольцы — БРСМ, гэта прафсаюзы і жаночая арганізацыя», — заявіў 17 ліпеня Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з намеснікам старшыні Савета рэспублікі Мар'янай Шчоткінай.

Настаўніца, дырэктарка школы і выпускніца Ленінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта слухала гэтыя развагі, і нават не запярэчыла. Канешне, паводле тэрміналогіі, якая ўжываецца ў паліталагічнай навуцы, «грамадзянская супольнасць» з'яўляецца сферай самавыяўлення свабодных грамадзян і добраахвотна сфармаваных некамерцыйных асацыяцый і арганізацый, абароненых ад умяшання і адвольнай рэгламентацыі з боку дзяржаўнай улады і бізнесу, а таксама іншых знешніх фактараў. Больш за тое, гэтыя арганізацыі і асацыяцыі маюць на мэце выказванне сваёй пазіцыі і вырашэнне сваіх праблемаў. Шчоткіна магла гэта ведаць, магла не ведаць, але...

Калі б яна паспрабавала гэта патлумачыць Лукашэнку, іх размова зацягнулася б да ночы. Прыйшлося б тлумачыць, што чыноўнікі тут ні да чаго. Што БРСМ, які беспаспяхова фінансуецца з бюджэту, — не грамадзянская супольнасць. Што ветэраны і пенсіянеры, не аб'яднаныя агульнай мэтай, — таксама не грамадзянская супольнасць. Што грамадзянскай супольнасцю нельга лічыць праўладныя прафсаюзы... Думаю, усяго б гэтага Аляксандр Рыгоравіч проста не зразумеў бы. Нават калі б яму гэта тлумачыла выпускніца ЛенДУ.

Але ці суаўтарка першага варыянту дэкрэта пра дармаедаў і ініцыятарка падвышэння пенсійнага ўзросту (і ўсё гэта — будучы міністаркай сацыяльнай абароны!) сама разбіраецца ў такіх рэчах? Гледзячы па яе дзейнасці на той пасадзе, для яе і «сацыяльная абарона» — даволі цьмянае паняцце.

Хаця я б у азначэнні «грамадзянская супольнасць» на першае месца ўсё ж паставіў бы супольнае вырашэнне праблемаў, якія хвалююць аб'яднанне грамадзян. Праца рэстарацыі «Паедзем, паядзім» узрушыла пэўнае кола грамадзянаў, і яны арганізавалі Курапацкую Варту — гэта грамадзянская супольнасць. БРСМ, які, па ідэі, павінен быў бы клапаціцца абсалютна аналагічнай падзеяй — знішчальным «добраўпарадкаваннем» Вайсковых могілак у Мінску, з гэтай нагоды і пальцам не паварушыў. То бок, БРСМ — не грамадзянская супольнасць.

Віцы Біран, якая пратэставала супраць гамафобных выказванняў беларускага МУС, далі 15 базавых велічынь штрафу. За лічаныя гадзіны на пляцоўцы Talaka.org для аплаты гэтага штрафу ёй сабралі ўдвая больш, чым трэба, — гэта грамадзянская супольнасць. Праўладныя жаночыя арганізацыі, якія павінны былі б клапаціцца пра правы жанчын, і праігнаравалі як выказванні МУС пра «традыцыйныя сямейныя каштоўнасці», так і прысуд Біран, — гэта не грамадзянская супольнасць.

**Улады не прызнаюць мандат спецдакладчыка ААН па правах чалавека. Каментуючы рэзалюцыю СПЧ, прэс-сакратар МЗС сказаў, што «рэзалюцыя з'яўляецца абсурдам паводле задумы і па сутнасці. Мы не прымаем гэты дакумент як палітызаваны і які скажае рэальны стан рэчаў у нашай краіне»**

Адно радуе: дзякуючы такім выказванням кіраўніцтва пра Беларусь даведваюцца ўсё больш і больш народу. Вялікі ўнёсак у вядомасць Сінявокай у сусвеце і развіццё замежнага турызму ў Беларусь зрабіў днямі Сайман Хікс, прафесар Лонданскай школы эканомікі і палітычных навук. У сваім блогу на сайце пазначанай вышэй установы, ён вылучыў дзве магчымыя мадэлі «Брэксіту» — выхаду Вялікабрытаніі з ЕС. Першая мадэль — дэрэгуляванне эканомікі, адмена «брусельскай валакіты», адкрытая іміграцыйная палітыка, падпісанне пагадненняў аб свабодным гандлі па ўсім свеце, і нават аднабаковае зняцце тарыфаў і квот на імпарт — мае назву «Сінгапур-на-Тэмзе». Другая мадэль вызначаецца павышэннем падаткаў, павелічэннем дзяржвыдаткаў, нацыяналізацыяй ключавых галін эканомікі і больш строгім рэгуляваннем рынку, у тым ліку рынку працы. І гэтая мадэль мае назву «Беларусь-на-Трэнце».

Што ні кажы, а калі імем нашай краіны называюць мадэлі — гэта ўжо дасягненне. Але, гледзячы па тым, якую мадэль назвалі «Беларуссю», усё ж становіцца неяк ніякавата.

Вывучыць унікальную беларускую мадэль знаходзіцца вельмі шмат жадаючых. Напрыклад, БелаПАН паведаміў, што на пасаду спецыяльнага дакладчыка ААН па пытанні аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі прэтэндуюць аж восем (!) чалавек. Прозвішчы кандыдатаў апублікаваныя на сайце Рады ААН па правах чалавека.

Сярод кандыдатаў Штэйнар Гіл (Нарвегія), Сатвіндэр Джас (Вялікабрытанія), Анаіс Марын (Францыя), Валеры Мажы (Францыя), Даніэль Меконен (Эрытрэя), Пятры Раман (Румынія), Джон Джозеф Раян (Ірландыя), Эндру Уілсан (Вялікабрытанія). Палітолагі лічаць фаварытам Уілсана, аднаго з найбольш аўтарытэтных заходніх экспертаў па Беларусі.

Новы спецдакладчык будзе прызначаны старшынёй Савета ААН па правах чалавека падчас вераснёўскай сесіі. Да канца кастрычніка 2018 года на гэтай пасадзе застанецца цяперашні спецдакладчык па Беларусі Міклаш Харашці, які прадставіць свой даклад аб правах чалавека ў Сінявокай на Генасамблеі ААН увосень.

Беларускія ўлады не прызнаюць мандат спецдакладчыка ААН па правах чалавека ў Беларусі. Каментуючы апошнюю рэзалюцыю СПЧ, прэс-сакратар МЗС Анатоль Глаз сказаў, што «рэзалюцыя з'яўляецца абсурдам паводле задумы і па сутнасці. Мы не прымаем гэты дакумент як палітызаваны і які скажае рэальны стан рэчаў у нашай краіне».

Хаця на месцы ўладаў я б дазволіў абрацца ўсім васьмі. Хай яны прыязджаюць у Беларусь, пакідаюць тут свае грошы, вывозяць сувеніры... Усё роўна з нашымі паняткамі «грамадзянскай супольнасці» яны ні ў чым не разбяруцца.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Міхаіл Жамчужны



**Шэраг беларускіх праваабарончых арганізацый падпісалі зварот да кіраўніка дзяржавы з просьбай памілаваць палітвязня і вызваліць яго ад далейшага адбывання пакарання.**

Праваабаронцы адзначаюць, што пры пазбаўленні волі Міхаіла Жамчужнага было парушана права на справядлівае судовае разбіральніцтва, абвінавачанне было заснавана на ўчынках, справакаваных прадстаўнікамі ўлады (а значыць, яны не з'яўляюцца злачыннымі дзеяннямі). Працягласць і ўмовы пазбаўлення волі непрапарцыйныя правапарушэнню, што дазволіла лічыць Жамчужнага палітычным зняволеным.

Да таго ж Жамчужны адбыў больш за палову тэрміну зняволення і з'яўляецца пенсіянерам. Таму праваабаронцы звярнуліся да Лукашэнкі з просьбай аб памілаванні палітвязня і вызваленні яго ад далейшага адбыцця пакарання.

## Рыгор Кастусёў



**Старшыня Партыі БНФ абвясціў пра прыпыненне сваёй працы па арганізацыі перамоў з уладальнікамі рэстарацыі «Паедзем, паядзім» у Курапатах. Пра гэта палітык заявіў праз акаўнт у Фэйсбуку.**

Па словах Кастусёва, сітуацыя вакол забаўляльна-рэстарацыйнага комплексу «Паедзем, паядзім» каля Курапатаў абвастрылася. У той жа час, 16 ліпеня на нарадзе аргкамітэту абаронцаў Курапатаў прадстаўнікі шэрагу арганізацый-удзельніц Курапацкай Варты заявілі яму пра недавер — як асобе, што ўзяла на сабе арганізацыю перамоў паміж прадстаўнікамі грамадскасці і ўладальнікамі рэстарацыі.

«Лічу, што абавязковай умовай поспеху справядлівага і маральна абгрунтаванага грамадскага ціску ў цяперашняй сітуацыі вакол Курапатаў з'яўляецца безумоўная еднасць пазіцый пратэстоўцаў. Для плённай працы па арганізацыі перамоў мне было важна адчуваць падтрымку з боку арганізацый, якія бяруць удзел у Курапацкай Варце. Вынікі нарады 16 ліпеня сведчаць, што з боку шэрагу арганізацый гэтая падтрымка страчаная. Адпаведна, я не лічу сабе ўпаўнаважаным на арганізацыю перамоўнага працэсу», — заявіў Кастусёў.

«З улікам выкладзенага я спыняю свае функцыі па арганізацыі перамоў паміж уладальнікамі рэстарацыі «Паедзем, паядзім» і пратэстоўцамі», — напісаў палітык.

## Аляксандра Герасіменя



**Шматразовая прызёрка Алімпійскіх гульняў і чэмпіёнка свету па плаванні Аляксандра Герасіменя не выступіць на першынстве Еўропы, якое адбудзецца з 2 па 12 жніўня ў Глазга.**

Справа ў тым, што спартсменка цяжарная. «Год таму я выйшла замуж за чалавека, разам з якім шчаслівая, — гаворыцца ў звароце Герасімені да заўзятараў. — Вядома, марыла пра тое, каб стаць маці, хоць яшчэ некаторы час таму я не была ўпэўненая, што гэта здарыцца так хутка. Рыхтавалася да чэмпіянату Еўропы, які пройдзе ў жніўні. У верасні нашу з Жэняй сям'ю чакае папаўненне, і я думаю, што настаў час расказаць пра гэта. Я жадаю сваім партнёрам па камандзе і асабліва мужу ўдачы на маючым адбыцца першынстве. Буду перажываць і хварэць за іх у экрана тэлевізара».

У жніўні 2017 года Аляксандра Герасіменя выйшла замуж за Яўгена Цуркіна — чэмпіёна Еўропы і аднаго з лідараў нацыянальнай зборнай па плаванні.

Між тым, кропку ў кар'еры Герасіменя ставіць не збіраецца. «У плаванні ў мяне застаецца незавершаная справа — перамога на Алімпійскіх гульнях. Іншыя вяршыні мне скарыліся, а гэтая — нібы чарвяк, маё сэрца точыць. Можа, у наступны раз у мяне атрымаецца? Прыклад Дашы Домрачавай, якая пасля нараджэння дачкі здолела ў чацвёрты раз стаць алімпійскай чэмпіёнкай, натхняе. Сапраўды гэтак жа, як і поспехі плыўчыхі Дары Торэс. Дара пасля родаў выйграла тры срэбра на Алімпіядзе-2008. Срэбра ў мяне ёсць, а хочацца залаты медаль. І ўжо калі вяртацца ў спорт, то рабіць гэта трэба так, каб быць гатовай да Алімпіяды 2020 года ў Токіё», — заявіла Герасіменя.

а | Азбука паліталогіі

# Тэктанічны зрух у Хоцімскім раёне



Сяргей НІКАЛЮК

**Калі на рынку тавараў «камандуюць» попыт і прапанова, то на адміністрацыйным рынку — справядлівасць, але чыноўнікі прызначылі сябе адказнымі за яе падтрыманне.**




Тэктанічныя зрухі, насуперак уяўленням геолагаў, назіраюцца не толькі ў зямной кары. Прывяду прыклад, запазычаны з артыкула Валерыя Каранкевіча «Хто заўтра напоіць нас малаком?» у «СН плюс». Былы першы намеснік Хоцімскага раёна прыводзіць наступную статыстыку: у 1980-я гады ў раёне пражывалі каля 20 тысяч чалавек. У той час у райвыканкаме працавалі 27 дзяржслужачых, а даярак налічвалася больш за 280. І толькі трое дзяржслужачых атрымлівалі заробак у 250 рублёў (першы сакратар райкама партыі, старшыня райвыканкама і першы намеснік). Заробак даярак перавышаў 400 рублёў. Сёння насельніцтва скарацілася ўдвая, колькасць апаратараў машыннага даення — у 3,5 разы. Колькасць служачых у раённай адміністрацыі не змянілася. Іх заробак складае прыкладна 1300 рублёў пры сярэднім заробку апаратараў у 130 рублёў.

Вось такі тэктанічны зрух раённага маштабу. 30 гадоў таму заробкі даярак былі ў 1,6 разы большымі за заробак самых высокааплатных раённых чыноўнікаў. Сёння сярэдні заробак чыноўнікаў перавышае зарплату апаратараў машыннага даення ў 10 разоў!

Як такое стала магчымым? Была народная дзяржава — стала дзяржава для народа. Няўжо ўся справа ў прыназоўніку? Без бутэлькі тут не разабрацца. Але я — чалавек непітушчы, што рэзка зніжае мае шанцы дакапацца да ісціны. Тым не менш, паспрабую.

## Роўнасць у беднасці

Савецкае грамадства — класічны прыклад грамадства мабілізацыйнага тыпу. Народная дзяржава пастаянна канцэнтравала масавую ўвагу на праблемах і пагрозах. Ад насельніцтва патрабавалася то даць адказ Кірзону, то затаіўшы дыханне сачыць за выратаваннем чалюскінцаў, то змагаецца з бязроднымі касмапалітамі. Важнай умовай падтрымання мабілізацыйнага ўзбуджэння было максімальнае спрашчэнне «карціны свету» да апазіцыі кшталту «свае — ворагі».

«У надзвычайных умовах войнаў і крызісаў, — тлумачыў сацыёлаг Юрый Лявада, — падобныя працэсы адбываюцца ў розных грамадствах на працягу нейкіх адрэзкаў часу. Калі яны робяцца неабходнымі перадумовамі самога існавання грамадскай сістэмы (выдзелена. — С.Н.), апошнюю правамерна разглядаць як мабілізацыйную».

Падтрыманне грамадства ў стане перманентнай мабілізацыі дазваляла дзяржаве на працягу дзесяцігоддзяў праводзіць палітыку «гарматы замест масла», накіроўваючы на сілавыя структуры і ваенна-прамысловы комплекс больш за 50% ВУП. Але ва ўмовах такога зруху ў размеркаванні рэсурсаў, дэманстрацыя партыйна-гаспадарчай элітай свайго сацыяльнага статусу з дапамогай прэстыжнага спажывання магла б разгарнуць палітычную актыўнасць мабілізаваных мас не супраць міфічных ворагаў, а супраць... эліты, што, дарэчы, і адбылося ў Перабудову.

Роўнасць у беднасці была важнай умовай падтрымання сацыяльнай стабільнасці на 1/6 частцы сушы. Такая была адна з генеральных ліній партыі. Аднак правядзенне яе ў жыццё патрабавала вялікага напружання, бо самі члены партыі ўвесь час шукалі спосабы ўхіліцца ад правядзення партыйнай лініі. І чым вышэй быў статус «ухіліста», тым больш у яго было для гэтага магчымасцяў.

Ва ўмовах усеагульнага дэфіцыту грошы не цалкам выконвалі свае функцыі меры каштоўнасці, сродкаў абарачэння і плацяжу. Таму за адну і тую ж колькасць рублёў высокапастаўлены чыноўнік у параўнанні са звычайным рабацягам мог набыць прынцыпова іншую колькасць тавараў, і — што вельмі важна! — прынцыпова іншай якасці ды асартыменту.

Элітныя дамы па спецпраектах будаваліся і ў часы «дарагога Леаніда Ільіча», але гэта была вельмі і вельмі аскетычная паводле сучасных мерак элітарнасць. Сам Брэжнеў, напрыклад, жыў у «двушцы» плошчай 54 квадратныя метры. Так, у цэнтры Масквы. Так, на Кутузаўскім праспекце. Так, столі былі 3,5 метра. Ну і што!

## Мастацтва набываць

Доўга трымаць грамадства ў стане мабілізацыі здольная толькі адмалізаваная эліта. Больш за тое, сам працэс мабілізацыі, як сведчыць гістарычны вопыт, у Расійскай імперыі заўсёды пачынаўся зверху. Але адна справа — мабілізаваць селянін і гараджан у першым пакаленні, што жывуць у завадскіх бараках, і зусім іншая — уладальнікаў асобнай кватэр у стандартных пяціпавярховіках (хрушчоўках), якія паспелі далучыцца да масавага спажывання.

Калі ў першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі памкненні большасці савецкіх людзей шмат у чым вызначаліся формулай: «Толькі б не было вайны», дык да пачатку 1970-х гадоў гэтая формула, а разам з ёй і вера ў камунізм, былі адціснутыя на задні план, што негатыўна адбілася на жаданні савецкага чалавека адгукацца на мабілізацыйныя заклікі. З гэтага часу і ў геаметрычнай прагрэсіі ён жадаў спажываць, і пажадана не вырабы айчыннай фабрыкі «Скараход», а фірму (націск на апошні склад).

Не лічыцца з такім жаданнем партыі не магла. Як гаворыцца, за што змагаліся, на тое і нарваліся. Столькі гадоў прапаганда паўтарала адно і тое ж, што ў краіне, дзе перамагла дыктатура пралетарыяту, вытворчасць вядзецца ў інтарэсах працоўных, і таму найбольш поўнае задавальненне іх растучых матэрыяльных і культурных патрэбаў становіцца непасрэднай мэтай вытворчасці.

«Галоўнае пасланне спажывецкіх рынкаў, — тлумачыць сацыёлаг Зыгмунт Бауман, — сапраўднае іх метапасланне — палягае ў наступным: любога кшталту дыскамфорт і нязручнасці з'яўляюцца зневажальнымі. Менавіта дзякуючы таму, што гэта маркетынгавае пасланне ўспрымаецца будучымі спажыўцамі, рынкі атрымліваюць найбольш эфектыўную ўладу. Шматграннае мастацтва жыцця можа быць цяпер зведзенае да адной тэхнікі — разумнае і паслядоўнае мастацтва набываць».

**«Мастацтва набываць» для тых, хто стаіць ля станка і ля даільнага апарата, сёння зводзіцца да мастацтва пошуку танных прадуктаў харчавання. І авалодаць ім не так проста**

Няма нічога дзіўнага ў тым, што ў першых шэрагах авалодаўшых такім запатрабаваным народнымі масамі мастацтвам, апынуліся не тыя, хто выраблява дэфіцыт, а тыя, хто яго размяркоўваў. Яны і сталі асноўнай рухаючай сілай Перабудовы. Натуральна, яны і былі галоўнымі бенефіцыярамі.

Рынак не толькі запоўніў таварамі калісьці наогул пустыя паліцы крамаў, але ў аўральным рэжыме шматкроць павялічыў колькасць саміх паліц. Уся звыклая для заходняга чалавека разнастайнасць маркеаў — ад міні- да супер- і гіпер- — пераехала з галівудскіх фільмаў у паўсядзённае жыццё беларусаў.

Але дэфіцыту ад гэтага менш не стала, толькі цяпер ён прыняў форму дэфіцыту... грошай. І ў гэтым плане нічога прынцыпова не змянілася. «Мастацтва набываць», для тых, хто стаіць ля станка і ля даільнага апарата, сёння зводзіцца да мастацтва пошуку танных прадуктаў харчавання. Авалодаць ім не так проста: карткі спажыўцоў, зніжкі для пенсіянераў да 12.00, распродажы... усяго і не пералічыш.

Ад перспектывы, што адкрылася, кружыцца галава. Таму зноў звярнуся па дапамогу да Зыгмунта Баўмана: «На ранняй стадыі развіцця для таго, каб чалавечы род мог сумесна дасягнуць таго, чаго малаверагодна было дасягнуць кожнаму яго прадстаўніку паасобку, нам быў патрэбны наследны прынц, харызматычны лідар ці народныя дэпутаты, чыя сіла прымусу была ўвасобленая ў дзяржаве. У сучасным індывідуалізаваным грамадстве спажывання гэтая задача кладзецца на спажывецкія рынкі з іх магчымасцямі спакушэння. Менавіта яны бяруць на сябе тую ролю, якую раней адыгрывала дзяржава».

## Беларускі брэнд

Рынак забяспечвае багаты выбар тавараў, і разам з тым схаваны ад староннягa назіральніка яго адміністрацыйны двайнік падтрымлівае дэфіцыт грошай. На рынку тавараў «камандуюць» попыт і прапанова, на адміністрацыйным рынку — справядлівасць, ролю манапольных агентаў якой узялі на сябе чыноўнікі. Вынік іх дзейнасці ў асобна ўзятым раёне і апісаў Валерый Каранкевіч.

Справядлівасць — брэнд «беларускай мадэлі». Гэта «наша ўсё», або амаль «наша ўсё». Вось, напрыклад, якімі словамі адзіны палітык (АП) даваў наказы новапрызначаным кіраўнікам 18 красавіка 2018 года: «Справядліва ўсё павінна быць. Усяго ў законах не прапішаш. І калі дзесьці не хапае заканадаўчай базы — дзейнічай па справядлівасці. Справядлівасць вышэй за закон заўсёды, калі на тое пайшло. Бываюць несправядлівыя законы, а само паняцце справядлівасці (можна сказаць, філасофскае паняцце) абсалютнае. Таму зыходзіць трэба заўсёды з гэтага».

Вось чыноўнікі і дзейнічаюць! Па прыклады далёка хадзіць не трэба. Калі для АП «ёсць нейкі стандарт — ён і ў вопратцы, і ў гальштуках, і ў кашулях, і ў гадзінніках», пра што ён і заявіў на прэс-канферэнцыі беларускім і замежным СМІ ў студзені 2013 года, дык чаму б яму (стандарту) не існаваць для АП рэгіянальнага маштабу?

З апаратарамі машыннага даення замежныя журналісты перасякаюцца ў выключных выпадках, чаго не скажаш пра кіраўнікоў адміністрацый усіх узроўняў. Па кіраўніках яны і складаюць меркаванне пра краіну ў цэлым, пра яе народ, — такім чынам, і пра тых, хто сваёй працай забяспечвае харчовую бяспеку краіны. Справядліва? Я думаю, справядліва.

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Валожын — адзін з пяці пілотных гарадоў, у якім прымяняюцца ідэі Канвенцыі ААН аб правах інвалідаў, што была падпісаная Беларуссю 28 верасня 2015 года. Працоўная група на працягу васьмі месяцаў падрыхтоўвала глебу дзеля таго, каб прымяняць канвенцыю на практыцы. Гэтая кампанія называецца «Павестка 50».**



Валожынская працоўная група

Фота Вікторыі Чаплевай

**Адна з галоўных праблем — сацыяльныя прымхі ў адносінах да дзяцей з інваліднасцю. Тыя, хто працаваў над праектам, папросту размаўлялі з бацькамі, школьнікамі, педагогамі пра тое, што, калі дзіця з інваліднасцю сядзіць за адной партай са здаровым дзіцём, — гэта нармальна**

# «Дзеці пачынаюць бачыць іншых дзяцей»

### Дзеля чаго патрэбна «Павестка 50»?

«Цяпер я ведаю, што ёсць спецыяльная кніга, у якой напісана ўсё пра людзей з інваліднасцю, — кажа Арцём, выхаванец дзіцячага дому-інтэрната ў Івянцы. — Пакуль шмат яшчэ чаго не разумеем і саромеемся запытаць. Але на наступнай лекцыі будзем задаваць пытанні!»

Так Арцём сказаў пра трэнінгі, якія праводзіліся ў інтэрнаце ў межах кампаніі «Павестка 50». Праектная каманда правяла шэраг мерапрыемстваў для таго, каб праінфармаваць людзей з інваліднасцю і лакальную супольнасць пра Канвенцыю аб правах людзей з інваліднасцю.

Праект «Павестка 50», які рэалізуецца пры фінансавай падтрымцы Еўрапейскага саюза, пачаў дзейнічаць у Валожынскім раёне восем месяцаў таму. Каб пачынаць рэалізоўваць ідэі Канвенцыі аб правах людзей з інваліднасцю, былі абраныя пяць пілотных гарадоў: Стоўбцы, Бабруйск, Столін, Шчучын і Валожын.

Дырэктар Офіса па правах людзей з інваліднасцю Сяргей Драздоўскі распавёў, з чаго пачалася задума кампаніі ў рэгіёнах Беларусі. «Мы глядзелі, як у іншых краінах Канвенцыя прасоўваецца па рэгіёнах. Часта бывае, што кажуцца прыгожыя словы, а на практыцы атрымліваецца па-іншаму. Таму і з'явілася «Павестка». Лічба «50» у назве праекту — колькасць артыкулаў Канвенцыі. І сэнс «Павесткі 50» у тым, каб кожны артыкул Канвенцыі мог рэалізоўвацца на мясцовым узроўні. Нам трэба ісці двухбаковым рухам: з аднаго боку, дзяржава мусіць выконваць свае абавязкі, а з іншага — грамадства павінна прымаць удзел у інклюзіі. Трэба, каб абодва бакі ішлі насустрач адзін аднаму».

Кампанія «Павестка 50» — гэта своеасаблівая стратэгія таго, як канвенцыю аб правах людзей з інваліднасцю можна ажыццявіць у рэгіёнах. Галоўная задача — зрабіць запісаныя ў канвенцыі прынцыпы звычайнай штодзённасцю.

Па словах Сяргея Драздоўскага, у Валожыне ёсць актыўныя людзі, якія падхапілі праект. Усе мерапрыемствы рабіліся, каб Валожын паступова станавіўся больш інклюзіўным, а канвенцыя — больш рэальнай.

### Як ішла праца?

Згодна статыстыцы, у Валожынскім раёне пражываюць 2421 чалавек з рознымі групамі інваліднасці.

Калі Валожын быў абраны пілотным горадам, там адразу арганізавалася працоўная група. У яе ўвайшлі прадстаўнікі Беларускага таварыства інвалідаў па зроку, Беларускае таварыства інвалідаў, БелАПДІіМІ, людзі з інваліднасцю, прадстаўнікі дзяржаўных арганізацый, эксперты. Гэтая група распрацоўвае дакумент, які дапамагае імплементацыі Канвенцыі.

Адна з галоўных праблем, якая высветлілася на працягу працы над праектам, — сацыяльныя прымхі ў адносінах да дзяцей з інваліднасцю. Улічваючы, што галоўным інструментам па ажыццяўленні пастаўленых задач з'яўляецца інфармаванне, то тыя, хто працаваў над праектам, папросту размаўлялі з бацькамі, школьнікамі, педагогамі пра тое, што, калі дзіця з інваліднасцю сядзіць за адной партай са здаровым дзіцём, — гэта нармальна.

Па словах прадстаўнікоў працоўнай групы, у раёне ёсць спецыялізаваныя школы, надомнае навучанне, але няма інклюзіўных класаў.

Але, як аказалася, вынікі нават пасля простых гутарак значныя. «Дзеці пачалі бачыць іншых дзяцей», — пракаментавала Юлія Язерская, дырэктарка ДУА «Валожынскі раённы цэнтр карэкцыйна-развівальнага навучання і рэабілітацыі», начальнік дзіцячага летняга аздараўляльнага лагера «Дружба» з кругласутачным знаходжаннем дзяцей на базе ДУА «Чэхаўшчынская ўспамагальная школа-інтэрнат». Юлія распавяла пра тое, што здаровыя дзеці дапамагаюць асаблівым дзеткам апранацца, умывацца, прыбіраць у сваіх пакоях.



Выхаванец Івацэвіцкага інтэрнату Арцём

Фота Вікторыі Чаплевай



Узнагароджанне офісу па правах людзей з інваліднасцю

Наступная праблема Валожына — адсутнасць безбар'ернага асяродку. Падчас дзеяння праекту «Валожын без бар'еру» (а ён ідзе ўжо трэці год) у дваццаці васьмі ўстановах пабудавалі пандусы, па раёне пераклалі бардзюры. У Налібоцкай пушчы была адкрыта экалагічная сцяжынка, прыстасаваная да людзей з інваліднасцю.

Галіна Рай, дырэктар дзяржаўнай установы «Валожынскі тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва», сказала, што цяпер да адкрыцця рыхтуюцца аграсядзібы, прыстасаваныя да людзей з інваліднасцю, нумар у Валожынскай гасцініцы і хостэл, які будзе знаходзіцца на другім паверсе тэрытарыяльнага цэнтру.

На пытанне пра тое, у чым заключаюцца плюсы «Павесткі 50», улічваючы, што і да рэалізацыі праекта ў Валожыне паспяхова будавалі безбар'ерны асяродак, Галіна адказала: «Мы пачалі думаць пра тое, што патрэбна самім інвалідам. Мы сталі ездзіць, запытваць, ці патрэбна ім тое, пра што думаем мы. А з іншага боку, людзі з інваліднасцю часта ставяцца да дзяржавы па-спажывецку. І мы пачалі тлумачыць, што, калі дзяржава ім нешта абавязана, то яны перад дзяржавай таксама маюць пэўныя абавязкі. І, канечне, дзякуючы Офісу па правах людзей з інваліднасцю, мы цяпер больш пісьменныя юрыдычна».

### Вынікі

Ларыса Шчарбачэвіч, менеджарка праекта па Валожынскім раёне, зазначыла, што, дзякуючы выязным кансультацыям, каманда здолела данесці юрыдычны бок да людзей з інваліднасцю: «Мы выявілі праблемы мясцовага насельніцтва. Часта гэтыя праблемы тычыліся асабістых спраў, але іх можна было вырашыць».

Каманда праводзіла семінары і трэнінгі па асабовым росце не толькі ў Валожыне, але і ў дамах-інтэрнатах і тэрытарыяльных цэнтрах у Валожынскім раёне. Да прыкладу, у Івянецкім доме-інтэрнаце былі праведзеныя два семінары па прынцыпе «роўны навучае роўнага», восем заняткаў па самаадвакатаванню. Дзякуючы гэтаму людзі з інваліднасцю вучыліся сябе самапрэзентаваць і даведваліся пра свае правы і абавязкі.

Па словах Ларысы, падчас рэалізацыі праекта ў раёне палепшыліся міжвектарнае і міжсектарнае ўзаемадзенне, сітуацыі для мэтавых груп, прыцягнуліся валанцёры ў дзейнасць праекта, з'явілася яскравае разуменне імплементацыі палажэнняў канвенцыі.

Да працы з мэтавай групай далучыліся валанцёры, сярод якіх былі і самі людзі з інваліднасцю.

Паводле меркавання Сяргея Драздоўскага, валожынскай камандзе атрымалася рэалізаваць важны момант канвенцыі — уключэнне: «Камандзе не ўдалося б ахапіць столькі людзей, калі б яна не прыцягнула да працы ў якасці валанцёраў саміх людзей з інваліднасцю. Да таго ж, каманда знайшла кропкі сутыкнення з мясцовымі ўладамі».

Падаецца, вынікі працы зараз нельга памацаць рукамі. Але галоўнае — гэта якраз інфармаванне і праца з насельніцтвам. Вынікі гэтага этапу «Павесткі 50» і сабраныя матэрыялы будуць служыць дзеля імплементацыі канвенцыі ў Валожынскім раёне.

**Артыкул падрыхтаваны ў межах кампаніі «Павестка 50», якая фінансуецца ЕС**

# Ганна Шапуцька: Нас чакаюць яшчэ горшыя падзеі ў Курапатах

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Заўсёды здзіўлялася, адкуль у гэтай жанчыне столькі ўпэўненасці, спакою і энергіі. Я пазнаёмілася са спадарыняй Ганнай на адным з мітынгаў, дзе яна збірала подпісы, каб спыніць працу маючага адчыніцца тады яшчэ «Бульбаш-хола». Пасля былі талака і акцыі ўшанавання памяці рэпрэсаваных у Курапатах, вечарыны салідарнасці з палітвязнямі, з Украінай, зноў Курапаты, Благаўшчына, Лошыца...**

Калі, дамаўляючыся з Ганнай Шапуцька на інтэрв'ю, акрэслівала яго тэму — шлях да Беларусі, яна адказала, што ён прайшоў праз Курапаты. Зрэшты, як аказалася, было яшчэ шмат цікавага на гэтым шляху.

— Я нарадзілася ў гарадскім пасёлку Бялынічы ў сям'і настаўнікаў. Маці была выкладчыцай беларускай і рускай мовы, бацька — выкладчык філасофіі, ён і цяпер яшчэ выкладае ў ВНУ. Бацькі выхоўвалі нас строга — я лічу, што ўсе настаўнікі дома строгія, таму выхаванне ў нас было адпаведнае. Нас чацвёра дзяцей, і я, як старэйшая, заўсёды несла адказнасць за ўсіх.

Я заўжды была вельмі актыўная — і ў школе, і ва ўніверсітэце. Абвостранае пачуццё несправядлівасці — адзін з галоўных чыннікаў у маім жыцці. Заўсёды ў ім прысутнічае змаганне з гэтай несправядлівасцю, яно таксама было закладзена з дзяцінства.

***— Не расчараваліся ў сваім змаганні?***

— Не расчаравалася, хаця сутыкалася з рознымі рэчамі — са здрадай, з абыякавасцю. Але мне пашчасціла, што большасць людзей побач са мной — шчырыя, добрыя і думаюць гэтак жа, як і я. Лічу, што трэба змагацца, — гэта тое, што мае сэнс і што павінна быць галоўным у жыцці кожнага чалавека, асабліва маладога.

***— А ў дзяцінстве кім вы марылі стаць?***

— Спачатку я хацела стаць настаўнікам, як і мае бацькі. І ўсе былі ўпэўнены, што я стану настаўніцай. Але ж калі мяне за выдатную вучобу і актыўнасць у дзявятым класе адправілі ў адзін з найлепшых у той час піянерскіх лагераў «Арляня», я там сустрэла людзей, якія займаліся космасам. І я захварэла астраноміяй. Думала, у нас магчыма атрымаць спецыялізаваную адукацыю. Таму паступіла ў БДУ на радыёфізіку — мне трэба было здаць толькі адзін экзамен, бо скончыла школу з залатым медалём. Не ведаю, якое маё сапраўднае пакліканне, але я не шкадую пра свой выбар. Гады вучобы былі найлепшымі ў маім жыцці: сустрэчы з цікавымі людзьмі, вандроўкі, падзеі.




***— А пасля пайшлі працаваць па спецыяльнасці?***

— Так, мяне размеркавалі на «Інтэграл», і, паколькі была іншагароднняй, асаблівага выбару не было. Канешне, не космас і не астраномія — і гэта мяне вельмі прызямліла. Завод мне не спадабаўся — там была не проста дысцыпліна, а сапраўдны рэжым, канцлагер. Там усё падпарадкавана мікрасхемам. Было цяжка маральна, вельмі не хапала паветра, а сысці нельга, бо прахадная. Аказалася, гэта не маё, я там ледзь вытрымала. Гэта было тое самае, што птушку пасадзіць у клетку. Але ж не бывае ліха без дабра — на «Інтэграле» я сустрэла свайго мужа, які прыйшоў туды пасля войска. Я зацягнула яго ў альпінісцкую секцыю, і мы сталі разам хадзіць у горы, у асноўным па Грузіі.

Таксама на «Інтэграле» напачатку 1990-х гадоў быў «Свабодны прафсаюз», чальцы якога пастаянна пратэставалі, агітавалі за нешта і зрабілі на мяне ўражанне. Мы слухалі іх, згаджаліся, падтрымлівалі, але ў акцыях пратэсту не ўдзельнічалі, бо, відаць, яшчэ толкам не разумелі, што адбываецца. У палітыку асабліва не лезлі, хаця цікавіліся бягучымі падзеямі.

Мы ўжо разумелі, хто прыйшоў да ўлады, нам вельмі не спадабаўся Лукашэнка, мы былі расчараваныя, што ён стаў прэзідэнтам. Але бацькі галасавалі за яго. Матуля галасавала за яго да апошніх гадоў свайго жыцця, толькі першы раз — за Шушкевіча. Калі я запыталася ў яе: «Чаму, ты ж бачыш, што гэта не тое, пра што ты марыш?» — яна адказвала: «Такія людзі, як Шушкевіч, яшчэ горш, бо яны слабыя, не могуць быць лідарамі і нясуць расчараванне. А гэты чалавек — ён адразу такі, які ёсць». Магчыма, яна мела рацыю, бо калі я цяпер гляджу на наша апазіцыйнае асяроддзе, шчыра кажучы, не ведаю, за каго б можна было галасаваць.

Па начах малявалі плакаты, расклейвалі ўлёткі.

***— А як урэшце пачаўся ваш актыўны ўдзел у грамадскім жыцці?***

— 2006 год быў пераломны для нашай сям'і. Да гэтага мы сачылі, назіралі, а ў 2006 годзе выйшлі на Плошчу. Калі мы пачулі, што людзі, якія туды пойдуць, — здраднікі і ледзь не тэрарысты, такая хваля пратэсту ўзнялася ўнутры, што мы вырашылі ісці. Гэтая несправядлівасць — тое, што казалі па тэлевізары і што было ў рэальным жыцці, — згуляла злы жарт з самім рэжымам, ён сам справакаваў выхад людзей на Плошчу.

Я думаю, што такіх людзей, як мы, — незаангажаваных, далёкіх ад палітыкі, — была большасць. Бо гэта быў здзек з нашай годнасці, гэтага нельга было трываць. І мы з суседам пайшлі, пакінуўшы малодшых дзяцей і ўзяўшы старэйшага сына, хоць думалі нават, што там могуць страляць і, можа, мы не вернемся з гэтай Плошчы. Пасля, калі паўстаў намётавы лагер, хадзілі туды як на працу, насілі коўдры, ежу. Бачылі, як АМАПаўцы паводзяць сябе з хлопцамі, і тады з'явіўся страх за сына.

А пасля наша дачка Таня на Дзень Волі ўступіла ў «Малады Фронт», і наша жыццё раскруцілася, як кажуць, на ўсю катушку. Бо мы не маглі пакінуць яе сам-насам з гэтым рэжымам. Баяліся яе адпускаць адну, увесь час былі недзе побач. Напрыклад, яна сустракаецца з кімсьці, а мы ў гэты час недзе паблізу стаім — увесь час пад кантролем *(смяецца)*. Дзеці давяралі нам, мы з Віктарам (мужам. — НЧ.) па начах малявалі плакаты, расклейвалі ўлёткі (тады Дашкевіч сядзеў).

Ездзілі на суды, падтрымлівалі маладафронтаўцаў. Памятаю акцыю падтрымкі Яраслава Грышчэні ў Баранавічах, калі нас скруцілі і я першы раз апынулася ў аўтазаку. Потым нас пасадзілі ў «стакан» — маленечкую камеру з бетоннай лавай, дзе былі я, Таццяна Севярынец, мая Таццяна (дачка. — НЧ.), яшчэ нейкая дзяўчына.

***— Якія пачуцці ў вас былі ў той момант?***

— Шчыра кажучы, больш хвалявалася за дачку, за дзяцей, там быў Зміцер Хведарук. Але калі бачыла іх, як яны сябе паводзілі, то страху перад сістэмай не было, бо яе людзі — слабыя. Што яны маглі зрабіць? Даць штраф ці суткі — канешне, гэта было б непрыемна, але ж гэта не галоўнае. А галоўнае, што моладзь, якая патрабуе справядлівасці, перамагае.

Я спытала ў міліцыянта, за што ён складае на мяне пратакол. Ён адказаў, што за свісток, які знайшоў у маёй сумцы і ў які я нібыта свісцела. Я тады насіла спартыўны свісток, каб свісцець, калі раптам нешта здарыцца з дачкой (смяецца). Але ён проста ляжаў, і я кажу міліцыянту, што няма ніякага сведчання, што я свісцела. А ён у вочы мне сказаў, што сам будзе супраць мяне сведчыць. Дык што гэта за сістэма? У яе цалкам амаральны падмурак.

Пасля пазнаёміліся з Вячаславам Сіўчыкам, які запрасіў у Курапаты.

***— Вы раней не ведалі пра гэтае месца?***

— Не. Пра рэпрэсіі ведала — мой стрыечны дзядзька ажаніўся з Леанілай Парфір'еўнай Гарэцкай, пляменніцай Максіма Гарэцкага. Мая матуля сябравала з сям'ёй Гарэцкіх, якія жылі ў Магілёве.

Мы прыйшлі на ўшанаванне памяці ахвяр палітычных рэпрэсій у Курапаты, якое адбываецца штомесяц 29-га дня, і я не змагла застацца абыякавай да гэтага месца. Калі пабачыла ямы, дзе ляжаць нявінна забітыя, якіх выдзернулі з іх утульнага жыцця, некаторых знішчылі на самым яго ўзлёце, адчула, што гэтая несправядлівасць працягваецца і цяпер. Так не павінна быць, гэтых людзей трэба рэабілітаваць — не проста на паперы, хаця гэта таксама важна, але ж павінна быць ушанавана іх памяць, трэба агучыць іх імёны.

З часам чалавечы жах ад усведамлення гэтага злачынства пераходзіць у іншую якасць — ты пачынаеш думаць, што можаш зрабіць для тых людзей. Бо нельга абмяжоўвацца толькі ўшанаваннем памяці — гэта як з малітвай: маліся і дзейнічай.

Шчыра кажучы, я мала што ведала пра дзейнасць у Курапатах сяброў КХП — БНФ. І таму, калі ў 2012 годзе мы ўбачылі «Бульбаш-хол» і тое, у якім стане знаходзіцца заходняя частка мемарыялу, мы вырашылі прывесці Курапаты ў парадак. Бо людзі, якія пабудавалі «Бульбаш-хол», адкрыта казалі, што нам мемарыял не патрэбны, бо ён знаходзіцца ў занядбаным стане. Нам здавалася, што мы — першапраходцы, але пасля на нас абрынулася шмат негатыву: для КХП — БНФ мы сталі «агентамі». Я толькі цяпер разумею, што тых, хто даглядаў за мемарыялам дагэтуль, не так шмат, і яны не маглі зрабіць больш — добра, што яны падтрымлівалі Крыжовы шлях. Але тады я вельмі перажывала, бо было вельмі сур'ёзнае супрацьстаянне. З іншага боку, гэта быў для мяне яшчэ адзін крок да Беларусі, бо я пазнаёмілася з сябрамі КХП і разумею іх стаўленне да мяне тады, але ўсё ж раю ім з самага пачатку не рабіць з людзей «агентаў КДБ» (усміхаецца).

Атрымліваецца, што мой шлях да Беларусі адбыўся праз людзей, бо і Курапаты — у першую чаргу, гэта людзі. Такія, як Ігар Кузняцоў, які вывучаў гісторыю сталінскіх рэпрэсій, Леанід Маракоў, які меў усё і ўсё аддаў, каб назваць прозвішчы забітых. Як Уладзімір Іванавіч Раманоўскі з гісторыяй яго жыцця і тымі высілкамі, якія ён прыкладае, каб людзі памяталі пра сталінскія злачынствы. Як Зінаіда Антонаўна Тарасевіч, Сяргей Мікалаевіч Ханжанкоў, Вацлаў Адольфавіч Нямковіч...

***— Ці трэба называць імёны не толькі ахвяр, але і катаў?***

— Так, яны павінны быць названыя і асуджаныя. Я не думаю, што будзе нейкая помста іх нашчадкам. Але для людзей, якія даведаюцца, што іх продкі забівалі, гэта будзе ўдар. Нацызм быў асуджаны на дзяржаўным узроўні, і нашчадкі нацыстаў прынеслі пакаянне. Забойцы павінны быць асуджаныя, але праз гэтае асуджэнне і пакаянне адбудзецца рэабілітацыя іх дзяцей і ўнукаў.

***— А нашаму грамадству патрэбна інфармацыя пра рэпрэсіі, адкрыццё архіваў?***

— Я калісьці пісала, што нас у Курапатах адзінкі, але падтрымка — агульнанацыянальная. І я адчуваю гэтую падтрымку. Проста нашы людзі пастаўленыя ў такія ўмовы, што ў дзяржаве пануе страх, які панаваў і ў сталінскія часы. Я размаўляла на гэтую тэму з Сяргеем Ханжанковым, які казаў, што людзі сыходзілі, так і не распавёўшы пра тое, што ў іх у сям'і былі «ворагі народа». Хаваюцца не тыя, у чыіх сем'ях былі каты, а тыя, каго катавалі. Мы кажам, што трэба ведаць пра свае карані, кажам пра часы ВКЛ, але ж трэба ведаць і пра іншыя часы, «выцягнуць» з нябыту свайго дзеда, прадзеда — кім бы яны ні былі. Гэта тая рэч, якая яшчэ дзясяткі гадоў будзе вызначаць, у якім кірунку будзе развівацца наша грамадства. Трэба, каб гэта не быў рух у кірунку «паехаць, паесці», забыцца на злачынствы, не «выцягваць косткі з зямлі», і каб не з'явіўся новы сталін, які будзе расстрэльваць людзей. Інакш гэта будзе грамадства цынічных зайдзэсаў.

***— Як далей будзе развівацца сітуацыя ў Курапатах?***

— На вялікі жаль, не Зайдэс галоўны аб'ект супрацьстаяння. У першую чаргу, галоўнае супрацьстаянне адбываецца паміж намі. Мы не можам прыйсці да нейкага агульнага рашэння, у нашым асяродку нямала людзей, якія лічаць, што існаванне забаўляльнага комплексу каля Курапат магчымае, а таксама што магчымае першынство дзяржавы ў справе мемарыялізацыі.

І гэта жахліва, бо яны ведаюць, колькі высілкаў грамадства ўклала ў Курапаты. Людзі паставілі тысячу крыжоў, расчысцілі Галгофу ад кустоўя — і тут ім прапануюць сказаць, што мемарыялу няма, у Курапаты павінна прыехаць дзяржава і ўсталяваць нейкі свой помнік. Гэта будзе чарговая вайна, чарговы віток супрацьстаяння на вельмі сур'ёзным узроўні. Нас чакаюць яшчэ горшыя падзеі, чым тое, што цяпер адбываецца з «Бульбаш-холам».

Літаратурная Беларусь

Выпуск №7 (143)
(ліпень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by



Змест



# Палеміка. Этыка прафесійная і «тусовачная»

**Першыя этычныя кодэксы ў свеце з'явіліся як сродак барацьбы журналістаў з уласнай уседазволенасцю.**

Упацверджанне гэтага тэзіса, не для ўсіх вядомага (а для многіх з тых, каму ён вядомы — не відавочнага), дастаткова прывесці ў прыклад гісторыю ўзнікнення шведскага этычнага кодэкса — аднаго з першых у свеце.

Першы закон аб свабодзе слова ў свеце быў прыняты менавіта шведамі ў 1766 годзе. Закон атрымаўся вельмі дэмакратычны і прыняты быў не без супраціву пэўнай часткі грамадскасці.

Пакінем у баку пытанне: што такое «занадта» ў дачыненні да дэмакратыі? Але, як адзначае інтэрнэт-выданне The Local, закон аб свабодзе слова (у арыгінале — «Яго Каралеўскага Вялікасці Міласэрны Указ Адносна Свабоды пісьменніцтва і Свабоды Слова») па гэты дзень застаецца адным з чатырох законаў, якія вызначаюць асноўныя палажэнні шведскай Канстытуцыі. Якая гарантуе, апроч іншага, права любога чалавека атрымаць доступ да афіцыйных дакументаў, не раскрываючы свайго імя і адрасу, а таксама не тлумачачы прычынаў, паводле якіх яму доступ спатрэбіўся. У чым аўтар і пераканаўся на прыкладзе горада Кальмар, калі ў складзе групы беларускіх журналістаў у мясцовым магістраце папрасіў інфармацыю па складзе насельніцтва горада. І адразу атрымаў яе. І нават не давялося адказваць на пытанне, каму і навошта гэта патрэбна.



Але немалая частка шведскага грамадства пачала выказваць незадаволенасць занадта вялікай свабодай для журналістаў. І тады ў краіне была створана Рада прэсы, якая і прыняла адзін з першых у свеце кодэкс прафесійнай этыкі. Асноўны, практычна, матыў: каб пазбегнуць прыняцця новага, больш строгага закона, лепш самастойна абмежаваць свае магчымасці.

З таго часу і пачалося: кодэксы ў значнай ступені былі больш жорсткімі за законы аб СМІ. Гэта значыць, працэс самарэгулявання СМІ, які сёння прыняў глабальны характар і які будуецца на аснове этычных кодэксаў, азначае самаабмежаванне. А інакш навошта б яны — этычныя кодэксы — былі патрэбныя?

Зрэшты, прынцып самаабмежавання рэгулярна ставіцца пад сумнеў. Што цалкам натуральна: а каму хочацца абмяжоўваць сябе?

Многія не разумеюць: як гэта — не красці, калі можна бязбоязна ўзяць, дапусцім, чужы кантэнт, змяняючы загалоўкі...

Што, незаконна? Што, іншым непрыемна? А гэта іх праблемы!

І тады пачынаецца... З'яўляюцца бяскрыўдныя, на першы погляд, ідэі, частка якіх прагучала (і была з задавальненнем успрынята!) на мінулым з'ездзе ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» (БАЖ). А давайце ж мы нашыя прафесійныя этычныя стандарты зробім больш кампактнымі. Давайце іх пазбавім ад агульных тэм, ад агульнавядомых ісцін...

Але што можа быць больш агульнавядомым, немудрагелістым і больш «агульным», чым этычныя стандарты і прынцыпы? Ну, да прыкладу, закладзены ў Запаветы Майсея прынцып «не забі»... Забіваць кепска — ці ёсць на планеце чалавек, якому гэта не вядома? Чаму б і не выкрасліць гэты прынцып з запаветаў — як, зрэшты, і самі Запаветы? Яны ж складаюцца выключна з агульнавядомых і немудрагелістых прынцыпаў. Якія, да прыкладу, заклікаюць «...паважаць бацьку твайго і маці тваю...», што зусім ужо агульнавядома...

І калі прыбраць гэтае «агульнавядомае», тады ўсё стане прасцей, і многія з палёгкай уздыхнуць. Але і наступствы «кампактызацыі» нескладана прадбачыць. Бо тое, што не забаронена, дазволена. Ці не так? І тое, што сёння з'яўляецца выключэннем, заўтра можа стаць правілам?

У нашым прафесійным выпадку ўсё часцей гучаць заклікі прыбраць з Кодэкса, напрыклад, прынцып: інфармацыя павінна быць атрымана законным і этычным спосабам.

На апошніх перад нядаўнім з'ездам БАЖ пасяджэннях Камісіі па этыцы гэтая ідэя асобнымі яе членамі настойліва прасоўвалася. Як і шэраг іншых ідэй такога ж кшталту. Асноўны матыў: у нас такая краіна, у нас такая ўлада, што толькі законнымі і этычнымі метадамі нічога не даможашся, і мы павінны мець іншыя магчымасці...

Узнікае пытанне: якія? Незаконныя? Неэтычныя?

На такія пытанні прыхільнікі ідэі адмаўлення ад законнасці і этычнасці ў прафесійнай дзейнасці (а ліквідацыя ў Кодэксе вышэйназваных і іншых аналагічных прынцыпаў і стандартаў менавіта гэта і азначае...) адказу не даюць ці патэтычна дэкларуюць нешта няўцямнае. Накшталт таго, што... так, вядома, прынцып законнасці і этычнасці атрымання інфармацыі ёсць у большасці еўрапейскіх кодэксаў. Але мы і так будзем прытрымлівацца этычных прынцыпаў і стандартаў... Не трэба толькі іх прапісваць у нашых кодэксах, таму што, зноў жа, улада не дае магчымасці працаваць правільна... І краіна не такая... І чыноўнікі...

Як усё ж цікава! Сярод так званых «дзяржаўных журналістаў, з якімі некалі вучыліся ў адным універсітэце на адным і тым жа журфаку, мноства годных людзей і класных прафесіяналаў. Але калі прыходзіць гадзіна «ікс» і калі даводзіцца таўраваць апанентаў дзеючага прэзідэнта, не клапоцячыся пра законнасць і, зноў жа, этычнасць... з іх вуснаў гучаць дакладна тыя ж аргументы: улада дыктуе і не дае магчымасць працаваць правільна... І краіна... І чыноўнікі...

А ў выніку? Калі этычныя прынцыпы і стандарты не выконваюцца ў імя дэмакратыі, то пагроза не становіцца меншай, чым калі яны не выконваюцца ў імя дыктатуры: скажам мы, перафразуючы выдатнага чалавека Эрыха Фрома. І, насамрэч, тады і пачынаецца «свабода». Свабода падглядаць і падслухоўваць, красці кантэнт, называць апанентаў якімі заўгодна словамі. Ад абразлівага «гаўнюк» у дачыненні да палітычных актывістаў да абвінавачванняў калегаў у немагчымасці справіцца з фізіялагічнымі адпраўленнямі арганізма...

Вядома, дзеля такой «свабоды» трэба абавязкова зрабіць існуючы этычны Кодэкс БАЖ больш «кампактным» і больш «свабодным» ад асноватворных прынцыпаў і стандартаў прафесійнай этыкі.

Мне асабіста падаецца, што гэты шлях тупіковы. Я ўжо не кажу пра тое, што пераважная большасць з тых стандартаў, якія прапануецца прыбраць з Кодэкса БАЖ, а таксама тых, якія ад імя Камісіі па этыцы прапаноўваліся ў якасці дапаўненняў і якія на з'ездзе БАЖ былі названыя «дурнымі і шкоднымі»... Яны, да ведама, у тых ці іншых фармулёўках прысутнічаюць у еўрапейскіх этычных кодэксах. І выконваць іх нашым еўрапейскім калегам таксама не заўсёды проста. Напэўна, не ў такой ступені як нам, але ўсё ж... І пры гэтым ніхто ад этычнасці і законнасці не адмаўляецца.

І калі мы сапраўды арыентуемся на еўрапейскія каштоўнасці, то пажадана б ісці па кірунку да іх, а не ад іх...

Шчыра кажучы, я не ведаю ў сусветнай журналісцкай практыцы апошніх гадоў выпадку, калі б журналісцкая супольнасць абмяркоўвала магчымасць адмовы толькі ад этычнасці і законнасці...

Але калі ісці далей па гэтым шляху, мы абавязкова прыйдзем да фантасмагарычнай сітуацыі паводле Франца Кафкі: павольнага, але няўхільнага і непрыкметнага ператварэння існуючага сёння этычнага Кодэкса БАЖ у нешта кшталту крымінальных «паняццяў». Дакумента, зручнага ва ўсіх адносінах для той тусоўкі, у якую рызыкуе ператварыцца супольнасць, што ідзе па гэтым шляху...

Гэта маё асабістае меркаванне.

**Анатоль Гуляеў, naviny.by**

# З кананічным Кананам

## Канóн

Пачну, па звычцы, троху здаля. Калісьці на «отделе» у Інстытуце сусветнай літаратуры (ИМЛИ) абмяркоўвалі мой разгорнуты артыкул для калектыўнага зборніка («братской могилы»).

Тэма нават па тым нібы дэмакратычным часе з гледзішча дэпартамента «мировой литературы» мала каго, апроч аўтара, вабіла, калі не насцярожвала. Праглядаю нататкі з таго ледзь не «бурапеністага» абмеркавання чвэрцьвекавое даўніны. Вось пярэчанні рашучага выступоўцы-апанента («шолахаведа»...): «Что ещё за национальное возрождение в XIX-XX веке? Он ссылается на какого-то Конóна (націск на прадапошнім складзе), следом ксендза (Адама Станкевіча) пристегивает. Какое это отношение имеет к литературоведению? Пусть читает Буркхардта — там о Возрождении все сказано».

Тую «манаграфічную» тэму пра нацыянальна-культурнае адраджэнне давялося адрачыць на пэвен час, даваршыўшы яе, з бальшага, ужо па развітанні са згаданай установай («От Скорины до Купалы. Белорусская литература в контексте национально-культурного возрождения». — Москва, ИМЛИ РАН, 2006).

Спомнены ж вышэй апанент — дзякуй яму — міжвольна падштурхнуў да ўсведамлення істотнейшай — кананічнае — якасьці нашага, з Навагрудчыны, беларускага творцы.

## Узвышэнец

Недзе на сыходзе 1990-х кінарэжысёр, паэт Уладзімір Мароз ладзіў аб ім дакументальны фільм. Сцэнарам прадугледжаны быў і маскоўскі акраец творчага абсягу гэтай Постаці. Выпала і мне на запрашэнне фільмоўца з прыступак бібліятэкі-«Ленінкі», дзе неаднойчы засяроджваўся над фаліянтамі наш чытач з Беларусі, сказаць колькі слоў перад камерай. Вось тыя словы з фільма:

«...Ведаеце, гэтае імя, мілагучнае, поўнае сэнсу таемнага — Конан, здавён мяне прываблівала, яшчэ да асабістага знаёмства з Уладзімірам Міхайлавічам. Кон, лёс, наканаванне, прадвызначэнне, калі хочаце. Штосьці ёсць у гэтай сімвалічнай збежнасці прозвішча і жыццёвага пакліканьня чалавека. Яго тэксты, на маё ўспрыманне, ёсць глыбокае асэнсаванне, адначасна й тварэнне беларускай культуры, нашага духоўнага космасу. Аб чым бы ні гаварыў, ні пісаў — пра сусветнае дрэва культуры, лірыку Багдановіча, ці разважаў над зямнымі і боскімі сэнсамі Скарынавага слова, — скрозь адчуваецца стрыжань, карнявішча нацыянальнага дрэва беларускага, глыбока ўрослага ў родную глебу, разгорнутага шатамі ва ўніверсальную прастору, у нябесныя высі. Сваімі працамі ён засведчыў высокае спалучэнне, узаемапрацяканне ў чалавечым лёсе, адпаведна ў культуры, зямных турбот і нябеснага парывання, неадольную тугу па неспатольнай гармоніі — вызначальнай дамінанты жыцця і быцця, акрэсліўшы, на беларускі лад, сваё эстэтычна-філасофскае крэда. Чалавек нараджаецца з каранёў і ўзыходзіць да красы нябеснай...»



Праглядаю «Погляд у вечнасць» — прысвячэнні на яго 75-я ўгодкі. Гожае на вокладцы абліччa юбіляра, скіраваны ўдалеч працінальны погляд. Абок яго ўзвышэнскіх тэкстаў («На ўзвышшах») калегі-сумоўнікі адарылі «сапраўднага беларускага філосафа» і падзячнымі выслоўямі пра «феномен Конана» (М. Крукоўскі), «носьбіта святла» (А. Разанаў), «вялікага Конана» (Н. Гілевіч). Да гэтых важкіх азначэнняў напрошваецца ранейшае слова Мікалая Улашчыка ў лісце ад 15.06.1986 г. (водгук на дасланую ў Маскву кнігу «Проблемы искусства Белоруссии в общественной мысли начала XX века»): «Мне яна спадабалася перш за ўсё тым, што манаграфія паказвае культуру аўтара і яго добрасумленнасць...»

Перада мной на рабочым стале мала не ўсе яго кнігадрукі — ад «Развіцця эстэтычнай думкі ў Беларусі...» (1968) да апошняе — «Выбранае» (2009), надпісанага аўтарам золкім кастрычніцкім надвячоркам у яго пакойчыку хмарачоснага паверха ў Серабранцы (вуліца Малініна): «Дарагому Аляксею Каўку з удзячнасцю за тваю працу для Беларусі. 18.10.2009». Абок — ніштаваты жэўжык яго публікацый з многіх беларускіх, часткова расійскіх, польскіх перыёдыкаў. Сваім часам прачытваў, цяпер перачытваю гэтае багацце роднага маўлення і мыслення. На грунтоўны выклад духоўна-эстэтычнай планіды Уладзіміра Конана мне ўжо не стаць (пэўнай кампенсацыяй маёй немачы, мяркую, паслужыць ксёнжачка Анатоля Астапенкі «Уладзімір Конан» у серыі «100 выдатных дзеячоў беларускай культуры» (2017), — прыстойныя ўводзіны у конаназнаўства, адмысловы раздзел у беларускай гуманістыцы абок скарына-купала-коласа-ўлашчыка і г.д. знаўства). Адважуся хаця б адцеміць два істотнейшыя напрамкі ў спадчыне нашага Думанніка:

— Адраджэнне — гістарычная правідловасць, магістральны шлях нацыянальна-культурнага развіцця Беларусі, яе нацыянальнай ідэі, нацыянальнага фундаменталізма, — ад Скарыны да Каліноўскага, Багушэвіча, Купалы да сучаснай постсавецкай эпохі.

— Узвышэнства — неадольны мастацка-літаратурны, культуровы рух «з нізін на ўзвышшы», да найвышэйшых праяў нацыянальнай і ўніверсальнай культуры. Сюды, да ўзвышэнскага клопату далучаем яго ж, Конана, незвычайную сутнасць у перадоленні «саўкова»-партыйных напластаванняў у нацыянальнай культуры, вяртанне ў яе арганіку спрадвечна хрысціянскага ўсведамлення ролі Праваслаўнай, Каталіцкай царквы ў жыццятворчасці Беларусі (напрыклад, артыкулы «Хрысціянства і беларуская культура», «Эсхаталагічныя матывы паэзіі Якуба Коласа», іншыя.) У гэтым шырэйшым кантэксце і асоба самога Уладзіміра Конана ўяўляецца мне жывым увасабленнем творцы-Узвышэнца.

Тэарэтык, герменеўтык мастацкіх набыткаў — ад незлічоных вуснапаэтычных скарбаў да прафесійнае класікі — празарлівы літаратурны крытык, ён нярaз падзіўляў чытача вычуленнем на праявы несамавітага мастацкага харaства. Як, прыкладам, у выпадку з вершам «Вы шуміце, шуміце Нада мною бярозы...» Там, дзе спрактыкаваны аналітык паэзіі апроч знешніх «пацягушанак» чагосьці вартаснага не заўважыў, У. Конан адсланіў высока трапяткую касмічную лучнасць паэта з роднай зямлёй, класічную прастату яго лірычнага перажывання. Невыпадкова верш-песню (кампазітар Э. Ханок) падхапіў народ на хрэсьбінах, вяселлях (асабіста слухаў, падпяваў узрушаны ў ваколіцах майго Ігуменя-Чэрвеня).

## На супольнай сцежцы

Пазнаёміўся з ім раней непасрэднай сустрэчы. Вясной 1979-га, прастуючы цягніком з Масквы да Варшавы, сярод «дыпламатычных» ванзэлкаў тулілася тэчка з «беларускім» мінімумам: зборнічкі Купалы, Коласа, Багдановіча, нават крамольнага тады Гаруна (1920), манаграфіі Александровіча, Кісялёва, Мальдзіса і «Адам Бабарэка» Конана. Яго ўзвышэнскія росшукі-роздумы вабілі, дзесьці інтрыгавалі нечаканымі намёкамі на таёмную зорку літаратурнага небасхіла Беларусі...

Згледзеў жа «вживую» аўтара-ўзвышэнца ў менскім Доме літаратара на «круглым стале», прысвечаным 100-м угодкам Купалы, Коласа (Міжнародная канферэнцыя ЮНЕСКА «Славянскія культуры і сусветны культурны працэс» (1982), куды собіла было трапіць і мне, радзецкаму дыпламату з Варшавы). Менавіта Конан навукова «легалізаваў» тады перад беларускай і замежнай грамадскасцю купалавых «Тутэйшых». Тады ж мы і «парукаліся», адчуўшы ўзаемна духоўную блізкасць. Аб чым, дарэчы, сведчыла й маё спавешчанне на тым «стале» — «Ад тутэйшасці да нацыянальнасці». Назаўтра, пад знаёмства-развітанне, даверыў яму адбітак эмігранцкага выдання М. Бярдзяева «Смысл истории».

Ці не скрозь сустракаліся на канферэнцыях, чытаннях, з'ездах згуртавання «Бацькаўшчына». Мінск—Горадня—Віцебск—Маладзечна—Полацак—Тураў — нашыя супольныя прыпынкі. Не мінулася і Масквы, уключна з маім колішнім Угловым завулкам — паміж Беларускім вакзалам і Бутырскай турмой. Цягам аднаго запозненага чаркавання на тым адрасе прытомлены Валодзя, эксперт беларускае дэлегацыі на перамовах у крамлёўскім «Нова-Огарёво», рэплікаваў з прытоенай усмешкай: колькі б, маўляў, палітыкі-верхаводы не радзілі, не спрачаліся, а незалежнасць дзяржаўная грукаецца ў нашыя дзверы, — такі ж адчыняцца. Што ўхуткасці і сталася.

Падчас першага З'езда беларусітаў ехалі разам на радзіму Якуба Коласа. У лесе блізу Альбуці аўтобус прыпыніўся, і купка дэлегатаў-экскурсантаў высыпала на ўзбочыну перадыхнуць водарам лясной цішы. Тады траіх нас (з В. Голубам, трэцім) і зафіксаваў нейчы фотааб'ектыў (Ул. Калеснікa, Т. Ткачэнкі?). Здымак той месціцца ў яго фоталетапісе ва ўспомненым «Выбраным».

Зноў жа фотка: Валодзя на лавачцы (сонечны травень 1997 года) перад тураўскай Усіхсвятскай царквой — пасярод Алены Яскевіч і Аляксея Каўкі — летуценна ўглядаецца ў храм.

Таго ж надвячорка грамадка наша «навуковая» ў таварыстве з Анатолем Вярцінскім, Аленай Яскевіч, Іванам Чаротам, іншымі ўдзельнікамі «праваслаўных чытанняў» пасля навуковых дыскусій адстаяла вячэрнюю службу ў храме. Потым з ласкі св.п. Кацярыны Паповай, мясцовай настаўніцы, паэткі, утрох (з А. Вярцінскім) падаліся на начлег у дамок былога старшыні колішняга перадавога калгаса А. Сяргейчыка. Прымалі нас гаспадар і гаспадыня дома пані Сяргейчыкава, доктар біялагічных навук, пільнавальніца кліматычнага рэжыму ў Батанічным садзе Мінска, ахарошвала тую сустрэчу над беражком Піны. Магчыма, уражанні з таго начавання «зашыліся» ў Валодзевых паперах.

Падзячны Уладзіміру Міхайлавічу за спрыянне рукапісу мае кнігі «Тут мой народ». Не менш — за ягоныя тэксты ў маскоўскім «Скарынічы», уключна з выпускам трэцім, з нагоды якога сябра «памасліў» укладальніку-«скарынічу» (слабы чалавек, што зробіш).

Захавалася колькі старонак з нашага ліставання (БДАМЛіМ, Фонд 740). У адным з лістоў Валодзя — пэўна, з падачы Мальдзіса — намаўляў калегу да вяртання на Радзіму, менавіта ў Скарынаўскі асяродак (прабачце, цэнтр). Не адбыліся тыя мройлівыя пярэбары. Шкада.

Увогуле ж калега-сябра мой, мысляр па натуры, не належыў да сухароў-нудотнікаў. Нярaз і мне, наезніку з Масквы, траплялася вітацца з ім на сходах, шэсцях нацыянальных у Менску, калі там ці не ўсё дэманстрацыйна нацыянальнае дратавалася паліцэйскімі дубінкамі і аўтазакамі. Конана Гасподзь сцярог ад тых «суверэнных» палак, але ж памятаю яго балючае перажыванне ў суверэннай краіне ад «суверэннага» зладзейства Вярхоўнага Хама, які, зглуміўшы нацыянальную святыню — Сцяг — прыпячатаў перад шырокім светам патрыятычных людзёў (наступнікаў нацыянал-дэмакратаў) «националистической сволочью» («Независимая газета», 1998, 5 февраля). Хаця, памятаецца, пры тых роспачлівых перажываннях Валодзя спрабаваў філасафічна, па-евангельску, суцешыць сябе і блізкіх: не варта адчайвацца, грэх; звар'яцелыя свінні рана-позна ў бездань зрынуцца.

Неўладкаваны сямейна, ён цалкам аддаўся адзінай сваёй абранніцы — Беларусі. Не забудзецца яго слова на адным з першых сходаў БНФ узімку 1988 года. Пасля ўступнай прамовы Васіля Быкава да трыбуны падыходзіць Конан. Мяккі прыцішаны голас і суцішная заля ў Чырвоным касцёле. Ён не прамаўляў, а толькі, нібы пра сябе, пераказваў думку Ул. Салаўёва адносна нацыянальнага пытання ў колішняй Расійскай імперыі (пераказваю з памяці пачутага і занатаванага): «Национальный вопрос для России — это вопрос её достойного существования. Для национальных окраин — вопрос ихнего выживания...» Уладзімір Конан, працытаваўшы меркаванне расійскага філосафа, адразу ж удакладніў — пад сціплыя воплескі слухачоў: варта дамагацца прыстойнага жыцця, не выжывання, нашае Бацькаўшчыны-Беларусі.

«Самотны рыцар гармоніі» — адгукаўся Уладзімір Конан з юбілейнай нагоды да старэйшага калегі і сябра Міколы Крукоўскага з філасофскай парадыгмай мудрасці і небезнадзейнага смутку: «Самотна сёння рыцарам гармоніі і класічнага квітнення культуры, і наступіў час татальнага цемрашальства — эпоха заняпаду, дэнацыяналізацыі... і нігілізму. Але ж даўно было запаведана людзям: «І святло ў цемры свеціць, і цемра не агарнула яго».

Будам імкнуцца да святла і светлых людзей.

**Аляксей Каўка**

11 ліпеня споўнілася б 50 гадоў беларускай пісьменніцы **Святлане Явар**. Яна нарадзілася ў Мінску ў сям'і пісьменніка Барыса Сачанкі. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1990) і аспірантуру Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі (1993). Працавала ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны, Беларускім універсітэце культуры, часопісе «Крыніца», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», Інстытуце мовазнаўства, Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі, Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце і Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Раптоўна памерла 8 чэрвеня 2011 года.

Аўтар паэтычных зборнікаў «Белы месяц» (1994), «Раніца ў туманах» (1994), апавяданняў, шматлікіх навуковых артыкулаў.



## Святлана

Яна не дажыла да свайго пяцідзесяцігоддзя сем гадоў. І цяпер, разбіраючы папкі з яе рукапісамі (тэксты сапраўды рукапісныя ці набраныя на друкавальнай машынцы), разумееш, што яе жыццё абарвалася на ўзлёце. Дзякуючы дапамозе маладой паэткі Таццяны Барадулі, якая напісала пра Святлану Явар (Сачанка) і надрукавала ў «Літаратуры і мастацтве» вельмі шчымлівае эсэ, падрыхтаваны да друку новы зборнік паэзіі і прозы Святланы Явар «Дзівосны сад»...

У маленстве, юнацтве Святлана шмат малявала, займалася музыкай, іграла на фартэпіяна і гітары, цудоўна спявала. Унікальныя запісы прывезла з фальклорных экспедыцый... І потым гэта ўсё пачало пульсаваць у яе літаратурных творах, яе паэзіі... А каб уявіць, чым жыла Святлана ў апошнія свае гады, мы вырашылі змясціць некалькі ўрыўкаў з яе навуковых даследаванняў. У папках і скрынях — падрыхтаваны да друку пераклад з польскай мовы кнігі Казіміра Барташэвіча «Гісторыя паўстання Касцюшкі», навуковыя, публіцыстычныя артыкулы.

Рукапісы, якія чакаюць свайго чытача.

**Галіна Багданава, сястра**

## З новай кнігі Святланы Явар «Дзівосны сад»

### Дзяцінства

*Збіралі ўночы з бацькам*
*светлякоў.*
*Пакорлівыя мяккія стварэнні*
*Паўзлі ў дзівакаватым*
*утрапенні,*
*Абкружаныя роем сябрукоў.*

*Святлом зеленаватым разганялі*
*Начную цемру, ды маглі згасаць:*
*Не зносілі, калі іх прымушалі,*
*Супроць жадання,*
*твары асвятляць.*

*Няволю, здзек жывое не прымала.*
*Прыгожае і гвалт не сумясціць.*
*Але дагэтуль успамін кранае —*
*Няўлоўнае хацелі мы славіць.*

*З памерлым бацькам*
*у паўднёвым садзе*
*Збіраем у хусцінку светлякоў,*
*Насуперак жыццёвай*
*простай праўдзе, —*
*Вакол прастор-міраж, краіна сноў.*

## З артыкула «Край мой васількова»

Беларускія жанчыны заўсёды былі адданымі сяброўкамі сваіх мужчын, самаахвярна адстойваючы поплеч з імі высакародныя ідэалы, плённа працуючы дзеля росквіту Радзімы. Вядома многа імёнаў такіх жанчын — ад А. Пашкевіч (Цёткі) да Л. Геніюш, ад П. Бадуновай да З. Тусналобавай. Не выключэнне і кампазітар Э. Зубковіч (1895—1983).

Лёс не асабліва песціў Эльзу Робертаўну Зубковіч (у дзявоцтве Пілеман). Гадавалася яна ў сям'і лекара. Музыку сачыняць пачала з маленства. Так, яшчэ дзіцём напісала зборнік п'ес для фартэпіяна, які назваўся «Дзіцячы музычны альбом». Жывучы ў Мінску, Эльза з поспехам — на выдатныя адзнакі — закончыла музычную школу (1914 г.). Дзяўчына марыла прысвяціць сябе кампазітарскай творчасці цалкам, дзеля чаго і рыхтавалася паступаць у Мінскую кансерваторыю. Аднак, на вялікі жаль, на шляху адоранага чалавека ўзніклі нечаканыя перашкоды. Са здзяйсненнем спадзяванняў Эльзе давялося пачакаць...

Пачалася першая сусветная вайна. Э. Пілеман стала сястрой міласэрнасці ў тым шпіталі, дзе яе бацька ў той час працаваў галоўным урачом. Адначасова яна працягвала атрымліваць музычную адукацыю: вучылася ігры на фартэпіяна ў прафесара Варшаўскай кансерваторыі (яго імя невядомае). Займалася творчасцю: пісала фартэпіянныя прэлюдыі. Грошы зараблялa, выступаючы як салістка на канцэртах камернай музыкі...

### Мая даражэнькая

Так пяшчотна і ў той жа час па-таварыску звяртаўся да Зосі яе першы муж, які пакінуў яе дзеля маладзейшай жанчыны. Застаўшыся адна, Зося адчувала сябе незапатрабаванай і часам не знаходзіла сабе ніякага занятку. Ад суму яна пачала перабіраць паперы і выпадкова на антрэсолях знайшла напісаныя паўстагоддзя таму пісьмы яе закаханых бацькоў. У бацькавых лістах Зося са здзіўленнем знайшла той жа зварот да мамы: «Мая даражэнькая». А маміны пісьмы ўразілі Зосю настолькі, што яна ўявіла сябе сваёй маці і гэтак жа, як мама, паехала жыць і працаваць у вёску пад Глыбокім. Толькі Зося зрабіла гэта ў думках, а мама была там наяве.

Пасля мамінай смерці Зося наўмысна з'ездзіла ў Глыбокае, але менавіта да той вёскі так і не даехала. Зося хацела б лепей зразумець сваіх бацькоў, у прыватнасці, сваю маму, якую, на жаль, не заўсёды разумела пры жыцці. «Мая даражэнькая...» Якой была мама ў маладосці? Відаць, мужнай, смелай і бязмежна самотнай у сваім далёкім Глыбокім...

Быў 1959 год. Вясёлыя студэнцкія гады адплылі ў нябыт. У Мінску застаўся каханы і блізкі чалавек. Месцаў для настаўнікаў мовы і літаратуры ў сталіцы няма, у родным Крычаве — таксама. Трэба ехаць па размеркаванні. Сталічнае жыццё ўжо спадабалася: тэатры, музеі, канцэрты, выстаўкі... Будучыня выглядае змрочна — глухая правінцыя. Як сустрэнуць, як прывітаюць? Адно спадзяванне — на каханага, што ён застанецца, як і раней. Надзеяй і апорай.

Невялікая колькасць рэчаў, хуткія зборы ў дарогу. Вось і райцэнтр: больш чым стрыманы, хутчэй халодны, прыём мясцовых жыхароў-каталікоў. Абыходжанне як з чужой, засланай для барацьбы з забабонамі, у тым ліку і з рэлігіяй. Мама некалі напісала бацьку ў лісце жартам, што хацела б выйсці замуж за хутараніна і павянчацца з ім у касцёле. Праўда, спачатку трэба сабраць неабходны для гэтага пасаг: посуд, падушкі...

Аднак тут яна відавочна нейкая «не свая». Выкладае рускую (!) мову і літаратуру, вядзе занадта свабоднае жыццё, — гэта падумаць толькі: жыве, не «распісаўшыся», з мужчынам з Мінска, які прыязджае да яе ў госці! Занадта часта яны і сазвоньваюцца, перапісваюцца. Пісьмы з Мінска прыходзяць штодня. А яна ж, новая настаўніца, такая прыгожая, талковая. З яе тут, у вёсцы пад Глыбокім, маглі б чалавека зрабіць! І замуж тут бы яе аддалі — за Франца. Ён потым мясцовым дырэктарам школы быў. І не п'е, і не курыць, і не гуляе; больш таго — вышывае, вяжа, пячэ торты і ходзіць у касцёл! А сям'я ў яго якая прыстойная — палова радні ў Польшчы. Але ж новая «науччыцелька» ўжо ўпадабала таго чарнявага журналіста з Мінска. Да таго той, як кажуць, «абнахалеў», што нават на ўроках у яе сядзеў. А як вучні пыталіся, хто гэта, дык іх настаўніца адказвала: «Гэта... правяраючы».

Віруе правінцыйнае жыццё. У Глыбокім, ды і ў той вёсцы, ідзе «будаўніцтва сацыялізму». У адным з мясцовых касцёлаў размяшчаецца зернясховішча. Настаўнікі ездзяць па вёсках і праводзяць антырэлігійную прапаганду. Вясковае насельніцтва сустракае і іх, і іх прапаганду, мякка кажучы, непрыхільна. У многіх вучняў бацькі п'юць і скандаляць дома. Адзін вучань, як сапраўдны артыст, імітуе п'янага тату. Усе рагочуць. Новую маладую настаўніцу начальства імкнецца загрузіць працай напоўніцу. А мама рвецца ў Мінск, ёй патрэбен кожны выхадны, каб з'ездзіць туды, у сталіцу. Дзеля свайго каханага, у якога ўжо выйшла першая кніга, у якога ўжо ажаніліся лепшыя сябры. У любы момант любоўны раман можа закончыцца. І што тады? Выйсці за хутараніна і хадзіць у касцёл, хаця ты сама ў Бога не вельмі і вернш (бо выхавана ў сям'і настаўніцы)...

Неўзабаве пачынае раздражняць усё: складаныя ўмовы працы (часам трэба хадзіць вечарамі па некалькі кіламетраў праз лес, вялікая нагрузка, у тым ліку ў вячэрняй школе), лад жыцця мясцовых настаўнікаў з гулянкамі і п'янкамі ў вольны час, вымушанасць выглядаць і трымацца, як адзінокая жанчына.

І тут маме ўзгадваецца Якуб Колас. Напэўна, яго турэмная лірыка. «Вобразы мілыя роднага краю...» У Мінск, у Мінск! Там сапраўдная віхура, у якой ствараецца гісторыя. У Мінску сабрана ўсё лепшае, вышэйшае. Ды нават газеты, часопісы новыя пачытаць — і то было б цікава. Тым больш, калі ў іх друкуецца твой каханы, пра адносіны з якім ты ўпарта нікому не расказваеш (усе і так даўно ўсё зразумелі).

Выкройваецца час, за апошнія грошы купляецца білет, і ты едзеш у Мінск, які, ты вершы у гэта, неўзабаве будзе тваім родным горадам. Гуляеш па сталічных вуліцах, дыхаеш задымленым паветрам, такім жа брудным, як у тваім родным Крычаве. Шумяць дрэвы на алеях паркаў, разам з табою гэты шум чуе твой каханы, які заўсёды побач душою і толькі зрэдку побач фізічна. Як жа цяжка даводзіцца табе без яго!

Надыходзіць 1960 год. Ужо звыклым зрабілася Глыбокае. Жыццё ўвайшло ў нейкую нармальную каляіну. Хочацца працаваць, настаўнічаць. А там, далей, — можа, і аспірантура? Навуковыя ж здольнасці былі. У вёсцы пачалі паважаць, начальства ўжо ставіцца больш прыхільна. Больш магчымасцей для кар'ернага росту, сяброўкі з роспытамі пра каханне больш не чапляюцца: усе да ўсяго прывыклі. І тут — раптоўная цяжарнасць! Так, цяпер будзе цяжэй. Па размеркаванні не дапрацуеш, на тваім месцы апынецца іншы чалавек. Ды і каханаму — дадатковыя клопаты. Добра, калі ён не адмовіцца ад свайго першага дзіцяці і ажэніцца. А калі не? Тады што рабіць?

Але каханне перамагло ўсё. Чакаюць нараджэння хлопчыка. Мама знаёміцца з бацькамі будучага мужа. Плануецца яе хуткі пераезд на радзіму маці, у Крычаў. Бывай, Глыбокае! ( У мясцовых жыхароў вочы вылезлі на лоб ад здзіўлення: гэта ж трэба, новая настаўніца ўхітрылася зацяжарыць!) Але надзея вярнуцца застаецца.

Бацьку будучага дзіцяці забіраюць на вайсковыя зборы, маці жыве ў Крычаве і часта глядзіць па тэлевізары футбол, спадзеючыся, што народзіцца хлопчык. Але нараджаецца дзяўчынка. Зосіна старэйшая сястра...

Зося нарэшце адарвала позірк ад напаўзацёртых чарнільных літар на пажаўцелых пыльных старонак бацькоўскага рамана ў пісьмах. Усё ёй цяпер зрабілася зразумелым: што такое каханне, якой павінна быць жанчына, каб мець асабістае шчасце. Зося ў глыбокай задуменнасці ўстае з канапы, на якой яна чытала тыя пісьмы, і звязвае іх вяровачкай ізноў. Так, толькі жаноцкасць, толькі магутная жаноцкасць. Адсутнасць прамалінейнасці і грубасці, — у гэтым сакрэт жаночага поспеху і жаночай «кар'еры». Як навучыцца разумець мужчыну, яго патрэбы ды інтарэсы, навучыцца дапамагаць яму так, як гэта рабіла мама?

А тут думаеш пра сябе... Як спала, як ела, як адчуваеш сябе, у якім настроі ходзіш. Што надзець, куды схадзіць. Думаць жа трэба пра бліжняга, і тады ўсё атрымаецца, пойдзе на лад. Вось жа знаходзіўся ў мамы час, каб клапаціцца не толькі пра сябе. Вучняў і кар'еру, але і пра бацьку. Каб любіць каханага, аддаваць яму ўсю сябе. Марыць пра яго як пра будучую «зорку» літаратурнага Алімпа. Адкуль, адкуль бярэцца гэты неверагодны эгаізм у тых, хто зусім не збіраецца мець сям'ю? Як гэта можа быць, каб людзі былі ў інтымных адносінах і не адчувалі за гэта ніякай адказнасці ні адно перад адным, ні перад Богам? І як заставацца сябрамі, як мама з бацькам, цэлыя 25 гадоў?

Пытанні, пытанні, пытанні. На іх не дасі адказу розумам. Адказваць на іх можна толькі сэрцам. Чулым чалавечым сэрцам, здольным любіць і паважаць іншага чалавека. Нехта скажа, што гэта занадта проста. Але ж менавіта ад любові і ў любові нараджаюцца дзеці, ствараюцца мастацкія шэдэўры і здзяйсняюцца навуковыя адкрыцці. Усё астатняе — ад нячысціка. Так, лагічнае, разумнае ўражвае, але яно не дае плёну. Кветка доўга цвіце толькі ў атмасферы любові. Зненавідзьце кветку, разлюбіўшы яе, — і яна хутка завяне, загіне.

Вось у чым разгадка таямніцы вечнага жыцця, мая даражэнькая!

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 7 (143) | 20 ліпеня 2018 | № 27 (590) Новы час

# ГЭЙ БЭН ІНОМ

## (Урывак з рамана)

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

*«...і ніколі я не паміраў».*
*Янка Купала*

*«Пазбегчы гэтага немагчыма,*
*але можна грэбаваць усім гэтым».*
*Луцый Анэй Сэнэка*

У кабінет Сталіна ўвайшоў Гітлер. Дзверы за правадыром і камісарам зачыніліся, потым зноў расчыніліся — і хутка, як ускочыў, увайшоў фюрэр. У лётным шлеме з чырвонай зоркай.

— Прыснулі? — спагадліва спытаў ён Купалу. І замахаў рукамі, убачыўшы, што ашаломлены Купала падымаецца. — Спіце, спіце!.. Не здзіўляйцеся, я толькі што з самалёта. Мы з Іосіфам час ад часу мяняемся. Я тут за яго... ён там за мяне...

Гітлер падскочыў бліжэй, і Купала ўбачыў, што ў яго розныя вочы. Адно зялёнае, якое міргала, а другое карычневае, якім ён глядзеў, не міргаючы.

— Тое, што мы робім, — углядзеўся ён у Купалу нямігаючым вокам, — тыя ідэі, праз якія хочам змяніць свет, па-рознаму называюцца, але падобныя. Як і спосабы, якімі дзейнічаем. Так што і я тут, і ён там, як дома. Не маем асаблівых праблем. Ну, хіба што з габрэямі... Ды спіце, спіце! Што вас так напружыла? Вы ж, наколькі мне вядома, не габрэй.

«Габрэй, не габрэй... Адкуль ён увогуле мяне ведае?» — падумаў Купала, ужо не спрабуючы зразумець, як гэта Гітлер, няхай і ў лётным шлеме з чырвонай зоркай, можа быць замест Сталіна, а Сталін замест Гітлера? Зразумець такое было немагчыма, а фюрэр спытаў:

— Чаму немагчыма?.. Магчыма, калі зазірнуць углыб. У адносіны германскай і расійскай імперый апошнімі... ну, прыкладна тры стагоддзямі. А ведаю я вас праз Вільгельма. Праз майго даўняга партыйнага таварыша Вільгельма Кубэ, якога я паставіў генеральным камісарам у Беларутэніі. — І Гітлер міргнуў зялёным вокам. — Нічога, што я гэтак Беларусь называю?.. Вільгельм настойвае менавіта на такой назве. Ён у мяне вучоны. Яшчэ й паэт, драматург, як і вы. І як Мяркулаў, — раптам весела ўспомніў Гітлер. Абое рабое. Што ў Сталіна, што ў мяне. Сталінскі «драматург» на свайго начальніка, на Берыю данос напісаў, а мой — на майго намесніка. На Бормана. Прыдумаў, нібы ў таго цешча габрэйка. Калі высветлілася, што не, непрыемнасці былі ў Вільгельма. Судзілі за паклёп вышэйшым партыйным судом. Хоць, можа быць, дарма. Яшчэ нябожчык Гейдрых западозрыў, праз што ангельцы і забілі яго, што ў маім блізкім атачэнні з'явіўся сталінскі агент. Мянушку ён меў Вектар. Дык вось гэтым Вектарам, калі верыць амерыканцам, быў якраз Борман. Так што нездарма ўнюхаў Кубэ ў ім нешта не тое. І я адчуў, што нездарма, дапамог Вільгельму выслізнуць з-пад суда за паклёп з мінімальнымі стратамі. Як ён мне некалі, даўно, яшчэ ў тую вайну, дапамог выслізнуць з-пад суда за дэзертырства. — Гітлер весела хіхікнуў. — Я, між намі, калі на вайну ўзялі, спачатку ў сімулянты, а пасля ў дэзертыры падаўся. Надта не хацеў, каб мяне забілі. Дык Вільгельм доктара знайшоў, габрэя, які напісаў, што я не зусім нармальны. Маўляў, мастак. І пагляздзіце, што малюе. У судзе пагляздзелі і згадзіліся, што так... А я някепскім мастаком мог быць, калі хочаце ведаць. Ды ўжо адчуваў, як і вы, іншае прадвызначэнне... І калі Кубэ за паклёп судзілі, я сказаў: ён жа драматург! Ці мала якія ў драматурга могуць быць фантазіі! І саслаў яго ў правінцыю, далей ад рэйхсфюрэра Гімлера, які на яго зуб вастрыў. Пасля перавёў, хоць усе былі супраць, у Мінск. Ён, дарэчы, і пасля вайны хацеў у Мінску гаспадаром застацца. А каб гаспадарыць без лішніх праблем, яму патрэбная была лаяльнасць вашых, як вы іхназвалі, тутэйшых. Таму ён пачаў зблізацца з інтэлігенцыяй, з нацдэмамі. Пад Мінскам раскопкі правёў, шкілет нейкі выкапаў і ў Берлін прыпёр, каб даказаць, што беларусы не славяне. Арыйцы. І што ў адносінах да іх трэба праводзіць іншую палітыку, чым у адносінах да рускіх. Продкі беларусаў, маўляў, былі ў Еўропе — і нашчадкаў іх трэба вярнуць да Еўропы. Уключыць Беларутэнію ў склад Рэйху. Як аўтаномію. Даць ёй прыкметы дзяржаўнасці. Сцяг, герб... Во як усё магло павярнуцца. А вы: «Партызаны, партызаны, беларускія сыны, біце ворагаў паганых, каб не ўскрэслі век яны!..» Яно ўвогуле правільна, толькі не ў той бок напісана. Ці ў той?.. Вы хітры такі? — раптам зыркнуў фюрэр на Купалу карычневым вокам. І доўжыў, не дачакаўшыся адказу. — А Кубэ, каб давесці, што вы арыйцы, што ў нас з вамі адны карані, вось што пісаў... Пачакайце, дайце ўспомніць. Як там?.. «Мы з Рэйху, звязаныя ніткай адной З сівой даўнінай, што не стлела, Сатхаць дапаможам вам белы сувой, Каб гэта краіна пад зоркай сваёй І хлеб свой, і радасць займела» — прачытаў па-беларуску нават лепш за Сталіна, без ніякага акцэнту Гітлер. І рукі пацёр задаволена. — Бачу, што здзівіліся. Я і сам здзівіўся, наколькі гнуткая мова. Яна і для вершаў, і для вайсковых загадаў. Як і нямецкая. Таму мне й падумалася, што, можа быць, Кубэ не такі ўжо фантаст. Перагаварыў пра гэта з Гімлерам, спытаў, што ён думае пра шкілет, пра вершы? Пра ўсё, што робіць Кубэ ў Беларутэніі... І ведаеце, што мой намеснік адказаў? Што Кубэ за гэта адразу можна было б расстраляць, але можна й пачакаць, пакуль яго за гэта кончаць рускія... Вось вы памерлі, дык вам наперад вядома: сапраўды яго рускія заб'юць? Ці нашы?..

Купала наперад ведаў, што скажа Гімлер, калі Кубэ скончыць жыццё на міне, падкладзенай пад ложак у яго спальні. «Якое шчасце для Айчыны!» — скажа рэйхсфюрэр Гімлер.

Гітлер спытаў пра Кубэ, але Купалу здалося, што ён і пра сябе хацеў нешта спытаць. Можа быць, ці не заб'юць яго рускія? Але не спытаў.

— Зрэшты, гэта не так важна, спіце... Каб вы толькі ведалі, як я сам спаць хачу! Заснуў бы мёртвым сном, здаецца. Але як заснеш, калі вайна? Калі за табой Айчына, нацыя... — прайшоў углыб кабінета і сеў на месца правадыра фюрэр. — За вамі, дарэчы, таксама. Не такая, вядома, як за мной, Айчына і не такая нацыя, але кожны мае тое, што мае. Што вырваў у іншых! — сціснуў у кулачок левую руку, якая была не большай за скалечаную руку Сталіна, Гітлер. — Ці што іншыя далі. У тую вайну вы нічога не займелі, і з гэтай вайны не вырвалі нічога, але Кубэ кажа, што пара вам нешта даць. Праблема толькі ў тым, што даваць няма каму. Ні нацыі нямашака, ні нацыянальных лідараў. Нікога, хто мог бы стаць сімвалам новай краіны... Вось я выканаў сваё прадвызначэнне, узвысіў Нямеччыну і немцаў, — раптам узняўся над сталом Сталіна Гітлер, — а вы сваё — не! Калі б не падаліся ў Маскву, а засталіся ў Мінску, маглі выканаць! Гэта не я прыдумаў, гэтак Кубэ напісаў мне тры дні таму. І яшчэ ён напісаў, што праз гэта вас і забілі. Спытаю сёння Іосіфа, ці так?..

Гітлер зноў прысеў, зірнуў на гадзіннік.

— Калі дачакаюся яго... Пэўна, да генералаў сваіх у штаб падаўся. Думаць будуць, як быць? Што рабіць? Мы Севастопаль сёння ўзялі. На чарзе Сталінград. У, як Іосіфу гэта не падабаецца! Ну, што мы збіраемся на Сталінград пайсці. Кажа мне: ідзіце на Варонеж. Дык я яму: не трэба было сваім іменем горад называць. Вось у мяне ж няма Гітлерграда. А Манштэйн, які Севастопаль сёння ўзяў, жартуе. Маўляў, няхай зноў назаве Сталінград Царыцыным. Тады можна будзе сказаць, што наўмысна горад здаў, каб пакончыць з царызмам. Дык Іосіф ускрыўдаваў. Гумару нямецкага не зразумеў. Хоць, калі па праўдзе, іншым разам ён не надта ўдала жартуе, Манштэйн. Мне можа нагадаць, што я яфрэйтар, а ён генерал. Іосіф такога генерала тут жа расстраляў бы, як Тухачэўскага, а я трываю. Бо хто мне гарады будзе браць?.. Я Манштэйну гэтаму, — скрушна ўздыхнуў фюрэр, — сёння званне фельдмаршала прысвоіў. Цяпер будзе казаць, што я яфрэйтар, а ён фельдмаршал...

Ён зноў на гадзіннік зірнуў:

— Можа, мне генералісімусам стаць? Гебельс вушы прасвідраваў: станьце, станьце... І вам, дарэчы, калі б у Мінску засталіся, я мог званне прысвоіць. Не фельдмаршала, вядома. А, напрыклад, ганаровага сябра Імперскай палаты літаратуры. Ці народнага паэта Рэйху. Або лаўрэата Гітлераўскай прэміі. Зрэшты, можна і тое, і другое. Прэміі Гітлера, праўда, пакуль няма, ёсць прэмія Гётэ, але чаму б не заснаваць?.. Ці вам не падабаецца ідэя? — трохі ўзнерваваўся фюрэр. — Па твары бачу. Чаму?.. Лаўрэатам Сталінскай прэміі можна быць, а лаўрэатам Гітлераўскай прэміі — не? А якая розніца, калі я там — тое самае, што ён тут? І я там, да вашага ведама, столькі літаратараў, колькі ён тут, не знішчыў. Паэтаў нямецкіх сотнямі не страляў, як ён савецкіх. Ці я проста сам па сабе вам не падабаюся?..

Гітлер, уважліва пагляздзеўшы на Купалу, мусібыць, вырашыў, што так, не падабаецца ён яму, і ўскрыўдаваў.

— А Кнуту Гамсуну падабаўся! І Герхарту Гаўптману, які на ўсе спектаклі па сваіх п'есах мяне запрашаў. Гаўптман, дарэчы, не нейкай там Сталінскай прэміі лаўрэат. Нобелеўскай. Як і Кнут Гамсун, пра якога ваш Горкі сказаў, што ягоныя творы — святое пісанне. І што мы ў тым пісанні чытаем?..

Фюрэр дастаў з адной кішэні фрэнча ключ, з другой фотаздымак, на які пагляздзеў і паклаў на стол: «Пачакайце, надпішу, а то забудуся...» — і самапіскай, якой Качарыга рэкамендаваў Купалу ў партыю, фота надпісаў, потым адамкнуў шуфлядку (Купалу не відаць было, якую: верхнюю, сярэднюю, ніжнюю?), узяў з яе нататнік.

— Гэта Іосіфа нататнік, ён запісаў тое, што Гамсун пра мяне сказаў. «Англія хацела вайны, і Гітлер агаліў меч. Ён, крыжаносец і рэфарматар, хацеў стварыць новую эпоху і новае жыццё для ўсіх народаў, усталяваць непарушнае міжнароднае адзінства дзеля росквіту кожнай краіны. І высілкі ягоныя не сталі марнымі, народы і нацыі падтрымалі яго, сталі поплеч з ім, каб разам змагацца і перамагчы!..» Далей пра тое, што я нявілкі з найвялікшых, але гэта не ўсё... Ведаеце, што, сказаўшы так, яшчэ зрабіў Гамсун? Аддаў свой нобелеўскі медаль майму «святапісцу» Гебельсу! Той жа таксама пнецца ў пісьменнікі... усе чамусьці ў пісьменнікі пнуцца... дык ачмурэў ад шчасця, падумаўшы, што гэтак мэтр ацаніў ягоную пісаніну. Спытаў: «Чым я магу аддзячыць вам за такі гонар?» І пачуў: «Сустрэчай з Адольфам Гітлерам».

Паклаўшы на месца нататнік, Гітлер замкнуў шуфлядку, выйшаў з-за стала.

— Гебельс угаварыў мяне з Гамсунам спаткацца. Праз тое гвалт ва ўсім свеце ўсчаўся. Англасаксы, амерыканцы, французы, самі нарвежцы калабарантам яго, здраднікам назвалі. «Як можна, — крычалі, — паціскаць руку, якая ў крыві!..» А ведаеце, дзеля чаго ён так хацеў пабачыцца са мной, разумеючы, як яго за гэта будуць ганьбіць, зневажаць? Што прасіў пры сустрэчы? Бачу, што ведаеце... Дык вось паставіць сябе дзеля Айчыны на скрыжаванне ганьбы і знявагі — гэта нават не грудзьмі на кулямёт кінуцца. Там імгненне, іскра, а тут... Тут насамрэч вялікі подзвіг. Самаахвярнасць, а не здрада. Шкада, што вы пра гэта не падумалі, перш чым ад нас з Мінска ў Маскву ўцякаць.

— Адольф Алаісавіч, ваш самалёт запраўлены, гатовы да вылету, — адчыніў дзверы ў кабінет Сталіна ягоны сакратар, пра якога Купала раптам успомніў, што Сталін жонку ягоную расстраляў, і, мусібыць, сакратар адпомсціць Сталіну хоча, таму Гітлера ў кабінет пускае і ключы яму ад сталінскага стала дае, дзе самыя сакрэтныя паперы ляжаць, а Гітлер сказаў, выходзячы ў дзверы, у якія ўваходзіў Сталін: «Зусім не таму... І зусім не пра тое вам, Іван Дамінікавіч, думаць трэба. Пра місію Гамсуна думайце, пра тое, што ён прасіў...» — і яны, Гітлер са Сталіным, прайшлі адзін скрозь аднаго, не размінаючыся, так, нібы абодва былі бесцялесныя, жывыя нябожчыкі...

«Во як выкруціў, — пачаў паціху прачынацца Купала. — Ведаю я, пра што Гамсун прасіў. Прасіў Нарвегію пакінуць Нарвегіяй... Прасіў захаваць незалежнасць краіны, не рабіць з яе пратэктарат... Прасіў спыніць гвалт, расправы... Прасіў, прасіў, прасіў... А Гітлер адказваў: «Гэта пасля вайны, пасля вайны, пасля вайны...» І ўсё б нічога, можна было б лічыць гэта місіяй і нават вялікім подзвігам, калі б пасля вялікай вайны і вялікай крыві вялікі нарвежац не напісаў: «Мы, верныя прыхільнікі Гітлера, схіляем свае галовы перад тварам ягонай смерці».

— Прачнуліся? — прайшоў да свайго стала Сталін. — Зноў снілі вашы беларускія сны? Дзяржаўнасць, незалежнасць? Цуда нейкага ўсё чакаеце?.. А там, — кіўнуў ён на дзверы, — камісар чакае.

Купала падняўся, падышоў бліжэй, каб развітацца, а Сталін сеў, узяў фотаздымак, пакінуты Гітлерам.

— Дзе гэта мы з ім?.. — перавярнуў ён фота. — Што тут напісана?.. — І ўголас прачытаў: «Іосіф, Манштэйн хоча на поўдзень, але я пашлю яго на поўнач. На Ленінград. Твой Вектар».

Купалу, можа быць, і здзівіла б тое, што ён пачуў, калі б не ўразіла тое, што ён убачыў. На павернутым да яго здымку Сталін з Гітлерам сядзелі на лаўцы ў Горках. На той самай, на якой сядзеў некалі ў Горках Сталін з Леніным.

— На Ленінград... — кінуў Сталін здымак на стол. — А сёння яны ўзялі Севастопаль. — І спытаў, тэлефонную трубку заклапочана падымаючы: — Як вы думаеце, нам вярнуць Крым?.. Мне дык болей Каўказ даспадобы.

# На раздарожжах вечнасці



Алена ГІНЬКО

## Самотная птушка

*Дзіўная, незразумелая,
ад палыну ап'янелая,
з верaю, спадзяваннямі,
з вечнымі расчараваннямі.
З золкамі і змярканнямі,
стрэчамі і расстаннямі,
з лекамі і атрутаю,
вольная і закутая.
З ружамі і рамонкамі,
ціхая — надта звонкая,
добрая — і найгоршая,
горкая — найсалодшая.
Птушкаю адзінокаю
лётае і галёкае,
будзіць абшары шэрыя
болем, трывогай, верaю.
...Вечныя супярэчнасці
На раздарожжах вечнасці.*

***

*Усё заблытана...
Загадка
ці нават тайна існуе.
Самота свой узор снуе...
Снуе самота свой узор,
а сэрца просіцца да зор.
Да зор?
Да Зорачкі-заранкі,
да светлай мары-калыханкі,
што вабіць, цешыць і хвалюе,
што ў сэрцы днюе і начуе...
Ці чуюць Зоркі нас, звычайных?
А можа, добра, што ёсць тайна?..
Дзе таямніца — там надзеі
і, дасць Бог, добрыя падзеі.*

***

*Прадчуванне блізкага дажджу —
быццам бы чаканне спавядання.
З ім хачу зацятасці іржу
змыць з душы, каб не было і звання.*

*Стоенасць прыроды данясе
да цябе патрэбу ачышчэння.
Ад праблем, што ўзычыў фарысей,
хочацца хоць нейкага збавення.*

*І калі праўве на небе гром
гэтую затоеную роспач,
ты заплачаш ліўням наўздагон,
ты з прыродаю пабудзеш поплеч.*

*...Вось і дыхаць стала ўжо лягчэй.
Вочы ўжо дабрэйшыя, не тыя.
Хоць на споведзь не хадзіла йшчэ —
Мне цяжар з душы залева змые.*

***

*Зялёны ліст кранае пазалота,
калі ляцяць у вырай журавы...
Халодныя дажджы, туман і слота...
На скронях снег — гарчэй палын-травы.*

*Гарыць ліхтар агеньчыкам самотным
у цемры паміж сцішаных дамоў.
Іду адна вандроўнікам гаротным.
Ліхтар то ўспыхне, то прыцьмее зноў.*

*Шляхі і ростані... Святло і цемень...
Бясконца хваляй б'юся ў берагі.
А чалавек — пясчыначка, а не крэмень.
Дзе мой прыстанак і прытулак ад тугі?!*

*Дзе промень мой вясновы і гарэзны?
Дзе лецейка жаданае? Дзе май?
Трымціць душа струной надрэзанай.
...Трымай мяне, саломінка,трымай.*

***

*Прыгажуняю,
чараўніцаю,
падарункам чыйгось жытла,
яркай зоркаю Мілавіцаю,
называлі...
А... ці была?
Пекнай ягадкай,
гожай краскаю,
звонкай песняю ручая,
незвычайнай
чыёйсьці казкаю
называлі...
Была ж — не я...
За асокамі,
за аблокамі
птушка шчасця галёкае: дзе?..
Мо галёкае, адзінокая,
мо купаецца ў слёз вадзе?*

***

*Вечны канон — Бог-Любоў...
Верыла і Любіла,
і спатыкалася зноў.
Зноўку —
падножка —
боль.
Падаю...
Цяжка падняцца,
калі засмужвае золь.
Скрухай заснежаны тын,
дзе ўкрыжавана надзея,
дзе адзінокая...
Ты.*

***

*Усё ў свой час...
Усё — каму?
Каму — не ўсё...
Каму — нічога.
Усё ў свой час...
Для іх? Для вас?
А для мяне?!!
Ці часу многа?..
Ці часу шмат пакінуў Бог —
на бальшаку?
сцяжынцы ?
бродзе?..
Хай Бог сцярог
пустых дарог
да той, апошняй,
перад «годзе».*

# Вясновае спляценне



Ірына ГРУМАНДЗЬ

***

*Белы пялёстак віёлы.
Сонечны сквер. Вясна.
Поўныя прыгаршні промняў —
радуецца дачка.*

*Кветкамі расквітнеем,
вераю заіскрым,
поўнае сэрца надзеі
у скверы на Страсным.*

***

*Вясновае спляценне
ўзораў
на галінках дрэў —
дыван зялёны
ў паветры
мастак павесіў,
намаляваўшы траўня
акварэль.*

***

*Горкая рэшта пасля размоў,
бы недапітая кава...
Звужана кола старых сяброў —
звыклая часам з'ява.*

## У Селішчы

*Сыплецца цэгла з касцёла Святой Веранікі...
Сонцам асвечаны вежы —
Хрыстос на зямлі...
А ўначы мармуровы анёл
збірае цаглінкі,
плача дзяўчына,*



*зёлкі буяюць ля вечнай красы.
У Васілёвых малюнках
і вершах дзядзькі Рыгора —
плач Веранікі як памяць
жывога Хрыста.
Доўгай дарогай дадому
спатольвае стома.
Сыплецца цэгла з касцёла
над зоркай Рыгора ды Васіля.*

## Зіма ў лістападзе

*Зіма — у лістападзе,
і холад нашых душаў,
як быццам хтось слязінкі
па снезе расцярушыў.*

*Блішчаць яны ўночы,
а нам абы сагрэцца —
і не заплакаць вочы,
і не астудзіць сэрца.*

*Зіма — у лістападзе,
бялютка-снежна-ранняя,
накінула на восень
сукенку развітальную.*

## Кроплі

*Восень збірае
кроплі дажджом,
каб асвяціць ваду.
Ёю ўмыю рукі й вочы
ды ў зіму пабягу.*

*Кропля жывая
стане ільдзінкай,
срэбнаю і маёй.
Хтосьці ў небе
назваў Ірынкай
і акрапіў вадой.*

***

*Ёсць невыносныя ночы,
калі баішся пакахаць...
Ёсць такія вочы:
у бездань іх —
не пáдаць, а ўзлятаць!..*

## Дзісенскае

*Там, дзе Дзісенка ўпадае ў Дзвіну, —
гулкай памяці звод.
У роснай раніцы патану
ў жніўеньскі хрэсны ход.*

*І Багародзіца павядзе
радасцю вечных сіл —
то Адзігітрыя па вадзе
плыла пад небасхіл.*

*Богапрысутнасць стрэчы стрэч,
Богаз'яўленне... Шлях...
Веры людской сакральны меч
смерці разбурыць страх.*

***

***Францу Сіўко***

*Пах тытуню
і кава, толькі кава...
Размовы ў кулуарах
аб «Маёй душы».
Прароцтвы Вашы
творчасць прадказалі
кароткай фразай:
«Здольная, пішы!».*

## Чайкі

*А чайкі праз хмары лятуць на святло —
не ведаць прыродзе марнасць
кватэрнага свету.
Крычаць пра дажджы й навальніцу
у вольнае неба — азёрнага краю жытло.
У птушак таксама ёсць
прага да вечнасці,
і птушкі таксама ўмеюць маліцца.*

*Знясілены крык —
нанізвае боль ды адчай
на струны душы чалавечай у хмарах.
У нябёсным святле патанае свяча
крыклівым агнём растрачаных мараў.*

*А чайкі і ноччу лятуць на святло
да вечнага люстра спакою...
Пранізлівы крык — то крык пра жыццё
людскога кватэрнага дому.*

## Караценькае

*Доўгі час знаходзячыся ў свеце няпраўды,
людзі пачынаюць свята верыць у яе.*

***

*Любоў — рэдкая прыгажосць сучаснага
свету.*

***

*Не думайце пра людзей добра.
Думайце пра людзей як пра людзей...*

# Труп



Вячаслаў ЛАПЦІК



Маладая пстрычка гадоў дваццаці з абыякавым выглядам прыліпла да вакна тралейбуса, часам раўнадушна ўзіралася ў пасажыраў і, бачна, разважала пра свае праблемы. Побач з ёй сядзеў мужчына сярэдняга ўзросту ў расхрыстанай чырвонай куртачцы і без шапкі. Уражанне такое, нібы яму стала надта душна і ён вырашыў расшпіліцца. Праўда, месціўся неяк нязвыкла скасабочана, нібы яго моцна хапіў жывот, галава нізка апусцілася на грудзі, а рукі бязвольна звесіліся ўніз, лучыўшы якраз паміж каленяў. Іншаму магло падацца, быццам ён прыкімарыў пасля надта цяжкой працы.

— Дайце я прайду, — прыўстала дзяўчына і вышэй падцягнула сумачку на плячы, але той не адказваў, таму яна зноў паўтарыла пытанне мацнейшым голасам: — На Энгельса выходзіце?

Нахілілася да незнаёмага, але ён маўчаў і ніяк не рэагаваў. І тут дзяўчына ўпершыню перапужалася, убачыўшы застылае бязвольнае цела, жоўты твар і прыплюшчаныя вочы.

— О Божа! Жах! Ён жа мёртвы! — яна ўздрыганулася і разгублена зірнула на людзей. — Ужо не жывы!

— Вой-вой! — спалохана запішчалі дзве сяброўкі, якія сталі побач і пра нешта сакаталі; яны тут жа пацiснуліся наперад, бліжэй да кабіны.

— Скапыціўся прама ў аўтобусе, ха-ха! Пэўна, учора, сабака, перабраў! — не да месца пажартаваў нейкі мужлан у пераношанай куртцы з выведзеным серпам і малатком на грудзях, моцна надарваным рукавом на плячы і збітых туфлях без шнуркоў на босую нагу, якога, відаць, зусім не хвалявала думка пра падатак за дармаедства.

Ён хацеў нешта дадаць, але на яго злосна цыкнулі, нехта нават мацюкнуўся, і народны гумарыст заціх, з прыхаванай усмешкай разглядаючы жоўты твар нябожчыка, быццам той прывабіў яго сваёй прыгажосцю.

Вакол ста́ла напружана і ціха, а пасля народ, быццам яго спырснулі нейкім ажыўляльным варам, зашавяліўся. Прапаноўвалі загнаць тралейбус на дыспетчарскую станцыю разам з мёртвым, дзе не спяшацца і ва ўсім спакойна разабрацца, уважліва пашарыць у кішэнях незнаёмага, знайсці сотавы, бо цяпер тыя маюцца ва ўсіх, нават у бамжоў, пасля чаго, раскрыўшы пошту пастаянных званкоў, пастарацца адшукаць жонку ці кагосьці з бліжэйшых сяброў. Нейкая цётка з яркімі румянымі шчокамі і занадта вялікімі для жанчыны вушамі, падкрэсліўшы, што мае непасрэднае дачыненне да медыцыны, хоць і не прызнаўшыся, чым яна там канкрэтна займаецца, вызначае камп'ютэрны дыягназ альбо цягае гаршкі з-пад паралізаваных хворых, прапанавала дужэйшым і смялейшым асобам мужчынскага полу забраць цела з сядзення, выцягнуць на вуліцу, укласці роўна на зямлю і пастарацца зрабіць штучнае дыханне: «У рот яму паветра я сама падпампую, у мяне лёгкія аб'ёмістыя, можа, яшчэ здрыганецца і ачуняе, а там, глядзіш, і сэрца затухае».

— Куды сунецеся, няўмекі? Не ведаеце нашых законаў! — раптам пачуўся ўладарны мужчынскі голас з хрыпатцой. — Выпадак смяротнага зыходу неабходна спачатку абавязкова зарэгістраваць у міліцыі, таварышы!

Так па-камандзірску цвёрда заявіў шыракаплечы дзядзька ў доўгім скураным плашчы, чорным капелюшы з цёмна-барвовай акаймоўкай і папкай пад пахай. Такія скуранкі насілі галоўныя героі ў фільме «Улицы разбитых фонарей», падобных чэкістаў народ моцна баяўся, хоць улюбёнец Уладзімір Высоцкі на экране таксама не спускаў з плячэй падобную апратку, праўда, не такую доўгую.

— Міліцыя павінна зарэгістраваць смерць на месцы і скласці акт, што ён памёр сам, без насілля, яго ніхто не душыў і нажом па жываце ці горле не паласнуў. — Знаток беларускіх законаў гляну ў высакамерна і з доляй яўнай пагарды, пасля дастаў з кішэні насоўку і ў цішыні высмаркаўся, засунуўшы тую чамусьці ў папку. — Таму не выпендрывайцеся і выклічце органы.

Бляск цікаўных вачэй у салоне згас, і дзелавы гул рэзка заціх, жаданне дзейнічаць і нешта раскручваць далей у экстрымальнай сітуацыі знікла, палова людзей мэтанакіравана скіравала позіркі на незнаёца, які аддаў Богу душу, і тады пачуўся голас маладой пстрычкі:

— Я нікуды званіць не буду, разбірайцеся самі, мала таго, што я сядзела побач з ім! Ён мне не бацька, не сват і не брат! У мяне без гэтага маса праблем.

З настойлівай мэтай пакінуць месца, яна падціснула сваю тонкую дупку, асцярожна ажыргала маўклівы труп, яўна баючыся дакрануцца да яго любой часткай цела, асабліва рукамі, каб не пакінуць адбіткаў пальцаў і каб пасля не прычапіліся следчыя структуры, і, ухапіўшыся за верхнюю парэнчыну, пралезла ў праход.

Пасажырапаток набраўся сіл, стыхійна і неадабральна зашумеў, кідаючы незадаволеныя позіркі на тую, якая збягае і не хоча трапіць у сведкі, — маўляў, ты сядзела побач з трупам і каму яшчэ, як не табе, хітрая праҳіндзейка, званіць у праваахоўчыя органы. Прынамсі, самую аб'ектыўную інфармацыю і вычарпальны малюнак таго, што адбылося, можаш даць толькі ты.

— Дык хто паведаміць у міліцыю? — насядаў мэтр з папкай у руках, які, бачна, усе неабходныя працэдуры вырашыў давесці да канца.

І чамусьці ўтаропіўся позіркам у мужыка, які месціўся на суседнім сядзенні за спіною трупа. Той ехаў ціха і мірна, ледзь не ўнурыўшыся носам у свой невялікі планшэт на каленях, пастаянна пальцамі шукаў нейкі тэкст, ганяў яго злева направа і мірна чытаў, ні на кога не звяртаючы ніякай увагі. Апрануты ў надта тоўстую цёмна-сінюю куртку са стаячым каўнярам і вялікімі круглымі заклёпкамі бронзавага колеру на нагрудных кішэнях, якую спераду перараза ў доўгі і шырокі ланцуг; ён выглядаў вылітым гарналыжнікам. Да таго ж нацягнутая на галаву шэрая вязаная шапачка з бліскучым на ілбе чорным надпісам «Sport» дабаўляла яму спартыўнага выгляду.

— Тваю маць, чаго вы на мяне асталопна ўставіліся, нібы я нешта стырыў? — гаркнуў ён, быццам злуючыся, што ягоную ўвагу адцягнулі ад мілага планшэта. — Даўно не бачылі? Я нікому званіць не буду, знайшлі дурня! — рашуча зняў з каленяў і прыпадняў планшэт, быццам у жаданні шпурнуць некаму ў мосю, каб не чапалі і адсталі, а пасля апусціў той на старое месца. — Самі дзынкайце! Два гады назад мой знаёмы палез у сведкі, дык пасля апошнімі словамі праклінаў гэту сваю тупасць!

Апусціўшы галаву яшчэ ніжэй, зноў усунуў свой нос у тэкст на планшэце, шукаючы пальцам згубленае патрэбнае месца. Усім выглядам паказваючы, што з ім звязвацца няма сэнсу.

У праходзе каля памерлага стаяў, моцна трымаючыся за поручні, малады мужчына з кароценька заплеценай коскай на патыліцы. Ён глядзеў на труп з нейкай цікавасцю і лёгкай шкадобай.

— У вас недзе тэлефончык? — звярнуўся да яго ініцыятар з папкай і сур'ёзным тварам. — Пазваніце, калі ласка, у міліцыю.

— На жаль, не магу. Мне трэба спяшыць на працу, — ніводзін мускул не здрыгануўся на твары гэтага высокага падцягнутага мэтра ў чорным касцюме, белай кашулі і з гальштукам. Ён быў адарваны ад мірскіх праблемаў, думаў толькі пра сваё, магчыма, пра нейкія навуковыя даследаванні. — У мяне заканчваецца кантракт, і шэф можа абурыцца, чаму я ўвязаўся ў гэтую справу і толькі катаюся па мільтонах ды трачу вытворчы час.

Мажліва, ён цяпер абдумаваў ці будучыя навуковыя распрацоўкі, а мо напружана разважаў, маючы адносіны да беларускай інтэлегенцыі, пра існаванне роднай Бацькаўшчыны і прычыны, якія да гэтага часу перашкаджаюць стварэнню ў краіне скансалідаванага грамадства, ад чаго залежыць лёс нацыі. «Народ нейкі перапалоханы і нязручны, усе баязліва рассыпаліся па сваіх маленькіх загарадках, баючыся паяднанасці і новых змен у асабістым жыцці. Чым толькі іх можна захапіць і ўзняць з каленяў?» — Сёння займацца трупамі павінны толькі праваахоўнікі, мы птушкі невысокага палёту.

Гэтай шчырай фразай інтэлегент у касцюме і пры гальштуку канкрэтна адкінуў свой намер лезці ў гэтую справу.

Белакурая лахудра з неахайна рыссыпанымі доўгімі валасамі, якія, здавалася, месяцамі не бачылі нармальнай расчоскі, што цяпер лічыцца модным, фыркнула зусім каротка: — Тут справа дабраахвотная, мае мілыя, нікога не прымусіш. У каго ёсць хоць кропелька сумлення — той і дапаможа нябожчыку.

Раўнадушна акінуўшы вокам труп, яна зняла чорныя пальчаткі і пачала папраўляць свае густыя кудры, нібы рыхтавалася выскачыць на сцэну тэатра, дзе ў першым радзе засеў каханік, што пачне прагна з'ядаць яе вачыма, а пасля за кілішкам сухога віна будзе даваць адзнаку яе выступленню.

— Я б мог пазваніць! — раптам ад кабіны шафёра працiснуўся бліжэй да трупа малады яшчэ бязвусы хлопец у шырокіх акулярах і са скуранай сумкай праз плячо. Пакорны, трошкі разгублены выгляд і нейкі зашмальцаваны падручнік у руках гаварылі пра тое, што ён, хутчэй за ўсё, студэнт, а цяпер рыхтуецца да нейкага экзамену ці заліку.

— Во малайчына, давай-давай! — скінула з сябе дакуку і радасна зашабуршала сваімі галасамі і адзеннем палова тралейбуса, адчуўшы расслабленасць у душы і целе. Народ ажыў і захваляваўся, ён убачыў сярод сябе лідэра і ў такой справе захацеў яго падтрымаць.

— Ты малады, нічым не звязаны — табе і карты ў рукі! — рашуча заявіў мэн з папкай.

Ад несцярпёжкі людны салон загаманіў і захітаўся, нечаканы выхад з няпростай сітуацыі многіх натхніў і нават абрадваў. Народ забурліў, на «ўра» прыняўшы тое, што знайшоўся раптам крайні, хто бярэ на сябе смеласць і клопаты па няпростай валакіце з нябожчыкам, а ўвесь цяжар адказнасці спадае з іх плячэй. Выдавала, што падобнага толькі і чакалі, і цяпер кожны разумеў, што з'явіўся момант спакойна выйсці з няпростай сітуацыі, перакінуўшы адказнасць на плечы іншаму.

— Але ж, ведаеце, ёсць праблема, — смелы студэнт, гледзячы на застылага нябожчыка, пачухаў кніжкай за вухам.

— Што-што, дзялок? — зноў той самы знаёмы мужчынскі бас незадаволена гаркнуў здалёку, аж з задняга сядзення.

Тралейбус ажыў у гамонках і выкрыках, поўных эмацыянальнай злосці:

— Во дае, як дурное дзіця!

— Не бойся!..

Кожны хацеў паказаць сябе добрым і цывілізаваным чалавекам, сумленным і прыстойным, тонкім знаўцам чалавечых адносін, стараючыся як мага хутчэй зняць з сябе нагрузку і долю маральнай ды юрыдычнай віны за тое, што адбывалася ў салоне.

— Што, таварыш, вас турбуе? — дзядзька з папкай канчаткова вырашыў прыцiснуць іншадумства адзіночак у салоне.

— Мой сябрук Ігар два гады назад у міліцыі пагадзіўся на сведку, калі ні за што хуліганы пабілі на вуліцы ягонага суседа, — спакойна пачаў тлумачыць юнак. — Дык ён пасля сказаў, што праклінае той дзень, калі з хлопцамі ў форме звязаўся. Цягалі яго як на допыты год, усё нешта пісалі і прыдумлялі, афармляючы справу, а Ігара забаёдалі, — прыпамінаў худы юнак з сумкай праз плячо.

— Не сцы, труслівы сярун! — з задняга сядзення знаёмае хамло сказала па-мужчынску прама, нават не звяртаючы ўвагі на жанчын і на тое, што дзяржава быццам лічыца еўрапейскай.

— Не будзь сікунчыкам, смялей глядзі на жыццё! — заўважыла кабета ў кароценькім сабалiным футры. — Не трэба так грашыць...

— Не, прабачце, мне трэба сядзець на лекцыях, я адказваюся! — бачна, абзыўкі і знявагі вывелі спакойнага хлопца з сябе. — А што да граху... Дык вы ж яго набіраецеся тут больш за мяне... Сваімі павадкамі...

Зноў стала ціха, пасажыры пакрыўдзіліся на студэнта, бо не заўважалі свайго граху, прыкідваючы, адкуль таму быць, калі яны вядуць сябе з годнасцю, вакол усё нармальна і ніхто не парушае дзесяць асноўных запаведзяў Гасподніх.

Але ж прастора для бязглуздых фантазій надта вялікая, нехта прапанаваў зусім нечаканы варыянт: маўляў, чаму мы павінны аддувацца, няхай за справу возьмецца кіроўца, якога хрэна ён, малады хлопец, сядзіць за сценкай і ні на што не звяртае ўвагі: «З нас дзікія грошы за праезд дык дзёрці мастак, а тут заціх!» Спачатку няхай выклікае кантралёраў, тыя патрасуць кішэні нябожчыка, і калі пераканаюцца, што труп безбілетны, ім ёсць магчымасць тут жа звярнуцца ў міліцыю з мэтай высвятлення

пашпартных дадзеных мёртвага пасажыра для складання пратакола за неаплочаны праезд.

— Чаго вы да гэтага маладога піжона з кніжкай прысталі? — раптам пачулася ў салоне. — Відаць, студэнта сорам не бярэць, і даўно страціў сумленне! — улезла ў размову шырокая цётка з вялікім круглым тварам і нахабнымі вачыма, а ўвесь ейны выгляд быў задзірысты і ганарлівы, нібы яна толькі і чакала моманту да некага прычапіцца і добра ўваліць. — Я б магла стаць сведкай, прытым прынцыповай, мяне проста так не ўламаеш, але аднойчы мне ўжо моцна памялі бакі і запёрлі ў СІЗА.

— У-у-у, — спачувальна пачулася ў тралейбусе. — Няшчасная...

— Я ж іпэшніца, і не раз з мільтонамі спрачалася да пасінення, дамагаючыся не чапаць мой тавар і дазволіць рэалізаваць. Таму зноў у органы не палезу, бо хачу трошкі пажыць. Мне трэба грошы зарабляць!..

Яна выглядала зарана распаўнелай і злоснай, бабай, якой у рот пальцы не кладзі, што прывыкла бескампрамісна кіравалі і мёртва стаяць на сваіх пазіцыях; відаць, добрыя сумы ад рэалізацыі завезенага заморскага тавару і пастаянныя сутычкі за сваё месца з вечна незадаволенымі гаспадарамі рынку з іх настырнымі памкненнямі выдраць з яе любым шляхам максімум грошай, выхавалі з яе істоту гарластую і непрымірымую.

— Хопіць гаўно ў ступе таўчы, спекулянтка, гані сваю прапанову! — зноў пачуўся недзе з задняга сядзення незадаволены бас. — Давай, шалава, канкрэтна па справе!

Каб не гэта надзвычайнае здарэнне, маецца на ўвазе смерць чалавека, таго незадаволенага крыкуна, магчыма, сурова паднялі б з месца і нават прысаромелі перад аўдыторыяй, напомніўшы, што ён еўрапейскі пасажыр, які лічыцца членам Мытнага саюза, а не нейкі нямыты голы афрыканец з кампаніі «Чорнае балота» па пошуку брыльянтаў, таму павінен весці сябе культурна і належным чынам, нікога не зневажаць і нікому не хаміць, тым больш у белы дзень і жанчыне-іпэшніцы, але ж цяпер не было часу займацца падобнай працэдурай выхавання, бо ў салоне знаходзіўся мёртвы пасажыр.

Іпэшніца яўна хацела заткнуць рот дурному басісту з задняга раду, але ж гэта яна пакінула на пасля, бо трэба спачатку разабрацца з трупам у салоне. Трэба было адказаць грубасцю на хамства, бо да падобнага яна прывыкла, але ж цяпер прамаўчала. Гэтая мажная цётка не прывыкла, каб ёй кіравалі — сваёй камплекцыяй заняла адно сядзенне і яшчэ палову наступнага, дзе паставіла збоку каля сябе два вялікія цэлафанавыя мяшкі, туга набітыя таварам. Але ёй ніхто заўвагі не рабіў і не хацеў увязвацца ў дыскусію з такой грамілдай.

— Слухайце мяне, арлы і вароны! — гэта таўстуха яўна перахапіла лідэрства ў мужыка з папкай. — Не шукайце сведкаў са звычайнай публікі, каго можна лёгка пасадзіць на асінавы кол. Гляньце, хто сярод нас пенсіянер? Няхай той дзынкніць у міліцыю, бо яму ўжо няма чаго дрыжаць.

— Маладзец, баба, маеш на плячах галаву, а не жопу, — зноў нехта з «хваста» высока ацаніў разумовыя здольнасці і лагічнае мысленне грузнай пасажыркі.

І дзясяткі вачэй запытальна ўставіліся ў дзядка гадоў за семдзесят. Быў ён невысокага росту, але прысадзісты і яшчэ ў сіле, апрануты ў доўгі пінжак, яўна з чужых плячэй. Напакаваная нейкімі сумкамі з брызентавым заплечнікам па цэнтры шырокая каляска на маленькіх калёсіках гаварыла пра тое, што той хутчэй за ўсё вяртаецца з дачнага ўчастка.

— А ху-ху вы не хо-хо? Чаго ліпнеце да мяне? — надзіва тоненькім бабскім галаском раптам завішчаў той. — Думаеце, калі я пенсіянер, дык дурнейшы за вас і з мяне можна здзекавацца? Не, паважанае спадарства, маю плоць так не адолееш, не на таго нарваліся! — Ухапіўшы сваю каляску з вандзэлкамі, паціснуўся бліжэй да выхаду.

— Дзед, чаго ты... пукаеш? — бачна, непадпарадкаванне старога іпэшніцу адкрыта раздражняла. Яна магла заціснуць сваёй настырнасцю, зблоціць любога ўпартага спрэчніка і задзяўбсці аглушальным крыкам, прыглушыўшы таго пры неабходнасці бруднымі мацюгайламі, праўда, апошні арсенал зброі яна пакуль не прымяняла, разумна аценіўшы месца сутычкі.

— Ты... гэта самае... пукаеш за мяне, бо таўсцейшая ў тры разы! — нечакана адпарыраваў стары. — Я ўжо ў гадах, і часта лятаць да паліцмайстараў не ў сілах нават і па павестках! — піскліва даказваў дзядуля. — Я да іх, як сведка, бегаць не змагу, праігнараваўшы выклікі, яны на мяне моцна раззлуюцца. Ад пенсіі адымуць яшчэ рублёў трыццаць ні за што...

Штурхаючы пасажыраў пад бакі і не звяртаючы ўвагу на пратэстныя воклічы, языкасты вёрткі дзядок папёрся да дзвярэй, зачапіўшы жалезнай ручкай каляскі няшчасны труп і нават абваліўшы на паваротце яго набок і падсунуўшы на суседняе сядзенне, дзе нядаўна ёрзала дупкай маладая дзявашка.

«Жа-ах! Стары корч! Дзе тваё сумленне?» — дружна запратэставалі ў салоне, спачувальна гледзячы на мёртвага пасажыра, а мужык у скураным паліто нават замітусіўся і пачаў раскрываць сваю папку ў жаданні запісаць пашпартныя дадзеныя адурэлага старога, каб пасля заявіць у адпаведныя дзяржаўныя інстанцыі.

«Пайшлі вы ўсе! — не здаваўся дачнік, — можа цяпер мяне пачнеце душыць?» — і ламаўся з самадзельнай іржавай каляскай наперад.

На наступным прыпынку пенсіянер хуценька выскачыў за дзверы, спешна выцягнуў сваю каляску, ледзь не перакуліўшы яе на апошняй прыступцы і не скінуўшы на асфальт заплечнік.

Натоўп зноў завіраваў, напружваючы набыты інтэлект і шукаючы аптымальны варыянт выйсця з няпростай сітуацыі, які б задавальняў усіх, але ж ніяк не мог яго знайсці. Тады зноў у гутарку ўлез уладальнік тоўстай чорнай папкі.

— Я ведаю, што зараз атрымаецца, паважаныя таварышы, — заклапочана давёў ён і спецыяльна зрабіў доўгую паўзу, каб выклікаць да сваіх слоў паболей увагі, што прымусіла пасажыраў трошкі прыціхнуць і так моцна не праклінаць старога дачніка з каляскай. — На канечным прыпынку кіроўца аўтобуса проста заблакіруе дзверы, запёршы людзей у салоне, і выкліча мільтонаў. Гэта значыць, тыя, хто застануцца, не па сваёй волі стануць сведкамі, бо ўсіх перапішуць і ўвядуць у міліцэйскія пратаколы.

— Адурэць, сраныя сукі! — тое самае смелае хамло зноў узарвалася на заднім сядзенні. — Ухопяць пашпарт — запішуць у туніядцы! Не хапала, каб маё прозвішча гуляла ў паперах падаткавікоў...

— Так заціснуць, што аддасі ім усё, што патрабуюць, нават больш! — зрабіла свой каментарый знаўца тонкасцяў работы падаткавікоў іпэшніца, хуценька згрэбла вялікія вандзэлкі з сядзення і настырна пацiснулася да дзвярэй. — Эй там, наперадзе, выходзіце?

На перадапошнім прыпынку, імпэтна штурхаючы і ціскаючы адзін аднаго, нібы баючыся, што дзверы раптам перад носам захлопнуцца — і яны не паспеюць выскачыць, народ густой лавінай паваліў з тралейбуса, а малады кіроўца не мог спачатку ўцяміць: няўжо тут, на пустыры, сёння адчыняюць «Еўраопт» з вялікай зніжкай на тавары? А мо шматлюдную дэманстрацыю закруціла нейкая апазіцыйная партыя: «Гэта ж трэба, нарэшце ўдалося сабраць масу людзей! А то ўсё плачуць: народ наш аморфны ды пасіўны і на мітынгі нікога не загнаць і калом!» Глянуўшы на экран унутранага відэаназірання, убачыў усярэдзіне толькі аднаго паніклага пасажыра, які неяк ненатуральна скруціўся і, звесіўшы рукі, улёгся на сядзенні: «Яшчэ рана, няўжо так недзе надзюбаўся?»

На апошнім прыпынку ён спыніўся і заскочыў у тралейбус, схіліўся над небаракам і тузануў таго за плячо: «Канечная, прачніцеся, пакіньце салон!» Але ж пасажыр не рэагаваў, і толькі тады шафёр зразумеў, што адбылося.

«Не мне ж з ім цягацца! — ён адчуў, як халадок прабег па целе, і нейкі мандраж з'явіўся ўнутры. — Няхай займаецца дыспетчар, яна дзеўка маладая, атрымоўвае прэмію не меншую за маю, і ёй прасцей размаўляць з праваахоўнікамі...»

Тралейбус чмыхнуў і ціха павярнуў на дыспетчарскую пляцоўку...

# «Закапайце мяне на градках з агуркамі»



Кастусь КАЛЮЧЫ

— Можа, давайце перакусім? — праз прыадчыненыя дзверы мама дае зразумець, што прыспеў час абеду.

Сашка злазіць з даху веранды, і мы ўчацвярых сядаем за стол. Мама дастае з печы чыгунок з бульбай і мясам. Водар прымушае як мага хутчэй узяцца за відэлец. Першыя хвіліны ядзім моўчкі. Потым брат пытаецца: з якога года наша хата?

— Па паперах — сорак пятага, — адказваю я.

— Тое, што яна збудаваная пасля вайны — гэта дакладна, а як там яны ў дакументах напісалі... — мама з недаверам ставіцца да людзей з дзяржаўна-бюракратычнага апарату і, павярнуўшыся да Сашкі, прапаноўвае салёны агурок. — Будзеш?

— Калі дасі — буду, калі не дасі — не буду.

Кацярына, мая сястра, усміхаецца і таксама цягне руку да слоіка. Сашкавы жарты заўсёды паўтараюцца. Але ўсё роўна цікава паслухаць, з якой інтанацыяй ён іх вымаўляе і як рэагуе на прапанову цёткі (маёй маці) з'есці яшчэ што-небудзь пасля таго, як знікла з талеркі другая дабаўка. Ён — галоўная «моц» у нашай справе, таму падтрымліваць гэтую моц мама лічыць надзвычай адказнай справай.

Пасля гарбаты выходзім з братам на двор. Абодва глядзім на «фронт працы». Замест старой веранды ўжо акрэслілася новая, якую будуем, лічы, з нуля. Падмурак, праўда, пакінулі стары, хаця яго прыйшлося тамсям падмацаваць. Сцены, абшытыя навюткай вагонкай, яшчэ пахнуць хвояй. Дах таксама новы. Толькі яшчэ не ўсталёўлены вокны.

— Ну што, заліваем сёння ганак? — відаць, што брату (ён працуе на будоўлях) карціць зрабіць новыя прыступкі. Я не паспяваю выказаць згоду, як Кацярына выходзіць з хаты і аб'яўляе, што вокны таксама — яна так вырашыла — будуць новыя, а не старыя, якія мы хацелі ўсталяваць. Яна нярэдка бянтэжыла мяне раптоўнымі рашэннямі і дзеяннямі, на абдумванне якіх я змарнаваў бы нямала часу.

Каб крыху адпачыць пасля абеду, іду праз дарогу на другі ўчастак. Там адкрываецца цудоўны від на наваколле. Бачныя



суседнія вёскі ўздоўж возера, купка лесу, поле, дзе калісьці пасвілі кароў. Лісця на дрэвах ужо няма, неба амаль увесь час шэрае, але гэта не замінае адчуць асалоду ад дзіўнага спалучэння восеньскай тугі і замілавання навакollем, якое мае сваю адвечную прыгажосць, нягледзячы на пахмурнае надвор'е.

Нас чамусьці цягне ў гэты закінуты куток. У вёсцы амаль не засталося карэнных жыхароў, ды і ўлетку, калі прыязджаюць дачнікі, палова двароў пустуе. Я магу зразумець маму, якая тут нарадзілася і дзе жылі і памерлі яе бацькі і сваякі. Але да канца не магу ўцяміць — што можа цягнуць сюды маё пакаленне.

Думаю, не толькі рыбалка прываблівае сюды Сашку. Нядаўна я даведаўся, што старую веранду рабіў яго бацька, таму, падазраю, новая веранда будзе для яго своеасаблівай данінай памяці.

Не ведаю, што сюды вабіць сястру. Гэта спроба схавацца ад гарадской мітусні?

А можа, гэта наш нацыянальны код ці, прынамсі, яго частка? Бо кажуць, што беларусы — сялянская нацыя. Не ў сэнсе абразы — так ёсць насамрэч. Калі эліты вагаліся ў выбары, якой нацыянальнасці ім быць, а большасць насельнікаў гарадоў былі ўвогуле чужынцы, беларускасць, загнаная пад стрэхі, потым выбухнула і трансфармавалася ў паўнавартасную нацыю.

Я гляджу на ўзараную зямлю і згадваю фота, на якім мой бацька стаіць у дыхтоўным гарнітуры (настаўнік з вышэйшай адукацыяй) паміж градак, як гаспадар, і ўсміхаецца. Гэтыя градкі былі яго хобі, а яшчэ, заўважу, давалі неблагі дадатковы прыбытак. Аднойчы бацька пажартаваў: калі памру, закапайце мяне там — на градках з агуркамі.

— Братка, ці ты там заснуў? Можа, дапаможаш? — крычыць здалёк Сашка, перарываючы мае думкі.

Пакуль іду назад да хаты, у галаве мільгае: я не хачу і наўрад ці буду тут стала жыць, але дакладна ведаю, дзе я хачу быць, калі мяне не стане.

Не, безумоўна, не на градках з агуркамі...

# Прастора, якую знойдзеш



Пётра МУРЗЁНАК

## Ачышчэнне агнём

***«Бо нішто не ўзвысіць вас лепей***
***Як любоў да памерлай альбо памерлага***
***Душа робіцца гэткаю чыстаю***
***Што нават цераз лядовыя пліты памяці***
***Можна злучыцца са сваімі ўспамінамі***
***Тады чалавек праз усё жыццё***
***Такую моц адчувае***
***Што яму непатрэбны болей ніхто».***

***(Guillaume Apollinaire, «La maison des morts», 1913.***
***Пераклад з французскай Лявона Баршчэўскага)***

Познім вечарам у суседнім доме
здарыўся пажар,
а я сядзеў за кампутарам,
чытаючы Апалінэра,
і нічога пра гэта не ведаў;
быццам бы нешта адзін раз выбухнула,
здаецца, на вуліцы завыла сірэна,
але я ў гэты час
шыбаваў побач з узрушаным Гіёмам
вуліцамі Мюнхена
ў радасным, з'яднаным натоўпе
жывых і мёртвых.

Так, гэта ён,
абураны парадднасцю мяшчан,
што прыйшлі на хаўтуры,
вывеў на шпацыр мёртвых,
мужчын, жанчын, дзяцей,
усяго сорак дзевяць асоб,
каб з'яднаць іх з жывымі;
*мёртвыя моцна цешыліся,*
*жартавалі з уласных ценяў...*

Як жа трэба было не ўзлюбіць жывых,
Каб палюбіць мёртвых і шпацыраваць з імі?..

Я не паспеў дачытаць гэты твор (апошнія радкі,
якія вы бачыце ў якасці эпіграфа),
як мне прынеслі трывожную навіну пра пажар;
калі б мяне не паклікалі,
то, магчыма, толькі на раніцу
заўважыў бы абгарэлыя астанкі гаража
каля выратаванага пажарнікамі дома,
і цяпер працягваў бы
сваё падарожжа з Гіёмам,
каб даведацца, чым яно скончыцца.

Я выскачыў на вуліцу,
напоўненую
непамерным горам і трывогай,
змешанымі з дымам,
з пахам гарэлай гумы
і вясенняга дарожнага пылу,
узнятага лёгкім першым дождджыкам
і мноствам машын,
заняўшых усю прастору вуліцы;
шумела тэхніка, бліскалі трывожныя
рознакаляровыя лямпачкі
амбуланцый,
пажарных і паліцэйскіх машын, —
усё разам выглядала
фантасмагарычна,
як у галівудскім фільме
з чарговай катастрофай.

Якраз у гэты момант, калі
з прыадчыненых дзвярэй суседскага гаража
высока шуганула полымя,
мільганула небяспечная думка:
сёння раніцай, з таго боку, дзе гарыць,
дзьмуў моцны вецер;
а што, калі ён прынясе агонь да маёй хаты?
Аўтаматычна адчыніў дзверы свайго гаража,
каб пры неабходнасці выкаціць машыну.
Але насамрэч —
што маю каштоўнага, каб ратаваць?!
Хіба дыпломы, сямейныя архівы?!
Што станецца, калі дом згарыць?
А што каштоўнага ў ім застанецца,
калі не стане мяне?

*Па вуліцах Мюнхена ідуць 49 радасных людзей,*
*да якіх далучаюцца старыя, знаёмыя і сваякі.*
*Яны ідуць разам і*
*ўжо нельга адрозніць жывых ад мёртвых;*
*маладзёны прызнаваліся ў каханні,*
*дзеці гралі на жалейках,*
*было многа выпіта,*
*у полі падчас забавы*
*пары, абняўшыся, таньчылі,*
*пасля ўсе пайшлі на возера,*
*каталіся на лодках, і*
*памерлыя веславалі з такім жа настроем,*
*як і жывыя ...*

Іх лучыла роўнасць і памяць.

Памяць аб продках са мной.

Значыць, адну каштоўнасць я ўжо выратаваў.
Памятаць і любіць можна
толькі знаёмых і блізкіх памерлых.
Але як доўга трэба любіць жывых,
каб пасля помніць іх,
калі яны ўжо будуць на іншым свеце?
Ці можна памятаць і не любіць?

Супакойваюся. Азіраюся.
Навокал групкамі стаяць людзі;
Бачу знаёмыя, жывыя твары суседзяў,
але яшчэ больш заўважаю навокал
бляклыя і незнаёмыя твары.
У водблесках пажару
і мігалак службовых машын
і адны, і другія выглядаюць
амаль аднолькава,
бы не з гэтага свету,
як застылыя манекены,
выстаўленыя ў вітрыне.
І адны, і другія дзівяцца
на відовішча і гора,
але толькі першыя,
у адрозненне ад другіх,
хвалююцца яшчэ і за сябе.

Павольна пераходжу
на другі бок вуліцы,
хтосьці з суседзяў мяне паклікае.
Як у нейкім сне, адзываюся
звычайнымі ў такой сітуацыі фразамі;
гэта суседзі праз вуліцу,
якія пасяліліся тут два гады таму,
якіх я бачу і з кім вітаюся
амаль кожны дзень.
Сёння яны памятаюць мяне таксама.

Прайшоў крыху далей
і стаў насупраць палаючага будынка.
З аднаго боку ад мяне
стаяў хлапчук з веласіпедам,
а з другога мужчына,
якога я, як быццам бы, недзе бачыў.
Мужчына аказаўся
суседам па дыяганалі,
яго завуць Майк.
Пастараюся запомніць хаця б яго імя,
звычайна мне гэта ўдаецца
як мінімум з другога разу.

А вось хлапчук раптам запытаўся,
ці не рускі я?
Я беларус, увогуле рускую мову добра ведаю,
але адказаў машынальна
па-ангельску;
мой адказ быў сэнсоўны,
а якая цяпер розніца, хто я тут на пажары.
Магчыма, я пакрыўдзіў гэтага хлапчука,
бо ён заўважыў, што бачыў мяне раней,
калі аднойчы
прыходзіў у наш дом з маім унукам;
гэты хлапчук падрос і змяніўся за пару гадоў,
я яго не пазнаў і фактычна не помню,
а ён мяне памятаў.

Было відавочна,
што пажарныя спраўляюцца з сітуацыяй,
агонь быў суцішаны імі,
дапамога ім была не патрэбна,
і каб не мокнуць пад даждждом,
рушыў дадому дачытваць Апалінэра;
жывыя твары маіх суседзяў,
якія былі мне знаёмыя і якія помню,
і незнаёмыя зусім твары
пачалі знікаць у цемнаце,
туды, адкуль былі выцягнуты
цікавасцю, відовішчам
ці спачуваннем.

Наўрад ці давядзецца зноў
сустрэцца з незнаёмымі гледачамі
на гэтым ці на другім свеце,
а калі й будзем побач,
то ніколі не пазнаем адзін аднаго.
А каб мацней любіць
ужо крыху знаёмых мне людзей —
няўжо трэба палюбіць мёртвых?
Як жа трэба любіць мёртвых,
как палюбіць жывых!

*Лодкі присталі да берага,*
*Апалінэр з грамадой вярталіся ў горад,*
*Але вясёлыя забавы працягваліся:*
*Дзеці гралі на свістульках з дзікага бэзу,*
*Вайскоўцы спявалі тырольскія песні,*
*Закаханыя цалаваліся...*
*Але ў горадзе грамада хутка паменшыла,*
*і Гіём застаўся адзін з памерлымі,*
*якія ішлі — хто на могілкі,*
*а хто ў пахавальны дом,*
*дзе Гіём упершыню іх пабачыў.*

Я быў на вуліцы хвілін дваццаць
побач са знаёмымі
і зусім незнаёмымі мне людзьмі,
якія выглядалі на адзін твар,
у той час, калі там палыхаў агонь,
і там яшчэ мацней высвятлілася
маё жаданне:
каб мяне любілі і помнілі
як мага больш людзей
пры жыцці,
*а не ўспаміналі,*
*чытаючы некралог.*

# Казка казкаю застаецца



Вадзім КОРАНЬ

* * *

*На пачатку было Слова.*
*Усе гэта ведаюць. Нічога новага.*
*Але ж якое Слова на пачатку было,*
*калі сонца ў небе ўпершыню ўзышло?*
*Цяпер мы ведаем шмат слоў:*
*можам па-англійску,*
*па-нямецку,*
*а нехта і на эльфійскай мове.*
*Хтосьці нават прыдумаў бальбуту,*
*якую я не ведаю, але гучыць крута.*
*Ды няважна гэта, другасна, неістотна,*
*бо нават з мовай кожны з нас самотны,*
*калі не ведае Слова,*
*што было на пачатку,*
*якое нехта Невядомы напісаў асадкай*
*на сэрцы кожнага, хто прыходзіць*
*у гэты свет,*
*толькі камусьці яно вядомае, а для кагосьці — сакрэт.*
*Яно нябачна выбіта на дзвярах кожнага храма:*
*«МАМА».*
*Яно на ўсмешлівых вуснах кожнага дзіцяці*
*і стогадовага старога ў бацькоўскай хаце,*
*які самотна памірае*
*і чакае,*
*што калі адчыняць райскую браму,*
*ён убачыць і абдыме маму...*

*На пачатку было Слова...*
*І Слова першае самае —*
*«МАМА»...*

* * *

*Казка заўсёды толькі казкаю застаецца*
*і што там усё добра нам толькі здаецца.*
*Чырвоны Каптурок ужо не тая, што раней:*
*пасталела і перабралася ў горад — там зручней,*
*больш сродкаў і магчымасцяў зрабіць кар'еру,*
*хоць спачатку ўладкавалася звычайным кур'ерам.*
*Стамлялася на працы. Сустракалася з дрывасекам,*
*які спрабаваў зацягнуць яе ў секту,*
*і яшчэ не вядома, што б з ёю сталася,*
*калі б збегчы адтуль не атрымалася.*
*Пасля сустракалася з добрым хлопцам,*
*але праз паўгода ён пачаў калоцца,*
*а потым узяў і выйшаў з кватэры,*
*толькі перабытаў акно і дзверы.*
*Потым сама яна нешта прымала,*
*бо было балюча — яна ж кахала...*
*Маці знайшла старога багатага прынца*
*і павандравала па еўрапейскіх сталіцах.*
*Яна сабралася хутка,*
*ажно забыўшыся развітацца,*
*сказала толькі: «Трэба й сабою заняцца!»*
*Бабулю падманулі:*
*яна ўсё, што было, аддала пад заклад,*
*бо ёй паабяцалі новы дом і вялікі сад.*
*Аддала нават сваю дыядэму срэбраную —*
*узнагароду на даўнім конкурсе прыгажосці.*
*Жыла ў доме састарэлых, нікому непатрэбная,*
*і ўсё чакала, што да яе прыедуць госці.*
*Не прыехаў ніхто. І памерла, пакінутая ўсімі:*
*унучцы пляваць, а дачка з кавалерам — у Рыме.*
*Што казаць, іх нават не было на пахаванні,*
*якое прайшло без слёз і ў сумным маўчанні.*

*Але ж усё магло быць і зусім інакш...*
*Ну, што ж, гэта на дзіва простая задача.*
*Возьмем кніжку, адгартаем назад,*
*бы плёнку ў кіно:*
*дзяўчынка праз змрочны лес бяжыць з усіх ног*
*да любімай бабулі, нягледзячы на страх,*
*і лёс гэтай дзяўчынкі — ва ўласных яе руках...*

* * *

*Штодзень дадаю ў верш слова.*
*Штораз верш становіцца большым на слова.*
*Аднойчы ён набудзе форму,*
*знерухомее*
*і завершыцца.*
*Але я,*
*паставіўшы кропку ў канцы апошняга радка,*
*ані прачытаць*
*яго ад пачатку*
*не змагу,*
*ані паправіць.*
*Так і пішу —*
*чыставік.*

# «Хіба паэзія гэта толькі словы?»

**Выйшаў з друку чарговы 94-ы нумар часопіса «Дзеяслоў». Вельмі шырокі спектр публікацый — ад жанрава-мастацкіх да геаграфічных. Думаю, нават самы пераборлівы літаратурны гурман знойдзе тут спажыву для сваёй элітарнай пажаднасці.**

Ды можна сказаць, тут яму далёка і адыходзіць не спатрэбіцца, бо публікацыі пачынаюцца... з вершаў **Сяргея Дубаўца.** Адчуваецца, што вершаваныя тэксты для вядомага крытыка, публіцыста і празаіка — гэта як бы новае мастацкае (паэтычнае) слова пра ўласны духоўны свет. Чыталася з цікавасцю і свежа ўспрымалася. Сам паэтычны цыкл «Мяне ніколі не любілі геніі...» (вершы з Вісбю) раздроблены на ўмоўныя раздзелы, але падаецца цэльным і ўнутрана завершаным.

*У Вісбю жыве дзяцінства. Узгоркі, вуліцы,*
*домікі, ліхтары пакінутыя — як тады. Не*
*знесеныя ўзгоркі, вуліцы, домікі — «жыдоўскія*
*клапоўнікі», ліхтары — як у Мазыры, як*
*у Менску. У Мінску няма дзяцінства.*

Аповесць **Франца Сіўко** «Раз — шкілет, і два — шкілет» — гэта жывая, і для многіх старэйшых яшчэ помная карціна вясковага жыцця і бытавання ў хрушчоўскія 60-я ды яркія запамінальныя вобразы і характары саміх вяскоўцаў. Апісанне дзей, сюжэтна закручаны (а часам і занадта перакручаны) іх ход і злом, у складку з сакавітай тагачаснай мовай міёршчыны (імёны: *Карольця, Зыгман, Тадзік...; слоўцы: лехі, непярэлікі, спадкі, флянцы, вызвалка, слясак, кятурак...*) ствараюць уражанне яшчэ цэльнага нацыянальнага жыцця беларускага, няхай і савецкага, краю. Шчыра кажучы, уласна мяне не так забавіла і трымала пры тэксце яго псіхалагічная фабула ды ідэйны філасофскі змысл, як вось гэтае натуральнае адчуванне сваёй істоты ў тым захаваным у памяці і па-мастацку перастворaным айчынным свеце. Уся сутнасць аповеду пакладзена ў абвостраных стасунках блізкіх па роду людзей (ад дзядоў да ўнукаў) у прыкладна такім парадку: віна, грэх, прага споведзі і раскаяння... А па-над усім — любоў...

*«Ён жа, што праўда, жончыну смерць перажываў куды цяжэй, чым нават калісьці смерць бацькоў, не таму, што, можа, спалохаўся цяжару адказнасці за сыноў. Не, іншае, куды больш таемнае і глыбокае, больш асабістае да таго прычынілася. Сышоў чалавек, які быў адзіным, хто гэтак шмат пра яго, Тадзю, ведаў. І ведаў, і разам з тым заставаўся запарукаю спраўджанай надзеі на дараванне — калі не Божае, дык хаця б людское. А як Карольці не стала, і яна, гэтая апошняя надзея, сіратлівым прывідам заблукала ў закутках свядомасці. Жыць з такім успамінам — канечне ж, няпроста. Бо хоць і не смыліць ён штодня, і не даймае штохвіліны, і не пераследуе кожнае начы, але ж і таемных спратаў мінулага дарэшты, такая-разгэткая сволач, не пакідае. Гадамі можа не трывожыць, а варта неўспадзеў нейкай дробязі вылузнуцца ў памяці — і тае ж хвіліны нагадае пра сябе. І чым далей у жыццёвы гушчар, тым больш сувора, больш жорстка, нягоднік, нагадвае. І плішчыцца тады жывасілам у душу, пячэ прадаўнім тым, страхавітым успамінам пра злашчаснае...»*

Вершы **Аксаны Данільчык** даволі частыя госці на старонках часопіса. Чытаючы іх, адухаўляешся і чысцішся ад напластаванняў надзённай быційнасці. Большасць яе твораў звернутыя ўнутр сябе. Знешне яна вартуе сваю прастору, але не дае рады абмежаваць яе дарэшты:

*Нават калі я блізка*
*нават калі я непазбежна блізка*
*я ўсё роўна далёка*

Таму зразумелыя такія пасылы да чытача і тлумачэнні ўласных паэтычных парываў:

*Хіба паэзія гэта толькі словы,*
*толькі словы ці знітаванасць?*
*Я проста ішла, бо можна ісці, не*
*спрабуючы*
*дасягнуць мэты, а спасцігаючы*
*свет па-за межамі*
*ўласнай абмежаванасці.*

Адметны празаік Валеры Гапееў друкуе ў часопісе фрагменты новага рамана «Пазл». Цікава, што калі папярэдні яго твор «Ноч Цмока» быў спадзяваннем на нараджэнне чалавека, нацыянальнага прарока, пры якім Беларусь нарэшце «зойме свой пачэсны пасад між народамі», то ў чарговым рамане ўсё скіравана на пагібель і пакаранне чалавека за спробу яго з'яўлення ў гэты свет для годнага жыцця...

«Пазл» збіраецца Гапеевым з усяго грамадска-сацыяльнага і ўласна чалавечага негатыву сучаснай беларускай рэчаіснасці. З такіх недасканалых, хваравітых, папсаваных, скрыўленых ладам жыцця неадпаведных частак людскога існавання наўрад ці можна скласці адзіны вывераны пазл жыцця... Здавалася б. Аднак аўтар спрабуе... І што ў рэшце рэшт можна скласці з асобных недаладных чалавечых жыццяў? Проста людскóе жыццё ці, можа, усё ж — людскае?..

Трэба зазначыць, што ў рамане вельмі відочна паказана карумпаванасць (на сваім адпаведным узроўні, канечне) усёй правінцыйнай раённай вертыкалі...

*«Слухай, от ты скажы, Лёш... Бляха, ім жа там, у ваенкамаце, от усяго адзін раз алоўкам чыркнуць — а некаму як жыццё перакрэсліць. І галоўнае ж во: якая розніца ваенкаму ці гэтаму старшыні, хто пойдзе — я ці нехта іншы? Хапае ж сёння запасу. Няма розніцы! А ты тут цэлую схему прыдумвай, каб жыць па-чалавечы.»*

Арыгінальна ўведзены ў структуру тэксту і не апошні адмоўны герой рамана — клешч, які па волі аўтара таксама выконвае сваю карную функцыю.

*«Клешч чакаў. Для яго не існавала часу — і яму было лёгка пераносіць гэтае чаканне свежай крыві, якое расцягнулася ўжо на многія гады. Клешч нічога не ведаў аб законах жыцця свайго арганізма, якія няўмольна адлічылі гэтую вясну, як апошнюю ў яго жыцці — чарговай зімы ён не здолеў бы перажыць, не насмактаўшыся крыві. <...> Клешч не спяшаўся, ён выбіраў момант, кіруючыся пачуццём маленькага драпежніка ў засадзе. На нейкую секунду гарачы шар рэзка апусціўся ўніз («эх, добра мы сюды зайшлі, і паляжаць можна!»). Клешч скочыў. Валасы былі густыя. І ён стаў прабірацца туды, дзе зззяла цяпло, дзе пульсавала блізка пад скурай гарачая вена.»*

Што праўда, як на маё чытацкае вока, у тэксце зашмат візуальна заўважных сюжэтных схем, якія мусова зводзяцца ў адно цэлае (ці не адсюль спадзевы на канчатковае складанне пазла). Але з цікавасцю пачытаўшы таленавіта выпісаныя фрагменты рамана, усё ж будзем чакаць поўнага тэксту, які, відаць па ўсім, складзецца ў кніжны пазл.

У аб'ёмнай публікацыі вершаў юбіляра **Валеры Дубоўскага** даволі часта прабіваюцца высокія ўзоры паэтычнага мыслярства (і мастацтва). Яго нацыянальныя вобразы, угрунтаваныя на тутэйшым жыцці, змушаюць да роздуму над сутнасцю айчыннага быцця і схіляюць да метафарычных асацыяцый, як прамінулага, так і сучаснага чалавечага суіснавання ў свеце. Віншуем, як кажуць, і зычым здароўя ды творчага плёну. Але ўслухайцеся ў яго голас:

*Марудна, марудна*
*Крадзецца па космасе час.*
*Імкліва, імкліва*
*Імгненні збягаюць ад нас.*
*Няспыннай, няспыннай*
*Мая падаецца хада.*
*Нясплыўнай, нясплыўнай*
*Бывае толькі вада.*

На першы погляд, лёгка, часам неардынарна, зрэдку назіральна і павучальна, а найчасцей глыбока і захапляльна чытаюцца літаратурныя запісы, названыя аўтарам «рызынкавай муроўкай», — і гэты аўтар **Аксана Спрынчан.** Ну вось хоць бы такая нататка: *«Калега апавядае, як напрыканцы 90-х гадоў быў на вечарыне, прысвечанай Яўгеніі Янішчыц. На яе завітаў падпіты Анатоль Сыс, і калі яму далі слова, чытаў свае вершы непаўторна, крычаў, плакаў, кленчыў, падскокваў, лягаў на падлогу. Школьнікі, прысутныя на вечарыне, былі ў захапленні.*

*— А хто яшчэ выступаў? — не магла не пацікавіцца я.*

*— Ты думаеш, я памятаю? Гэта ж было ў мінулым стагоддзі».*

**Валерыя Кустава** выступае з паэтычнай нізкай «Усміхацца праз боль прыгожа...» Арыгінальныя разняволеныя вершы з эратычнай падсветкай трымаюць чытача, асабліва мужчынскага полу, у стане своеасаблівага ўзрушэння... Што праўда, сям-там высокая эмацыйна-экспрэсіўная танальнасць міжволі выштурхоўвае вонкі неарганічную зместу метафара-вулканічную пароду... Не зважаючы на тое, публікацыя запамінальная.

*Гэтага болю ёй хопіць надоўга —*
*яго можна, як спецыі з Персіі,*
*дадаваць у баршчы, успаміны і*
*вершы,*
*на вастрыі ножыка,*
*самую дробку.*
*...Так феерычна, натхнёна-ўздымальна*
*ён расчытваў усмешак яе манускрыпты,*
*рассоўваў каленкі сваім*
*дыханнем,*
*нібыта фіранкі ў новыя рытмы.*

Драматычны аповед **Таццяны Будовіч** «Аляксандра» па сваім змесце драматычны, хоць і напісаны пунктырнымі штрыхамі памяці родных ёй людзей. Бо тэкст гэты і ёсць, як зазначае аўтарка, «непрыдуманай гісторыяй». Напісанае выклікае спагаду і захапленне высокімі пачуццямі нашых папярэднікаў.

Па-свойму прыцягвае ўвагу цыкл лірычных вершаў *Ірыны Мацкевіч*. Адчуваецца, што вызначэнне такога пачуцця, як каханне, усё ж лепш паддаецца паэтычнай, чым матэматычнай логіцы.

*Я па сабе сапраўдны жнец*
*хвілін узнёслых. Снопам цяжкім*
*яны збяруцца пад канец,*
*каб апынуцца хлебнай бражкай.*
*І водар тых хвілін хмяльных,*
*калі піла іх з асалодай,*
*непараўнальны да зямных*
*маркотных дзён. Ён пахне мёдам...*

Змаганне з процьмай слоў за адзіна-сутнаснае слова — як пошук згубленага і магчымага ўнутры свайго духоўнага свету... Неяк так я вызначыў бы і ахарактарызаваў нізку вершаў дэбютанткі «Дзеяслова» **Галіны Сіўчук.** Непераадольная хэнць усё асягнуць звыш-зліш-і-над (скарыць творчую вяршыню)... Але нават у паэзіі ўяўленае надоўга не затрымаеш. І ўсё ж вымога адмысловых змыслаў і вобразаў таленавітай паэткі заварожвае і змушае верыць у яе высокамастацкі будучы плён.

*мне не высніць спакой без цябе*
*мне начэй не выспаць*
*мне чуваць перапевы жыцця ў*
*маладым трысці*
*гэта я спакушаю найлепшую ў*
*свеце выспу*
*непаўторным сусветам са слоў*
*ува мне прарасці*

Часопіс друкуе вершы ўдзельнікаў першага пленэру Таццяны Сапач, што адбыўся мінулым летам у вёсцы Маркава на Маладзечаншчыне. Сярод аўтараў: **Н. Кудасава, П. Астравух, Н. Лістота, Т. Нядбай, Н. Шакунова, А. Ярош-Камінская.**

Прымае віншаванні з юбілеем вядомы пісьменнік **Анатоль Бутэвіч.** З гэтай нагоды часопіс публікуе аб'ёмную навелу *Элізы Ажэшкі* «Афіцэр» у ягоным перакладзе. Гэта літаратурна-мастацкі погляд польскай пісьменніцы і нашай зямлячкі на падзеі паўстання 1863 года, што адбываліся на Палессі, пра ўзаемаадносіны мясцовых жыхароў гэтага краю з расійскімі жаўнерамі.

З перакладаў яшчэ — медытацыйна-мысленчыя вершы нарвежскай паэткі **Лінды Клакен** у перастварэннях Вольгі Гапеевай.

*белае покрыва па-над паркам*
*птушкі шлюць цьмяныя паведамленні*
*адна адной праз*
*хмызняк*
*я не разумею тое*
*што разумее прырода*
*ўжо мільёны гадоў*

Друкуецца ў перакладах Віктара Гардзея і з адмысловым уступным словам Анатоля Трафімчыка паэма польскамоўнага паэта **Артура Бартэльса,** з дня нараджэння якога сёлета спаўняецца 200 гадоў, што выклікала ў мяне асаблівую ўвагу. Справа ў тым, што і Гардзей, і Трафімчык, і я мелі шчасце нарадзіцца ў блізкіх ад Дзяніскавіч мясцінах. На сваю беларускую крэўнасць аўтар згадвае ў фінале паэмы:

*З сасны, што ўзрасла на Ізбіску,*
*Скуль вызнаў сірочыя дні,*
*Шкада, не зрабілі калыску,*
*А так і згарыць у агні.*
*Ужо з тае хвоі нічога*
*Не ўзяць для магілкі маёй,*
*Развітваюся ў імя Бога*
***З палескаю крэўнай сям'ёй.***

Займальна і дасведчана разгортвае жыццёвы і літаратурны лёс двух «апальных» беларускіх паэтаў — Масея Сяднёва і Тодара Лебяды — слонімскі літаратуразнаўца **Сяргей Чыгрын.**

Працягваецца прыцягальная гісторыя жыцця і дзейнасці **Юліі Бібілы** праз публікацыю яе ўспамінаў, падрыхтаваных А. Лісам і Т. Кекелевай.

Выдатны наш паэт з Беласточчыны **Ян Чыквін** у гутарцы з Наталляй Гардзіенка распавядае пра тамашні літаратурны працэс, а таксама пра сябе і сваё бачанне творчай і нацыянальнай дзейнасці (змагання-згасання) беларускамоўных суайчыннікаў у гэтым «забраным краі»...

Цёплы, душэўна-таварыскі ўспамін пра заўчасна адышоўшага з гэтага свету свайго калегу, літаратуразнаўца і крытыка Ігара Жука напісаў **Алесь Бельскі.** Англійскі лорд беларускай літаратуры **Арнольд Макмілін** публікуе артыкул пра паэтку Вальжыну Морт. **Леанід Галубовіч** рэцэнзуе новую кнігу Віктара Карамазава «Пад крыжам». З цікавасцю чытаюцца своеасаблівыя літаратуразнаўчыя дзённікавыя нататкі крытыка **Паўла Абрамовіча.** Яны адназначна асвяжаюць і дадаюць вістаў адпаведнаму часопіснаму раздзелу. Завяршае публікацыі рубрыка **«Дзеяпіс»** з анатацыямі новых кніжак.

Прыемнага вам чытання на летніх вакацыях.

**ЛеГал**

# Дзень нараджэння



Оскар ЎАЙЛД

Надышоў дзень нараджэння інфанты. Ёй акурат споўнілася дванаццаць гадоў, і ў садах палаца ярка свяціла сонца.

Нягледзячы на тое, што яна была сапраўднай прынцэсай і гішпанскай інфантай, у яе, як і ў дзяцей звычайных беднякоў, дзень нараджэння здараўся толькі раз на год, а таму для ўсёй краіны было надзвычай важна, каб гэта быў напраўду цудоўны дзень. Так яно і атрымалася. Высокія цюльпаны з рознакаляровымі пялёсткамі роўна трымаліся на сцяблінах, як стройныя шыхты жаўнераў, і дзёрзка пазіралі з травы на ружы, і казалі: «Мы такія ж непаўторныя, як і вы». Пурпуровыя матылькі з залатым пылком на крыльцах лёталі там і тут, па чарзе наведваючы кожную кветку, маленькія яшчаркі павыпаўзалі з расколінаў у сцяне і грэліся ў асляпляльным святле, а гранатавыя плады трэскаліся ад гарачыні і агалялі свае акрываўленыя чырвоныя сэрцы. Нават бледна-жоўтыя лімоны, якіх багата вісела на падломленых галінах уздоўж цяністых галерэяў, здавалася, пазычылі сабе ў зіхоткага сонечнага прамення больш яркі колер, а магноліі раскрывалі свае шыкоўныя, вытачаныя са сланавай косткі круглыя кветкі і поўнілі паветра цяжкім салодкім водарам.

Сама маленькая прынцэса прагульвалася туды-сюды па тэрасе і разам са світай гуляла ў хованкі сярод каменных вазаў і старых, парослых імхом статуй. У звычайныя дні ёй дазвалялі гуляць толькі з дзецьмі такога ж высокага паходжання, як яна сама, а таму ёй даводзілася быць адной, аднак на дзень нараджэння рабілася выключэнне: згодна з загадам караля яна магла запрасіць усіх сваіх юных сяброў, якіх хацела бачыць і з якімі хацела бавіць час. Колькі вытанчанай велічы было ў гэтых гішпанскіх дзецях, калі яны паволі крочылі на свята, хлопчыкі — у капелюшах, багата ўпрыгожаных пёрамі, і кароткіх плашчах, што трапяталі ад ветру, дзяўчаткі — прытрымліваючы доўгія шлейфы парчовых сукенак і прыкрываючы груваcткімі (чорнымі са срэбным) веерамі вочы ад сонца. Але найпрыгажэйшай сярод іх была інфанта, апранутая з самым вытанчаным густам паводле ўсіх мудрагелістых патрабаванняў тагачаснай моды. Сукенка яе была з шэрага атласу, падол і рукавы з вялізнымі буфамі шчодра вышыты серабром, а тугі гарсэт усеяны нізкамі прыгожых перлінаў. Калі яна ішла, з-пад яе ўбрання вызіралі два дробненькія мяккія пантофлікі з вялікімі ружовымі разеткамі. Яе вялікі веер з газу быў перламутрава-ружовы, а ў яе валасы, што шорстка аблямоўвалі маленькі бледны твар, нібы вянец з пацьмелага золата, уплялі прыгожую белую ружу.

З палацавага акна за імі сумна і меланхалічна назіраў кароль. За спінай караля стаяў яго брат, дон Педра Арагонскі, якога кароль ненавідзеў, а побач сядзеў яго духоўнік, вялікі інквізітар Гранады. Сумнейшы, чым звычайна, быў у гэты дзень кароль, бо, сочачы за інфантай, якая з дзіцячай сур'ёзнасцю раскланьвалася з прыдворнымі ці, схаваўшыся за веерам, смяецца са змрочнай герцагіні Альбукеркскай, сваёй нязменнай спадарожніцы, ён думаў пра юную каралеву, яе маці, якая, здавалася, зусім нядаўна прыбыла з вясёлай французскай зямлі і завяла сярод панурай раскошы гішпанскага двара — памерла роўна праз шэсць месяцаў пасля нараджэння дзіця, не паспеўшы пабачыць, як другі раз зацвітае ў садзе міндаль, і не сарваўшы другі раз пладоў старога вузлаватага фігавага дрэва, што расло ў сярэдзіне парослага цяпер травой двара. Такім вялікім было яго каханне, што ён не дазволіў магіле адабраць у яго жонку. Маўрытанскі лекар забальзамаваў яе і ўратаваў гэтым сабе жыццё, бо, кажуць, святая інквізіцыя ўжо прысудзіла яго да смерці за ерась і падазрэнне ў магічных практыкаваннях, і цяпер цела каралевы ляжала на засланым габеленамі ложы ў палацавай капліцы з чорнага мармуру, апранутае ў тыя самыя строі, у якіх яе ўбралі манахі тым ветраным сакавіцкім днём каля дванаццаці гадоў таму. Раз у месяц кароль, захутаўшыся ў жалобны плашч і ўзяўшы патайны ліхтар, прыходзіў да яе, укленчваў побач і клікаў: «Mi reina! Mi reina!», — у дзікай агоніі пакуты ловячы бледную, упрыгожаную пярсцёнкамі руку, спрабуючы шалёнымі пацалункамі абудзіць халодны нафарбаваны твар і парушаючы часам этыкет, які ў Гішпаніі кіруе кожным крокам чалавека і ўсталёўвае нават межы каралеўскага гора.

Сёння яму здалося, што ён зноў бачыць яе такой, якой убачыў першы раз у замку Фантэнбло, калі яму было ўсяго пятнаццаць, а ёй — яшчэ менш. З гэтай нагоды іх у прысутнасці караля Францыі і ўсяго двара афіцыйна заручыў папскі нунцый, і жаніх вярнуўся ў Эскурыял, забраўшы з сабой пасмачку залацістых валасоў і памяць пра дзіцячыя вусны, што прыцiснуліся да яго рукі, калі ён сядаў у экіпаж. Потым у Бургасе, маленькім гарадку на мяжы паміж дзвюма краінамі, адбылося паспешлівае вяселле, і натоўп гасцей паехаў у Мадрыд, дзе адслужылі традыцыйную месу ў царкве La Atocha і зладзілі больш урачыстае, чым звычайна, аўтадафэ, дзеля якога свецкім уладам перадалі для спальвання каля трохсот ерэтыкоў, у тым ліку нямала ангельцаў.

Ён, безумоўна, шалёна яе кахаў — на бяду, як думалі многія, сваёй краіне, бо акурат ішла вайна з Англіяй за валоданне імперыяй Новага свету. Ён не дазваляў ёй знікаць з поля яго зроку, забыў дзеля яе, ці зрабіў выгляд, што забыў, усе важныя справы дзяржавы, і з той жахлівай слепатой, якой каханне раніць сваіх слугаў, не заўважаў, што вытанчаная цырымоннасць, якая мусіла ёй дагадзіць, толькі абвастрае яе дзіўную немач. Калі яна памерла, на некаторы час ён ледзь не звар'яцеў. Няма сумневу, што ён афіцыйна адмовіўся б ад стальца і сышоў бы ў вялікі трапісцкі манастыр у Гранадзе, у якім намінальна лічыўся настаяцелем, калі б не боязь пакінуць маленькую інфанту на міласць свайго брата, чыя жорсткасць была надзвычайнай нават для Гішпаніі: хадзілі чуткі, што ён прычыніўся да смерці каралевы, падарыўшы ёй з нагоды яе візіту ў арагонскі замак пару атручаных пальчатак. Нават калі ў краіне скончылася трохгадовая жалоба, якая згодна з каралеўскім загадам была абвешчаная ва ўсіх гішпанскіх уладаннях, ён не дазваляў міністрам нават пачынаць размову пра новы шлюб, і калі сам імператар прапанаваў яму руку сваёй пляменніцы, чароўнай эрцгерцагіні Багемскай, ён папрасіў паслоў перадаць уладару, што кароль Гішпаніі ўжо павянчаўся са Скрухай, і хоць сужаніца яго бясплодная, ён аддае ёй перавагу перад Красой. Адказ гэты каштаваў яму багатых нідэрландскіх правінцыяў, якія, падбухтораныя імператарам, неўзабаве выбухнулі паўстаннем пад кіраўніцтвам нейкіх фанатыкаў-кальвіністаў.

Здавалася, сёння, калі ён назіраў за інфантай, што гуляла на тэрасе, да яго вярнулася ўсё яго шлюбнае жыццё з яго жарснымі, палымянымі радасцямі і жахліваю агоніяй нечаканага канца. У дачцэ была ўся мілая дзёрзкасць яе маці, яе манера ўстрэсваць галавой, яе ганарлівы выгін цудоўных вуснаў, яе чароўная ўсмешка — сапраўды, vrai sourire de France, — калі яна час ад часу падымала вочы на акно ці падавала маленькую ручку велічнаму гішпанскаму джэнтльмену для пацалунка. Але рэзкі дзіцячы смех раздражняў яго вуха, яркае і бязлітаснае сонечнае святло кпіла з яго гора, а ледзь улоўны водар дзівосных духмяных рэчываў, падобных да тых, што выкарыстоўваюцца пры бальзамаванні, пранізваў — ці гэта толькі здавалася? — празрыстае ранішняе паветра. Кароль схаваў рукамі твар, і калі інфанта чарговы раз зірнула на акно, гардзіны былі ўжо апушчаныя, а кароль знік.

Інфанта расчаравана скрывілася і паціснула плячыма: дзень яе нараджэння ён, безумоўна, павінен быў правесці з ёй. Навошта яму гэтыя дурныя дзяржаўныя справы? А можа, ён адправіўся ў тую змрочную капліцу, дзе заўсёды гараць свечкі і куды ёй ніколі не дазвалялі ўвайсці? Як жа гэта бязглузда, калі вакол столькі сонечнага святла і ўсе такія шчаслівыя! Можа, ён яшчэ прапусціць і гульнёвы бой быкоў, на які ўжо клічуць трубы, не кажучы пра лялечнае выступленне ды іншыя цудоўныя забавы. Яе дзядзька і вялікі інквізітар нашмат разумнейшыя. Яны выйшлі на тэрасу і вельмі міла яе павіншавалі. Таму яна страсянула чароўнай галоўкай і, узяўшы дона Педра пад руку, марудна спусцілася з прыступак і пайшла да доўгага шатра з пурпуровага ядвабу, які паставілі ў канцы сада, а астатнія дзеці рушылі за ёй у адпаведнасці са знатнасцю сваіх сем'яў: тыя, у каго было больш імёнаў, ішлі першымі.

Насустрач ёй выйшла працэсія высакародных хлопчыкаў у дзівосных касцюмах тарэадораў, і малады граф Цьера-Нуэва, неверагодна прыгожы юнак гадоў чатырнаццаці, з усёй грацыёзнасцю прыроджанага ідальга і гішпанскага гранда зняў перад ёй капялюш і ўрачыста падвёў да маленькага пазалочанага крэсла са сланавае косткі, што стаяла на ўзвышэнні ля арэны. Дзеці сабраліся вакол яе, абмахваючыся цяжкімі веерамі і перашэптваючыся, а дон Педра і вялікі інквізітар, смеючыся, сталі ля ўвахода. Нават герцагіня — яе называлі Camerera-Mayor, — хударлявая жанчына з грубымі рысамі твару і жоўтым гафрыраваным каўняром, не выглядала сёння такой раздражнёнай, як звычайна, і нешта падобнае да халоднай усмешкі слізгала па яе маршчыністым твары і скрывляла тонкія бяскроўныя вусны.

Бой быкоў быў, несумненна, цудоўны і нашмат лепшы, думала інфанта, чым сапраўдная карыда, на якую яе вазілі ў Севілью з нагоды візіту герцага Пармскага да яе бацькі. Адны хлопчыкі гарцавалі на цацачных конях з багатымі гунькамі, размахваючы доўгімі коп'ямі, упрыгожанымі яркімі стракатымі стужкамі, іншыя бегалі перад быком, дражнячы яго пунсовымі плашчамі і лёгка пераскокваючы цераз бар'ер, калі бык кідаўся на іх; што ж да самога быка, то ён выглядаў зусім як жывы, хаця і быў зроблены з лазы і абцягнуты скурай, і часам пачынаў бегаць вакол арэны на дзьвюх нагах, чаго ніколі не зрабіў бы бык сапраўдны. Біўся ён таксама неверагодна, а таму дзеці так захапіліся, што пазалазілі на лавы, замахалі карункавымі насоўкамі і закрычалі: «Брава, toro! Брава, toro!» – з такім пачуццём, нібыта былі дарослымі. Урэшце пасля працяглай бойкі, падчас якой бык працяў рагамі некалькіх цацачных коней і скінуў на зямлю іх вершнікаў, юны граф Цьера-Нуэва паставіў быка на калені і, атрымаўшы ад інфанты дазвол нанесці яму смяротны ўдар, працяў яго шыю драўляным мячом з такой лютасцю, што галава жывёліны адскочыла, і перад вачыма гледачоў з'явіўся насмешлівы твар маладога мсье дэ Ларэна, сына французскага пасла ў Мадрыдзе.

Пад бурныя воплескі арэна была прыбраная, два пажы-маўры ў жоўтых з чорным ліўрэях адцягнулі целы мёртвых цацачных скакуноў, і пасля кароткага перапынку, падчас якога французскі гімнаст танчыў на канаце, італьянскія лялечнікі прадставілі на сцэне спецыяльна пабудаванага маленькага тэатрыка напаўкласічную трагедыю «Сафаніcба». Гралі яны так добра і ўсе іх рухі былі так дасканала вывераныя, што пры канцы п'есы вочы інфанты затуманіліся слязьмі. Некаторыя дзеці ўвогуле расплакаліся, і давялося суцяшаць іх цукеркамі, нават вялікі інквізітар так усхваляваўся, што не вытрымаў і сказаў дону Педра, што яму невыносна глядзець на гэтых простых, зробленых з дрэва і каляровага воску лялек на дроце, якія цярпяць такія нягоды і перажываюць такія няшчасці.

Потым выступаў афрыканскі фокуснік, які прынёс з сабой вялікі плоскі кош, пакрыты чырвонай тканінай, паставіў яго ў сярэдзіне сцэны, выцягнуў з турбана дзіўнаватую трысняговую дудку і пачаў на ёй граць. Праз некалькі імгненняў тканіна пачала рухацца, і калі дудка загучала пранізлівей, дзве зялёныя з залатым змейкі паднялі з-пад яе клінападобныя галовы і марудна загайдаліся з боку ў бок у такт музыцы, як гайдаюцца пад вадой расліны. Дзеці, аднак, напужаліся, убачыўшы іх плямістыя клабукі і хуткія джалы-язычкі, і супакоіліся толькі тады, калі фокуснік проста на іх вачах вырасціў на пяску маленечкае апельсінавае дрэва, усыпанае прыгожымі белымі кветкамі і гронкамі сапраўдных пладоў, калі ж ён узяў у дачкі маркіза дэ Лас-Торэс веер іператварыў яго ў блакітную птушку, якая тут жа пачала лётаць па павільёне і спяваць, іх захапленню і радасці не было межаў. Урачысты менуэт, які выканалі потым два хлопчыкі-танцоўшчыкі з царквы Нуэстра Сеньёра Дэль Пілар, таксама быў чароўны. Інфанта яшчэ ніколі не бачыла гэтай цудоўнай цырымоніі, што ладзіцца кожны год у травеньскі час у гонар Божай Маці перад яе высокім алтаром, бо ніхто з каралеўскай сям'і ніколі не бываў у вялікім саборы ў Сарагосе з тых часоў, калі шалёны святар, падкуплены, як мяркуецца, Елізаветай Ангельскай, паспрабаваў прычасціць атручанай аплаткай прынца Астурыйскага. Яна толькі чула пра «Танец Божай Маці», як яго называлі, і відовішча гэтае, несумненна, было шыкоўнае. Хлопчыкі былі ўбраныя ў старадаўнія прыдворныя строі з белага аксаміту і незвычайныя трохвуголкі, упрыгожаныя па краях серабром і ўвянчаныя вялікімі стравусавымі пёрамі, і калі юнакі рухаліся ў танцы, асвечаныя сонечным святлом, сляпучая белата іх касцюмаў яшчэ больш адцянялася смуглявымі тварамі і доўгімі чорнымі валасамі. Усіх зачаравала велічная годнасць, з якой яны выконвалі складаныя фігуры танцу, і дасканалая вытанчанасць марудных рухаў і паважных паклонаў, і калі хлопчыкі спыніліся і знялі перад інфантай капелюшы, яна адказала на іх паклон з надзвычайнай прыязнасцю, паабяцаўшы сабе адправіць да алтара царквы Божай Маці Дэль Пілар вялікую васковую свечку на знак удзячнасці за прыемнасць.

Потым на арэне з'явілася група прыгожых егіпцян — так у тыя часы называлі цыганоў, — якія, падціснуўшы пад сябе ногі, селі колам і пачалі ціха граць на цытрах, пагойдваючыся ў такт

# інфанты

мелодыі і ледзь чутна, цішэй нават, чым дыхалі, напяваючы сумную і летуценную песеньку. Убачыўшы дона Педра, яны нахмурыліся, а нехта нават і спалохаўся, бо ўсяго два тыдні таму ён павесіў двух з іх племені за чарадзейства на рынкавай плошчы Севільі, але цудоўная інфанта, што адкінулася трошкі назад і пазірала на іх з-пад веера вялікімі блакітнымі вачыма, зусім іх заваражыла, — цыганы былі ўпэўненыя, што такая красуня нікога не зможа пакрыўдзіць. А таму яны працягвалі граць — вельмі пяшчотна, ледзь-ледзь кранаючыся струнаў цытраў доўгімі вострымі пазногцямі і ківаючы галовамі, нібыта зараз праваляцца ў сон. Раптам з такім пранізлівым крыкам, што дзеці скалануліся, а дон Педра схапіўся за агатавы тронак кінжала, яны ўскочылі на ногі і шалёна закружыліся па сцэне, б'ючы ў бубны і распяваючы дзікую любоўную песню на сваёй дзіўнай гартаннай мове. Гэтак жа нечакана праз некаторы час яны зноў кінуліся на зямлю і знерухомелі — глухі звон цытраў быў адзіным гукам, што парушаў цішыню. Паўтарыўшы гэта некалькі разоў, яны на імгненне зніклі і потым вярнуліся, ведучы на ланцугу касматага бурага мядзведзя, а на плячах несучы маленькіх варварыйскіх малпачак. Мядзведзь з надзвычайнай сур'ёзнасцю стаў на галаву, а маршчыністыя малпачкі пачалі з дапамогай двух цыганятаў, відаць, іх гаспадароў, забаўляць гледачоў разнастайнымі трукамі: біцца на маленечкіх мячах, страляць з ружжаў і праводзіць страявыя вучэнні — рыхтык як прыватная варта караля. У выніку цыганы мелі вялікі поспех.



Але найцікавейшай часткай ранішніх забаваў былі, без сумневу, танцы маленькага карліка. Калі ён уваліўся на арэну, кульгаючы на крывых нагах і махаючы з боку ў бок вялікай звыродлівай галавой, дзеці закрычалі ад радасці, а сама інфанта смяялася так, што герцагіня мусіла ёй нагадаць, што хаця ў Гішпаніі дочкі каралёў не раз плакалі ў прысутнасці роўных ім па званні, ніводная прынцэса каралеўскай крыві не весялілася так перад асобамі, ніжэйшымі за яе паводле паходжання. Але карлік і насамрэч быў неверагодны: такой дзівоснай пачваркі не бачылі нават пры гішпанскім двары, добра вядомым вытанчанай цікавасцю да ўсяго жахлівага. Зрэшты, гэта быў першы яго выступ. Два гранды, што за дзень да таго палявалі ў аддаленай частцы вялікага пробкавага лесу, які атачаў горад, знайшлі яго, свабоднага, у нетрах і даставілі ў палац як падарунак для інфанты. Бацька карліка, бедны вугальшчык, быў рады пазбыцца такога звыродлівага і бескарыснага сына. Самым забаўным у карліку было тое, што ён зусім не ўсведамляў, які ён насамрэч недарэчны. Больш за тое, ён выглядаў задаволеным і вясёлым. Калі дзеці смяяліся, ён смяяўся гэтак жа адкрыта і радасна, як яны, а пры канцы кожнага танцу ён пацешна кланяўся ўсім гледачам, усміхаючыся і ківаючы так, нібыта ён быў адным з іх, а не маленькім няшчасным стварэннем, якое прырода, будучы ў добрым гуморы, стварыла людзям на забаву. Што да інфанты, дык яна дарэшты яго зачаравала. Ён не зводзіў з яе вачэй і, здавалася, танчыў для яе адной, і калі ў канцы выступу інфанта ўспомніла, як знатныя прыдворныя дамы кідалі букеты Кафарэлі, знакамітаму італьянскаму дысканту, якога Папа Рымскі праслаў у Рым з уласнай капэлы, спадзеючыся вылечыць караля з дапамогай салодкагалосага спевака ад меланхоліі, яна выцягнула з валасоў прыгожую белую ружу і часткова дзеля яе жарту, часткова дзеля таго, каб падражніць герцагіню, з найсаладзейшай усмешкай кінула яе на арэну. Карлік да гэтага падарунка паставіўся надзвычай урачыста: ён прыціснуў кветку да шурпатых вуснаў, паклаў руку на сэрца і апусціўся перад інфантай на адно калена, пасміхаючыся ад вуха да вуха, і яго маленькія яркія вочкі ззялі ад асалоды.

Гэта канчаткова пазбавіла інфанту ад рэшткаў сур'ёзнасці, і яна яшчэ доўга смяялася пасля таго, як карлік выбег з арэны, а пасля папрасіла дзядзьку, каб танец абавязкова паўтарылі. Аднак герцагіня, спаслаўшыся на занадта гарачае сонца, вырашыла, што як высокасці трэба цяпер жа вяртацца ў палац, дзе для яе ўжо падрыхтавалі шыкоўнае баляванне, у тым ліку сапраўдны імянінны торт з ініцыяламі інфанты, выраблены з пафарбаванага цукру, і міленькім срэбным сцяжком на самай верхавіне. А таму інфанта з усёй годнасцю паднялася, наказаўшы, каб маленькі карлік танчыў перад ёй яшчэ раз пасля сіесты, ад душы падзякавала юнаму графу Цьера-Нуэва за цёплы прыём і адправілася ў свае апартаменты ў суправаджэнні дзяцей, якія ішлі ў тым самым парадку, што і па дарозе сюды.

Калі карлік пачуў, што ён будзе танчыць перад інфантай яшчэ раз, прычым на яе ўласнае жаданне, ён так узрадаваўся, што выбег у сад і пачаў з недарэчным захапленнем і асалодай цалаваць белую ружу, радуючыся самым няўклюдным і нязграбным чынам.

Кветак страшэнна абурыла такое ўварванне ў іх прыгожы дом, убачыўшы ж, як ён скача туды-сюды па сцяжынках, пацешна размахваючы над галавой рукамі, яны больш не маглі стрымліваць сваіх пачуццяў.

— Ён занадта звыродлівы, каб гуляць побач з намі, — ускліквуў цюльпан.

— Хай вып'е макавага соку і засне на тысячу гадоў! — прамовілі вялікія пунсовыя лілеі, запалаўшы ад гневу яшчэ мацней.

— Жах, чысты жах! — пракрычаў кактус. — Ён жа зусім скручаны і каржакаваты, а памер яго галавы ўвогуле не адпавядае даўжыні яго ног! Праз яго ў мяне ўсе калючкі дыбарам, і калі ён толькі да мяне падыдзе, я яго пакалю!

— А ў яго, між іншага, адна з маіх найлепшых кветак, — абвясціў белы ружовы куст. — Сёння ранкам я сам даў яе інфанце ў падарунак на дзень нараджэння, і ён яе скраў! — і тут куст пачаў з усяе моцы крычаць. — Злодзей, злодзей, злодзей!

Нават чырвоныя герані, якія не часта дазваляюць сабе паважнічаць, бо і самі маюць нямала бедных сваякоў, зморшчыліся, убачыўшы карліка, ад агіды, і калі фіялкі сціпла заўважылі, што хоць ён і зусім непрыгожы, віны яго тут няма, герані з пэўнай доляй справядлівасці запярэчылі, што ў гэтым уся і бяда і што няма ніводнай прычыны захапляцца кімсьці, калі ён невылечны. Папраўдзе кажучы, некаторыя з фіялак і самі адчувалі, што карлік амаль выстаўляе сваю брыдкасць напаказ і што ён выказаў бы нашмат больш густу, калі б выглядаў маркотным ці прынамсі задуменным замест таго, каб весела скакаць і вырабляць такія бязглуздыя і дурныя штукі.

Што да старога сонечнага гадзінніка, надзвычай цікавага суб'екта, які аднойчы падказаў час не больш не менш як самому імператару Карлу V, то яго з'яўленне карліка так агаламшыла, што ён ледзь не забыўся адзначыць цэлыя дзве хвіліны доўгім ценявым пальцам і, не стрымаўшыся, паведаміў малочна-беламу паўліну, які акурат прымаў на балюстрадзе сонечныя ванны, што дзеці каралёў заўсёды рабіліся каралямі, а дзеці вугальшчыкаў — вугальшчыкамі, і бязглузда спадзявацца на нешта іншае. Паўлін з гэтым сцверджаннем цалкам пагадзіўся і пракрычаў «Так і ёсць, так і ёсць!» такім гучным і рэзкім голасам, што залатыя рыбкі, якія жылі ў басейне фантана, што пырскаўся прахалоднай вадой, высунулі з вады галовы і запыталі ў вялізнага каменнага Трытона, што б усё гэта магло значыць.

Але птушкам карлік чамусьці падабаўся. Яны часта бачылі яго ў лесе, калі ён, нібы лясны дух, танчыў, ганяючыся за лісцем, што падала з дрэваў, ці скручваўся ў лагчынцы між каранёў старога дуба, дзелячыся з вавёркамі сабранымі арэхамі. На яго агіднасць увагі яны не звярталі. Бо нават салавей, які начамі так салодка спяваў у апельсінавых гаях, што нават месяц часам нахіляўся яго паслухаць, выглядаў не такім ужо прыгажуном, да таго ж карлік ставіўся да птушак з вялікай дабрынёй, ніколі не забываў пра іх у страшэнна марозную зіму, калі на дрэвах не застаецца ягад, зямля робіцца цвёрдай, як камень, а ваўкі падыходзяць да самых гарадскіх брамаў, шукаючы ежы, і заўсёды аддаваў ім крошкі ад акрайца чорнага хлеба і дзяліўся з імі сняданкам, якім бы бедным ён ні быў.

А таму яны лёталі цяпер вакол, злёгку кранаючы яго твар крыламі і шчабечучы паміж сабой, і маленькі карлік так радаваўся, што не змог стрымацца і паказаў ім прыгожую белую ружу, якую дала яму сама інфанта, бо яна яго кахае...

Птушкі не разумелі ніводнага яго слова, але якая розніца, яны проста засяроджана нахілілі галовы набок, а гэта зусім не горш, чым разумець, ды яшчэ і нашмат лягчэй.

Яшчаркі таксама моцна ім захапіліся, і калі ён, набегаўшыся, стаміўся і паваліўся на траву адпачыць, яны пачалі ля яго весела мітусіцца і з усіх сіл спрабавалі яго забавіць.

— Не ўсім жа быць такімі прыгожымі, як яшчаркі, — крычалі яны. — Гэтага было б зашмат! І хаця гэта гучыць даволі бязглузда, насамрэч не такі ўжо ён і брыдкі, калі, безумоўна, заплюшчыць вочы і не глядзець у яго бок.

Яшчаркі па прыродзе сваёй былі сапраўднымі філосафамі, і часта, калі ім не было чаго рабіць ці калі залева перашкаджала ім выйсці на вуліцу, яны гадзінамі сядзелі на адным месцы і думалі.

Кветак, аднак, паводзіны яшчарак надзвычай трывожылі, зрэшты, як і паводзіны птушак:

— Гэта сведчыць выключна пра грубасць тых, хто ўвесь час поўзае і лётае. Добра выхаваныя асобы заўсёды застаюцца на адным і тым жа месцы — так, як робім мы. Яшчэ ніхто не бачыў, каб мы скакалі туды-сюды па сцяжынках ці дзіка насіліся ў траве за стракозамі. Калі нам хочацца змяніць абстаноўку, мы клічам садоўніка, ён перасаджвае нас на іншую клумбу. Вось гэта годныя паводзіны, так і трэба. А гэтыя птушкі і яшчаркі не ўмеюць цаніць спакой, а ў птушак нават няма пастаяннага адрасу. Яны — сапраўдныя бадзягі, як тыя цыганы, і ставіцца да іх трэба адпаведна.

З гэтымі словамі кветкі фанабэрліва задралі насы і праз некаторы час з прыемнасцю адзначылі, што карлік падняўся з травы і цяпер ішоў уздоўж палацавай тэрасы.

— Няма ніякага сумневу, што яго варта было б да канца жыцця замкнуць, — сказалі кветкі. — Паглядзіце на яго гарбатую спіну і крывыя ногі! — і яны захіхікалі.

Але маленькі карлік нічога пра гэта не ведаў. Ён вельмі любіў птушак і яшчарак і думаў, што кветкі — гэта самае чароўнае, што ёсць у свеце, безумоўна, калі не лічыць інфанту, але ж яна падарыла яму прыгожую белую ружу, і яна любіла яго, а гэта зусім іншая справа! Як жа ён хацеў зноў быць з ёй! Яна б пасадзіла яго па правую руку, і ўсміхалася б яму, і ён ніколі б яе не пакінуў, а гуляў бы з ёй і навучыў бы яе безлічы цудоўных рэчаў. Бо хаця ён ніколі раней не быў у палацы, ён ведае столькі дзівосных штук! Ён умее рабіць з чароту маленечкія клеткі для конікаў і перstatusварацьсустаўчаты бамбук у жалейку, якую так ахвотна слухае Пан. Ён ведаў голас кожнай птушкі і мог паклікаць з вершаліны дрэва шпакоў ці з балота — чаплю. Ён адрозніваў сляды ўсіх жывёл і мог высачыць зайца па далікатных адбітках яго лап, а вепрука — па вытаптанай лістоце. Ён ведаў усе танцы вольных людзей: і шалёны восеньскі танец у чырвоных убраннях, і лёгкі танец у блакітных сандалях сярод збожжавых палёў, і зімовы танец між белых сумётаў, і танец кветак у веснавых садах. Ён ведаў, дзе гняздуюцца вяхіры, і аднойчы, калі птушкалоў злавіў у сіло парачку галубоў, сам вырасціў птушанят, пабудаваўшы для іх галубятню ў расколіне падрэзанага вяза. Яны зрабіліся зусім свойскімі, і ён кожным ранкам карміў іх з рук. Яны абавязкова ёй спадабаюцца, як і трусікі, што носяцца ў высокіх папарацях, як і сойкі з цвёрдымі пёрамі і чорнымі дзюбамі, як і вожыкі, што ўмеюць скруціцца ў калючыя шарыкі, як і вялікія мудрыя чарапахі, што марудна поўзаюць па зямлі, трасучы галовамі і абшчыпваючы зялёнае лісце. Так, ёй абавязкова трэба прыйсці да яго ў лес і пагуляць там. Ён уступіць ёй свой маленькі ложак і да самага світання будзе сядзець пад акном, каб упэўніцца, што дзікія рагачы яе не пакрыўдзяць, а кашчавыя ваўкі не падкрадуцца занадта блізка да хаціны. На досвітку ён пагрукае ў аканіцы і абудзіць яе, і яны выйдуць вонкі і будуць увесь дзень танчыць. У лесе ж насамрэч зусім не сумна. Часам на белым муле праедзе біскуп, чытаючы кнігу з малюнкамі. Часам пройдуць паляўнічыя ў зялёных аксамітных шапачках і камзолах з дубленай аленевай скуры, трымаючы на запясцях сокалаў у скураных каўпачках. У пару збору вінаграду праходзяць тут вінаградары з пурпуровымі рукамі і нагамі, у вянках з глянцавітага плюшчу, несучы бурдзюкі, з якіх капае віно, вугляпалы сядзяць уначы вакол вялізных жароўняў, пазіраючы, як апальваюцца ў агні сухія бярвенні, і смажаць на прысаку каштаны, а разбойнікі выходзяць з пячораў і вяселяцца разам з імі. Аднойчы ён нават бачыў прыгожую працэсію, што вілася па доўгай пыльнай дарозе да Таледа. Спераду выступалі манахі, салодка спяваючы і несучы яркія харугвы і крыжы з золата, за імі крочылі салдаты ў срэбных латах, з мушкетамі і пікамі, а сярод іх ішлі трое басаногіх людзей з

запаленымі свечкамі ў руках, у дзіўных жоўтых строях, спрэс размаляваных дзівоснымі фігуркамі. У лесе дакладна ёсць на што паглядзець, і калі яна стоміцца, ён знойдзе для яе мяккую падушку з імху ці возьме яе на рукі, бо яны ж у яго вельмі моцныя, хоць ён і ведае пра свой невысокі рост. Ён зробіць ёй кара́лі з чырвоных ягад пярэступу, нічым не горшых за тыя белыя ягады, што ўпрыгожваюць яе сукенку, і калі каралі ёй надакучаць, яна зможа іх выкінуць, а ёй знойдзе для яе іншыя. Ён прынясе ёй чашачкі ад жалудоў, і мокрыя ад расы анемоны, і малечкіх светлячкоў, каб яны ззялі зоркамі на бледным золаце яе валасоў.

Але дзе яна? Ён задаваў гэтае пытанне белай ружы, але не атрымліваў адказу. Здавалася, што ўвесь палац спіць, і нават на вокнах, не зачыненых аканіцамі, віселі цяжкія гардзіны, абараняючы пакоі ад святла. Ён бадзяўся вакол палаца, шукаючы, як бы зазірнуць у сярэдзіну, і ўрэшце заўважыў маленькія адасобленыя дзверы, што засталіся незамкнёнымі. Ён праслізнуў туды і апынуўся ў шыкоўнай зале, нашмат шыкоўнейшай, чым лес, бо там паўсюль было столькі пазалоты, і нават падлога была выробленая з вялікіх каляровых камянёў, выкладзеных накшталт геаметрычных фігур. Але маленькай інфанты тут не было, а былі адны белыя статуі з сумнымі пустымі вачыма і дзіўнымі ўсмешкамі, пазіраючы на яго зверху ўніз з яшмавых п'едэсталаў.

У канцы залы вісела багата вышытая гардзіна з чорнага аксаміту, усеяная сонцамі і зоркамі: гэта быў любімы ўзор караля, ды і чорны колер падабаўся яму найбольш. Можа, яна хаваецца там? У любым выпадку, трэба праверыць.

Ціхутка падабраўшыся да гардзіны, ён адсунуў яе ўбок. Не, за ёй толькі іншы пакой, прыгажэйшы, на думку карліка, за папярэдні. У ім на сценах віселі багата расшытыя зялёныя габелены з выявамі палявання — працы аднаго фламандскага майстра, які патраціў на іх сем гадоў. Калісьці гэта быў пакой Хуана Шалёнага, як называлі таго звар'яцелага караля, які так горача любіў паляванне, што ў трызненні часта спрабаваў ускочыць на высачэзнага каня, які стаяў дубка, і сцягнуць са сцяны аленя, акружанага магутнымі сабакамі, дзьмучы ў паляўнічы рог і б'ючы кінжалам бледную імклівую лань. Цяпер тут праводзіліся рады, і на стале, што стаяў у сярэдзіне пакоя, ляжалі чырвоныя партфелі міністраў з цісненымі залатымі гішпанскімі цюльпанамі, а таксама гербамі і эмблемамі дому Габсбургаў.

Маленькі карлік здзіўлена глядзеў навокал і трохі баяўся ісці далей. Дзіўныя маўклівыя коннікі, што бясшумна імчалі галопам праз доўгія прасекі, здаваліся яму жудаснымі прывідамі, пра якіх ён чуў ад вугальшчыкаў, — начнымі лаўцамі кампрачыкос, якія кожнага сустрэчнага пераўтвараюць у аленя і потым цкуюць. Але думка пра мілую інфанту вярнула яму мужнасць. Яму хацелася заспець яе адну і



сказаць, што ён таксама яе кахае. Магчыма, яна ў суседнім пакоі.

Ён прабег па мяккіх маўрытанскіх дыванах і адчыніў наступныя дзверы. Не! Там яе таксама не было. Пакой быў пусты.

Гэта была тронная зала, дзе прымалі замежных пасло́ў, калі кароль — апошнім часам гэта здаралася не часта — пагаджаўся даць ім аўдыенцыю, тая самая зала, у якой шмат гадоў таму з'явіліся ангельскія пасланцы, што прыехалі сватаць сваю каралеву, тады адну з каталіцкіх уладарак Еўропы, са старэйшым сынам імператара. Сцены залы былі задрапіраваныя пазалочанай кордаўскай скурай, а з чорна-белай столі звісала цяжкая пазалочаная люстра на трыста свечак. Пад вялікім балдахінам з залатой парчы, на якой дробным жэмчугам былі вышытыя львы і вежы Кастыліі, стаяў сам трон, пакрыты раскошным пакрывалам з чорнага аксаміту, усыпанага срэбнымі цюльпанамі і па-мастацку аздобленага па краях серабром і жэмчугам. На другой прыступцы трона стаяла лавачка інфанты са срэбнай парчовай падушкай, а яшчэ трошкі ніжэй, ужо не пад балдахінам, месцілася крэсла для папскага нунцыя, адзінага, хто меў права сядзець у прысутнасці караля падчас любой публічнай цырымоніі. Кардынальская шапка нунцыя з пераплеценымі пунсовымі кутасікамі ляжала на пурпуровым століку перад крэслам. На сцяне насупраць трона вісеў партрэт Карла V, апранутага ў паляўнічы касцюм, у поўны рост, з вялікім мастыфам побач, а ў сярэдзіне іншай сцяны размяшчаўся партрэт Філіпа II, які прымае знакі падданства ад Нідэрландаў. Паміж вокнамі стаяла шафа з эбенавага дрэва, інкруставаная слановай косткай і ўпрыгожаная разьбой па матывах гальбейнаўскіх «Скокаў смерці», якую, кажуць, сам знакаміты майстар і рабіў.

Але карліка ўся гэтая раскоша не цікавіла. Ён не аддаў бы сваю ружу за ўсе перліны балдахіну, і нават ніводнага яе белага пялёстка за ўвесь трон. Ён хацеў усяго толькі ўбачыць інфанту да таго, як яна спусціцца ў павільён, і папрасіць яе сысці разам з ім, калі ён скончыць танчыць. Тут, у палацы, паветра спёртае і цяжкое, а ў лесе дзьме свежы вецер і сонечнае святло перабірае неспакойнымі залатымі пальцамі дрыготкае лісце. Там, у лесе, ёсць кветкі, можа, не такія шыкоўныя, як у садзе, але з нашмат саладзейшым водарам: ранні вясной — гіяцынты, што хвалістым пурпурам заліваюць прахалодныя лагчыны і пароcлыя травой пагоркі, жоўтыя прымулы, што невялічкімі чародкамі туляцца вакол вузлаватых каранёў дубоў, яркі чыстацел, і блакітны крынічнік, і касачы, бэзавыя і залацістыя. Там шэрыя каташкі на арэшніку, і наперстаўка хіліцца пад цяжарам стракатых, аблепленых пчоламі чашачак. Свечкі каштанаў усыпаныя белымі зорамі, а глог пакрыты прыўкраснымі беднымі поўнямі. Так, яна, безумоўна, пойдзе з ім, калі ён толькі яе знойдзе! Яна пойдзе з ім у чароўны лес, і ён цэлы дзень будзе танчыць дзеля яе асалоды. Ад гэтай думкі ў яго вачах загарэлася ўсмешка, і ён рушыў у наступны пакой.

Гэты пакой быў самым яркім і прыгожым. Сцены былі абцягнутыя ружовай лукскай адамашкай, упрыгожанай птушкамі і вытанчанымі срэбнымі кветкамі, мэбля была з адлiванага серабра, аздобленая фестонамі ў выглядзе раскошных гірляндаў і вясёлымі купідонамі, перад двума вялікімі камінамі стаялі шырокія шырмы, расшытыя папугаямі і паўлінамі, а падлога з бірузовага аніксу, здавалася, знікала дзесьці ўдалечыні. Але карлік быў тут не адзін. На аддаленым баку пакоя ў цені дзвярнога праёма стаяла нейкая фігура і глядзела на яго. Сэрца яго забілася, з вуснаў сарваўся радасны крык, і ён выйшаў на святло. І калі ён гэта зрабіў, фігура таксама зрабіла крок наперад, і цяпер яе можна было разгледзець.

Інфанта? Не, гэта была пачвара, самая бязглуздая пачвара, якую ён толькі бачыў! Звыродліва складзеная, не так, як іншыя людзі, гарбатая пачвара з крывымі нагамі і рукамі, з вялізнай галавой, што матлялася з боку ў бок, і з грывай чорных валасоў. Маленькі карлік нахмурыўся, і пачвара нахмурылася таксама. Ён засмяяўся — і яна засмяялася разам з ім, ён узяўся за бакі — і яна паўтарыла яго рух. Ён насмешліва пакланіўся — і пачвара вярнула яму паклон. Ён зрабіў крок да яе — і яна пайшла насустрач, пераймаючы кожны яго жэст і спыняючыся тады ж, калі спыняўся ён. Ён ускрыкнуў ад здзіўлення і пабег да яе, выцягнуўшы руку, і крануўся рукі пачвары, і яна была халодная, як лёд. Спалохаўшыся, ён павёў рукой убок, і пачвара тут жа паўтарыла за ім. Ён паспрабаваў адціснуць яе, але наткнуўся на нешта цвёрдае і гладкае. Твар пачвары быў цяпер зусім побач, і на ім чытаўся жах. Ён паправіў валасы, што падалі на вочы. Пачвара таксама. Ён ударыў яе, і яна адказала ўдарам на ўдар. Ён скурчыў гідлівую грымасу — і яна таксама пачала крыўляцца. Ён падаўся назад — яна таксама адступіла.

Што ж гэта такое? Ён на хвілінку задумаўся і агледзеў рэшту пакоя. Дзіўна: усё, што было тут, нібыта падвойвалася за гэтай нябачнай сцяной чыстай вады. Так-так, тут карціна — і там карціна, тут канапа — і там канапа. Вось у алькове ля дзвярэй спіць фаўн — а вось дрэмле яго брат-блізнюк, а срэбная Венера, што стаіць у сонечным святле, цягне руку да другой Венеры, такой жа прыгожай, як першая.

Можа, гэта рэха? Аднойчы ён загукаў да яго ў даліне, і яно адказала яму, паўтарыла словы за словам. Ці можа яно перадражніваць погляд, як перадражнівае голас? Ці можа яно стварыць штучны свет, не адрозны ад сапраўднага? Ці могуць цені прадметаў мець колер, рухацца і жыць? Ці можа быць, што?..

Ён скалануўся і, узяўшы з грудзей прыгожую белую ружу, павярнуўся і пацалаваў яе. У пачвары была такая самая ружа, пялёстак да пялёстка! Пачвара гэтак жа цалавала кветку і звыродлівым рухам прыціскала яе да грудзей!

Калі карлік раптам зразумеў усю праўду, ён з дзікім крыкам адчаю паваліўся на падлогу і зарыдаў. Гэта ж ён сам такі брыдкі і гарбаты, паскудны з выгляду і бязглузды! Ён і ёсць гэтай пачварай, і гэта менавіта з яго смяяліся дзеці, а маленькая прынцэса, якая, думаў ён, яго кахае, — яна таксама проста кпіла з яго агіднасці і забаўлялася, гледзячы на яго крывыя ногі. Чаму яны не пакінулі яго ў лесе, дзе няма люстэрка, якое сказала б яму пра яго брыдоту? Чаму бацька не забіў яго, а прадаў дзеля жудаснай ганьбы? Па яго шчоках цяклі гарачыя слёзы, і ён парваў белую ружу на шматочкі. Распасцёртая на падлозе пачвара зрабіла тое самае і раскідала ў паветры бездапаможныя пялёсткі. Яна поўзала па падлозе, і калі карлік глядзеў на яе, падымала на яго скрыўлены ад болю твар. Карлік адсунуўся далей, каб не бачыць яе, і закрыў вочы рукамі. Як паранены звер, ён схаваўся ў цень і стагнаў там.

У гэты момант у пакой увайшла інфанта са сваёй світай і ўбачыла брыдкага карліка, што ляжаў у куце і скурчанымі рукамі біў у падлогу так вычварна і бязглузда, што дзеці тут жа весела зарагаталі, абступілі карліка і не зводзілі з яго вачэй.

— Ён так смешна танчыў, — сказала інфанта, — але гэты спектакль яшчэ лепшы. Ён амаль такі ж добры, як марыянеткі, хіба што не такі натуральны.

Яна замахала вялікім веерам і запляскала.

Але маленькі карлік нават не зірнуў на яе, яго ўсхліпы рабіліся ўсё слабейшымі і слабейшымі, і раптам ён сутаргава глынуў паветра і схапіўся за бок. Потым паваліўся зноў і больш не варушыўся.

— Гэта было шыкоўна, — праз некаторы час сказала інфанта, — але цяпер ты мусіш для мяне патанчыць.

— Так! — закрычалі астатнія дзеці. — Ты мусіш падняцца і патанчыць, ты такі ж разумны, як варварыйскія малпы, нават яшчэ больш смешны.

Але маленькі карлік не адгукнуўся.

Тады інфанта тупнула нагой і паклікала дзядзьку, які прагульваўся па тэрасе з камергерам, чытаючы лісты, якія толькі што прыбылі з Мексіка, дзе акурат заснавалі святую інквізіцыю.

— Мой мілы маленькі карузлік у кепскім настроі, — усклікнула яна, — ты мусіш падняць яго і сказаць, каб ён патанчыў.

Усміхнуўшыся адно аднаму, яны ўвайшлі ў пакой і марудна падплылі да карліка. Дон Педра нахіліўся над яго целам і пляпаў карліка па шчоках вышытай пальчаткай.

— Давай патанчы, petit monstre, — прамовіў ён. — Давай патанчы. Інфанта гішпанская і індыйская хоча, каб яе забавілі.

Але маленькі карлік не варухнуўся.

— Трэба пасланць па бізун, — стомлена сказаў дон Педра і зноў выйшаў на тэрасу. Але камергер змрочна апусціўся побач з карлікам і паклаў руку яму на сэрца. Праз некалькі імгненняў ён пацізнуў плячыма, падняўся і, нізка пакланіўшыся інфанце, сказаў:

— Mi bella Princesa, ваш мілы маленькі карузлік больш ніколі не затанчыць. Шкада: ён такі брыдкі, што мог бы рассмяшыць нават караля.

— Але чаму ён больш ніколі не затанчыць? — са смехам спытала інфанта.

— Бо ў яго разбілася сэрца, — адказаў камергер.

Інфанта нахмурылася, і яе зграбныя, падобныя да ружавых пялёсткаў вусны чароўна скрывіліся ад пагарды.

— Я папрашу, каб надалей у тых, хто прыходзіць са мной гуляць, сэрца не было! — ускрыкнула яна і пабегла ў сад.

**Пераклад з англійскай мовы Ганны Янкута**

Літаратурная Беларусь

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Эпоха Мікалая Дзямянцея

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ



**Напэўна, найбольш ярка Мікалай Дзямянцей запомніўся нам у ролі старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі 12 склікання. Многія з яго выказванняў у Авальнай залі імгненна станавіліся афарызмамі, а само прозвішча нярэдка фігуравала на плакатах удзельнікаў акцый пратэсту.**

## Хто такі і як абіраўся

На момант абрання старшынёй Прэзідыуму Вярхоўнага Савета БССР, якое адбылося 28 ліпеня 1989 года, Мікалай Іванавіч Дзямянцей займаў пасаду сакратара ЦК КПБ. Ён курыраваў сельскую гаспадарку і адказваў за выкананне знакамітай Харчовай праграмы. У свой час Дзямянцей скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію і працаваў аграномам адной з МТС на сваёй роднай Віцебшчыне. Мікалай Дзямянцей прайшоў усе прыступкі кар'ернай лесвіцы да партыйнага боса.

У тых умовах не было аніякіх сумневаў, што новым старшынёй Прэзідыума будзе менавіта ён: вылучаўся ён на безальтэрнатыўнай аснове. Праўда, ішла гаворка, што на гэтую пасаду можа прэтэндаваць і Вячаслаў Кебіч. Аднак старшыня Дзяржплана разважліва адмовіўся і падтрымаў Дзямянцея.

Абмеркаванне кандыдатуры Дзямянцея нагадвае брэжнеўскія часы, хаця быў ужо перыяд канца гарбачоўскай перабудовы. Выступоўцы — ад старшыні калгаса (Уладзімір Бядуля) да шэфа КДБ (Веньямін Балуеў) — прамаўлялі Дзямянцею сапраўдныя панегірыкі. Найбольш удала агульнае крэда адлюстраваў Анатоль Малафееў, першы сакратар Мінскага абкома КПБ: «Николай Иванович четок в мыслях, четок в действиях. Он владеет глубиной анализа и может делать правильные выводы».

Аднак перабудова не прайшла дарма: Дзямянцей вымушаны быў адказваць і на непрыемныя пытанні. Адно з такіх задаў Глеб Ерамееў, самы малады дэпутат Вярхоўнага Савета, студэнт Мінскага радыётэхнічнага інстытута. Яно тычылася адносінаў Дзямянцея да Беларускага народнага фронту. Адказ Дзямянцея быў такі: «Калі чалавек жадае зрабіць для беларускага народа нешта добрае, ён не павінен недзе хавацца і рабіць нешта падпольна. Гэта не сюрпрыз да дня нараджэння». А на пытанне (стэнаграма не зафіксавала прозвішча дэпутата), чаму «президент Белоруссии не говорит по-белорусски», Дзямянцей прывёў прыклад «интернациональной аудитории».

Дзямянцей прыйшоў на месца Георгія Таразевіча, які з'ехаў у Маскву і ўзначаліў адну з камісій Вярхоўнага Савета СССР.

## Ад выбараў да выбараў

Надыходзілі выбары ў Вярхоўны Савет Беларусі 12 склікання, якія мусілі адбыцца 4 сакавіка 1990 года.

Партнаменклатура была моцна напалоханая леташнімі выбарамі народных дэпутатаў СССР, калі некаторыя ўплывовыя гаспадарчыя і партыйныя босы не атрымалі запаветных мандатаў. Таму савецкія рэакцыянеры заклалі ў законапраект аб выбарах нормы, паводле якіх партнаменклатура атрымлівала перамогу.

Напрыклад, пры колькасці Вярхоўнага Савета ў 360 дэпутатаў 120 з іх павінны быць ад камуністычнай партыі і камсамолу. Гэтыя дэпутаты абіраліся не праз класічныя выбары, а на пасяджэннях сваіх арганізацый.

Вынік быў прадказальны. Аднак пад ціскам грамадскасці (у дзень абмеркавання законапраекта 27 кастрычніка 1989 года ля Дома Урада сабраліся тысячы людзей) і народных дэпутатаў СССР (Станіслаў Шушкевіч, Аляксандр Дабравольскі і іншыя) Вярхоўны Савет прыняў такі закон аб выбарах народных дэпутатаў (і ўнёс адпаведныя змены ў Канстытуцыю), паводле якога прадстаўніцтва ад грамадскіх арганізацый (ветэраны, інваліды, глухія і сляпыя) абмяжоўвалася да 50.

Сам Мікалай Іванавіч на выбарах у Вярхоўны Савет БССР 12 склікання, якія распачаліся 4 сакавіка 1990 года, вылучыўся на безальтэрнатыўнай аснове па Ушацкай выбарчай акрузе №162. І, хаця Дзямянцей перамог у першым туры, трыумф нельга назваць абсалютным: з 17041 выбаршчыка старшыню Прэзідыума падтрымалі 9959, супраць выказаліся 7082.

## Старшыня

Вярхоўны Савет Беларусі 12 склікання пачаў сваю працу 15 мая 1990 года. Натуральна, галоўная інтрыга палягала ў тым, хто будзе старшынёй (паводле зменаў у Канстытуцыю ад 27 кастрычніка 1989 года, старшыня Вярхоўнага Савета з'яўляўся і старшынёй Прэзідыума). Партнаменклатура зрабіла стаўку на Дзямянцея, аднак яму давялося пазмагацца. У Вярхоўны Савет 12 склікання было абрана шмат дэпутатаў, якіх не задавальняла сітуацыя, яны патрабавалі перамен. У якасці альтэрнатывы былі вылучаны кандыдатуры прарэктара БДУ Станіслава Шушкевіча, лётчыка-касманаўта Уладзіміра Кавалёнка і медыка з Барысава Рыгора Вячэрскага (апошні зняў сваю кандыдатуру на карысць Кавалёнка).

Беларускі народны фронт арганізаваў Дзямянцею сапраўдную абструкцыю. Ля Дома Урада ў дзень выбараў (18 мая 1990 года) сотні людзей палілі партбілеты і разгарнулі плакаты з лозунгам: «Дементей — смерть наших детей!».

Супраць Дзямянцея выказаліся і іншыя дэпутаты. Вось што казаў Лукашэнка: «Я бы честно отдал своё слово за товарища Шушкевича. Я подам голос за нового человека, за человека, который не загружен старым багажом. Я готов работать рядом с ним, помогать ему для того, чтобы наша республика стала могущественной и красивой».

Аднак 18 мая 1990 года ў выніку двух тураў перамог Мікалай Дзямянцей. У першым туры з 323 галасоў ён атрымаў 161 (Кавалёнак — 47, Шушкевіч — 101). У другім — 167.

Многія дэпутаты рашуча выказаліся супраць, абвінавачваючы Дзямянцея ў парушэнні працэдуры выбараў. Такую думку, напрыклад, выказаў юрыст Віктар Ганчар. 19 мая 1990 года Зянон Пазняк назваў выбары старшыні захопам улады. На рэпліку Дзямянцея: «Ваше время прошло», лідар БНФ пад апладысменты адказаў: «Не мое, а ваше прошло».

**Беларускі народны фронт арганізаваў Дзямянцею сапраўдную абструкцыю. Ля Дома Урада ў дзень выбараў (18 мая 1990 года) сотні людзей палілі партбілеты і разгарнулі плакаты з лозунгам: «Дементей — смерть наших детей!»**

## Дэкларацыя і Бацька

Што заўсёды прываблівала ў Мікалаі Іванавічы, дык гэта яго вытрымка ў час самых вострых парламенцкіх дэбатаў. «Спокойно, товарищи, только спокойно», — так казаў Дзямянцей у канцы ліпеня 1990 года пры абмеркаванні праекта Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. Хаця для хвалявання Дзямянцею і яго прыхільнікам не было нагоды. Парламенцкая большасць ухваліла афіцыйны праект Дэкларацыі, у якім было шмат навізны, аднак захавалася сувязь з мінулым. Дзямянцей быў адным з тых, хто адстойваў у праекце пункт наконт таго, што Беларуская ССР удзельнічае ў падпісанні новага Саюзнага дагавора. Тым не менш, нават у такім выглядзе Дэкларацыя стала падмуркам сапраўднай беларускай незалежнасці.

Вось што казаў Мікалай Іванавіч на 45-м пасяджэнні 3-й сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі 12 склікання 31 студзеня 1991 года: «Я буду делать все, чтобы не было стыдно мне перед белорусским народом, чтобы на мне как на гражданине БССР не было никакого пятна. Постараюсь, как говорят, быть верным сыном белорусского народа». Калі 12 чэрвеня 1991 года Вярхоўны Савет зацвердзіў пастанову аб ухваленні новага Саюзнага дагавора (пад федэратыўнымі лозунгамі фактычна захоўвалася ўнітарная дзяржава), адзін з дэпутатаў прапанаваў падпісаць дагавор «нашему батьке» — Мікалаю Дзямянцею.

Аднак з «бацькам» звязаны і ганебныя старонкі. Напрыклад, незаконная пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета ў студзені 1991 года аб правядзенні рэферэндуму аб захаванні СССР як абноўленай федэрацыі (была прынята падчас працы Вярхоўнага Савета), альбо публічнае асуджэнне і ціск з боку Дзямянцея на ўдзельнікаў страйкаў вясной 1991 года (у сувязі з рэзкім падвышэннем цэнаў) у сваім артыкуле «Закон обязателен для всех» («Народная газета», 17 красавіка).

## Час прыйшоў

Звон па Дзямянцею празвінеў у драматычныя жнівеньскія дні 1991 года. Амаль усе дэпутаты абвінавацілі яго ў падтрымцы путчыстаў. 20 жніўня 1991 года, калі дэпутат Лукашэнка патрабаваў даць тлумачэнні, Мікалай Іванавіч адказаў так: «Глубоко личное остается личным и не подлежит трепотне, у меня может произойти кровоизлияние или инсульт, но я уважаю Горбачёва, уважал и буду уважать». 24 жніўня Дзямянцей заявіў, што з яго боку падтрымкі ГКЧП не было.

Аднак 25 жніўня пасля палымяных прамоў дэпутатаў Зянона Пазняка, Генадзя Карпенкі, Аляксандра Лукашэнкі і Віктара Ганчара было пастаўлена пытанне аб адстаўцы Дзямянцея. Прычым, яна адбылася простым электронным галасаваннем (Дзямянцей афіцыйна папрасіўся на пенсію). З 268 дэпутатаў, што прынялі ўдзел у галасаванні, «за» выказаліся 232.

Сутнасць Мікалая Дзямянцея добра раскрываюць падзеі 19 верасня 1991 года, калі ў Вярхоўным Савеце абмяркоўвалася пытанне аб новай дзяржаўнай сімволіці: герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг. Спачатку Дзямянцей выказаўся супраць «флажков» і заклікаў разглядаць пытанне пра бюджэт: «Нет кассы, нечего и обсуждать». Затым Дзямянцей заявіў, што падтрымае новую сімволіку, і што нават гатовы цалаваць яе. Аднак у галасаванні па новай сімволіцы Дзямянцей так і не ўдзельнічаў.

## «Канстытуцыю далі...»

Мікалай Іванавіч быў апантаны ідэяй новай Канстытуцыі. Справа ў тым, што 22 чэрвеня 1990 года Дзямянцей быў зацверджаны ў якасці старшыні Канстытуцыйнай камісіі (звыш ста чалавек). 30 кастрычніка 1990 года Дзямянцей казаў наступнае: «Конституция не может быть выше реалий общественной жизни, её невозможно рассматривать в отрыве от политического режима. Если перевести на механический язык, это должна быть хорошая коробка передач, которая работает на восемь скоростей: три скорости назад, пять — вперёд».

Пасля адстаўкі з пасады старшыні Вярхоўнага Савета Дзямянцей, тым не менш, працягваў кіраваць працай Канстытуцыйнай камісіі. Асабліва актыўна Мікалай Іванавіч выступаў за тое, каб захаваць квоту (па стане здароўя) за ветэранамі і інвалідамі ў будучым Вярхоўным Савеце (маглі абірацца на пленумах і з'ездах грамадскіх арганізацый).

Шмат у чым заслугай Дзямянцея было тое, што 11 лістапада 1991 года Вярхоўны Савет разгледзеў у першым чытанні праект Асноўнага Закона. Пра Дзямянцея, дарэчы, вельмі добра выказваўся Віктар Ганчар.

28 кастрычніка 1992 года старшынёй Канстытуцыйнай камісіі стаў Станіслаў Шушкевіч, а Дзямянцей адышоў у цень.

## Нікуды без Лукашэнкі

Дзямянцей цалкам падтрымаў Лукашэнку па ўсталяванні рэжыму асабістай улады і ліквідацыі Вярхоўнага Савета. У адрозненне ад былога суперніка Лукашэнкі на першых прэзідэнцкіх выбарах Вячаслава Кебіча, які стаў дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, Дзямянцей апынуўся ў Савеце Рэспублікі першага склікання і ўвайшоў у склад камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы.

Сам Дзямянцей 22 студзеня 1997 года падтрымаў на пасаду старшыні камісіі па сацыяльных пытаннях Савета Рэспублікі сваю калегу па Вярхоўным Савеце і былога міністра аховы здароўя Інэсу Драбышэўскую, якая заявіла, што з усіх старшыняў Вярхоўнага Савета Беларусі 12 склікання толькі Дзямянцей «был самым демократичным и давал проявить себя».

Пасля Савета Рэспублікі Мікалай Іванавіч знік з грамадскага гарызонту, аднак у 2005 годзе адзначыўся аўтабіяграфічным выданнем «Уроки жизни».

Апошні выступ Дзямянцея адбыўся 11 снежня 2010 года на сустрэчы з Юрыем Казіяткам. Невядома, навошта і каму спатрэбілася непакоіць сталага чалавека, каб з яго вуснаў чуць цкаванне альтэрнатыўных кандыдатаў.

Мікалай Дзямянцей — гэта эпоха, аднак гістарычны і маральны тупік.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Загадка гіганцкай вавёркі

Дыскусіі ў сацсетках Казахстана справакаваў арт-аб'ект у выглядзе 13-метровай вавёркі, што быў усталяваны ў цэнтры Алматы 8 ліпеня. На выраб вавёркі спатрэбілася 3,5 тоны саломы. Хвост жывёлы дасягае ў даўжыню 15 метраў. Агульная вага аб'екту — 10–12 тон. Аўтарам скульптуры з'яўляецца мастак з Вялікабрытаніі Алекс Рынслер. За 15 гадоў сваёй практыкі ён паспеў папрацаваць у Кітаі, ЗША, Аўстраліі, Фінляндыі, Аргенціне і Паўднёвай Афрыцы. Адна з вядомых яго работ — скульптура лісы ў Шанхаі. Цяжка сказаць, як рэагавалі на лісу ў Шанхаі, а вось у Алматы задуму Рынслера відавочна не зразумелі. Незвычайная фігура выклікала ў многіх шок. «Жах, што за ганьба!», «Здаецца, піць трэба менш», «Вось куды сыходзяць нашы падаткі», «Гэта ж колькі трэба выпіць, каб прыйшла такая вавёрачка?» — заўважылі карыстальнікі Facebook. У каментарах арт-аб'ект таксама параўналі з траянскім канём і Кінг-Конгам. Яшчэ адна нагода для крытыкі помніка — сума, выдаткаваная на праект. Ён каштаваў каля 67 тысяч долараў. Аднак самая цікавая версія наступная: вавёрку ўсталявалі адмыслова, каб яна адцягвала ўвагу ад фігуры Назарбаева. У пачатку ліпеня краіна святкуе дзень нараджэння кіраўніка дзяржавы, што звычайна выклікае нараканні насельніцтва. Цяпер увесь негатыў перацягнула на сябе гіганцкая вавёрка.

**Паводле казахскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Таксісты апрануць спадніцы

Кіраўніцтва іспанскага дэпартамента, які кантралюе працу таксі, прыняло рашэнне наконт знешняга выгляду кіроўцаў. У прыватнасці, з 1 верасня ім забаронена быць апранутымі ў шорты і майкі падчас развозу кліентаў. Замест гэтага прапануюцца штаны, белыя кашулі і гальштукі. Задача — надаць таксі імідж саліднай канторы. Акрамя таго, гэта, нібыта, таксама прымусіць таксістаў быць больш дысцыплінаванымі за рулём. Самі таксісты сустрэлі новыя інструкцыі кіраўніцтва ў штыкі. Перш за ўсё, таму, што кашуля і гальштук — не для Іспаніі, дзе, як вядома, вельмі горача. Даходзіць да таго, што некаторыя гатовыя працаваць у спадніцах. Пра забарону на нашэнне спадніц у новых цыркулярах нічога не гаворыцца. Прафсаюзы ўсё яшчэ спадзяюцца на адмену рашэння. Па-першае, яно нагадвае пастанову ад 1966 года, калі ў Іспаніі панавала дыктатура Франка. Тады таксістаў абавязалі насіць спецыяльныя фуражкі. Па-другое, падрывае прынцыпы роўнасці — ускладняе працаўладкаванне ў таксісты прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў (яны часта маюць сваё ўяўленне пра строй) і жанчын (ім наўрад ці спадабаецца выглядаць аднастайна).

**Паводле іспанскай прэсы**

### АБХАЗІЯ. Колькі ў рэгіёне Дзён перамогі?

У гэтым годзе 30 верасня спаўняецца 25 гадоў заканчэння абхазска-грузінскага канфлікту, у выніку якога Абхазія фактычна выйшла з-пад кантролю Тбілісі. Гэту дату ў Сухумі вырашана адзначыць шырока, але ёсць праблема — да гэтага часу ідуць спрэчкі пра назву свята. У народзе і ў СМІ яго называюць Днём перамогі, а вось у афіцыйных дакументах — Днём незалежнасці. Прыхільнікі варыянтаў не могуць знайсці агульную мову. Першыя кажуць, што прызнаваць Днём незалежнасці Абхазіі 30 верасня 1993 года — значыць, распісацца ў тым, што абхазскай дзяржаўнасці раней не існавала. Прыхільнік другога варыянту звяртаюць увагу на тое, што ў мясцовым святочным календары ўжо ёсць Дзень перамогі, які святкуюць 9 траўня. З улікам таго, што за назву «Дзень перамогі» выступаюць ветэраны вайны з Грузіяй, хутчэй за ўсё, у выніку ў Абхазіі сапраўды будзе два Дня перамогі. Прэса піша, што такія каляндарныя забабоны відавочна не спадабаюцца ў Расіі, дзе вакол Дня перамогі 9 траўня створаны цэлы культ. Між тым, падчас дэбатаў нечакана выявілася, што ніякай перамогі і незалежнасці 25 гадоў таму, магчыма, і не было. Тагачасныя абхазскія лідары баяліся апынуцца пад поўным пратэктаратам Масквы і, нібыта, 30 верасня падпісалі з Тбілісі дамову пра саюзную дзяржаву.

**Паводле грузінскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Адмоўны бок футболу

Аказваецца, пакуль усе атрымлівалі асалоду ад футбольных рэпартажаў з апошняга Кубка свету, псіхолагі актыўна працавалі. У прыватнасці, у Англіі яны вывучалі ўплыў футбола на псіхалогію сямейных адносін — і ўсталявалі цікавую карэляцыю. Высветлілася, што гульні любімай каманды выклікаюць сямейныя канфлікты, якія часта заканчваюцца гвалтам. Здавалася б, гэтую з'яву можна растлумачыць вельмі лёгка: каб кампенсаваць пройгрыш любімай каманды, муж уздымае руку на жонку. Але, як высвятляецца, муж і жонка распускаюць рукі нават у выпадках, калі іх каманда выйграе. Паводле статыстыкі Нацыянальнага цэнтра па вывучэнні хатняга гвалту, калі зборная Англіі выйгравала, колькасць актаў сямейнага гвалту павялічвалася прыкладна на 26 працэнтаў. Калі прайгравала, то рост такіх выпадкаў дасягаў 38 працэнтаў. Як змагацца з феноменам, пакуль ніхто не ведае. Хіба што на BBC задумаліся наконт спецыяльнай сацыяльнай рэкламы. Плануюць перад трансляцыяй матчаў зборнай заклікаць чальцоў сям'і не наносіць адзін аднаму фізічны траўмаў.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Ад Чэхіі Гавела да Чэхіі Бабіша

Алег НОВІКАЎ

**У Чэхіі ўпершыню пасля Аксамітнай рэвалюцыі 1989 года фармуюць урад пры ўдзеле камуністаў. Дэмакраты ў сувязі з гэтым кажуць пра канец палітычнай мадэлі, заснаванай пасля краху камунізму.**



Фота www.news.rambler.ru

Хаця апошнія падзеі ў Чэхіі вельмі папулярна называць «Аксамітнай контррэвалюцыяй», паралелі з падзеямі 1989 года, мякка кажучы, трошкі нацягнутыя. Аксамітная рэвалюцыя абапіралася на шырокі грамадскі кансенсус. Неабходнасць рэформаў прызнавалі нават камуністы, якія даволі лёгка пагадзіліся адысці ад улады. Цяперашняе вяртанне камуністаў у эліту выклікала шмат спрэчак. Дастаткова сказаць, што канчатковаму галасаванню 12 ліпеня папярэднічалі парламенцкія дэбаты, якія цягнуліся аж 16 гадзін.

Прадстаўнікі правых партый заклікалі адумацца, нагадваючы пра злачынствы таталітарызму і пагрозу рэабілітацыі KSCM (Камуністычнай партыі Чэхіі і Маравіі). У гэтым плане яны не хлусілі. Цяперашняя Чэхія — прадукт 1989 года. Паколькі тая рэвалюцыя мела выразны антыкамуністычны складнік, адной з негалосных альфаў і амегаў новага рэжыму была маргіналізацыя кампартыі. Апошнім, праўда, удалося захавацца на палітычнай сцэне, аднак у склад урадавай кааліцыі іх ніколі не запрашалі. Для ўсіх вядучых палітыкаў кааперацыя з KSCM на ўзроўні ўраду лічылася нейкім абсалютным табу.

Правілы гульні зламаў папуліст Андрэй Бабіш — скандальны алігарх, лідар папуліцскай партыі ANO («Акцыя незадаволеных грамадзян»). ANO — фармальны пераможца парламенцкіх выбараў, што адбыліся яшчэ 9 месяцаў таму. Першы ўрад Бабіша праіснаваў толькі месяц: у студзені 2018 года парламент выказаў яму недавер. Паколькі Бабішу бракавала дэпутацкай большасці, стартавалі пошукі партнёраў, якімі на пачатку лета пагадзіліся стаць эсдэкі. Аднак і гэта не дало патрэбнай колькасці мандатаў. Вось тут і спатрэбіліся камуністы, якія маюць фракцыю ў 15 чалавек.

Хаця фармальна камуністы не будуць сябрамі кабінету, яны, як кажуць некаторыя, атрымліваюць рычаг ціску на міністраў. Непразрысты перамоўны працэс дае камуністам магчымасць таксама манеўраваць і атакаваць кааліцыйных партнёраў новымі патрабаваннямі.

Адсюль і сапраўдная Ніягара эмоцый з боку дэмакратаў. Некаторыя дэпутацкія групы прыцягнулі ў залу пасяджэнняў транспаранты з надпісамі: «Стоп бальшавізм!», «Не камуне!» і гэтак далей. Бурлівы было і на вуліцы, дзе некалькі сотняў чалавек пратэставалі супраць вяртання камуністаў у Град (урадавы квартал у Празе). Справа ледзь не дайшла да палітычнага замаху: калі Бабіш з'явіўся перад маніфестантамі, з натоўпу ў прэм'ера паляцелі пляшкі. Дадавала драматызму і тое, што на дварэ — юбілей інтэрвенцыі войскаў Варшаўскага блоку ў Чэхаславакію ў жніўні 1968-га.

Нягледзячы на мабілізацыю, аргументы правай апазіцыі не спрацавалі. У выніку фінальнага галасавання ўрад быў ухвалены 105 галасамі з 196 прысутных. У прынцыпе, усё вырашыла прагнасць сацыял-дэмакратаў, рэйтынгі якіх зараз самыя нізкія за ўсю гісторыю. А тут Бабіш гатовы даць аж пяць міністэрскіх пасадаў.

> **Вяртанне камуністаў у эшалоны ўлады стварае вялікую маральную праблему для палітычных сілаў, якія арыентуюцца на спадчыну Аксамітнай рэвалюцыі. Апошнія падзеі б'юць па іх канцэпцыі, у якой камуністы былі абсалютным злом**

Не паспелі абвясціць вынікі галасавання, як на старонках правай прэсы пачаліся хаўтуры па чэшскай дэмакратыі. На думку лідараў апазіцыі, рэспублікі, якую заснавалі на рэштках савецкай Чэхаславакіі, больш няма. На яе месца прыйшла новая мадэль, якую адны называюць «посткамуністычная Чэхія», а іншыя — «алігархічная рэспубліка» або «Бабішаўская Чэхія». Лідар фракцыі ліберальнай партыі TOP 09 Міраслаў Калусек чакае пераарыентацыі Чэхіі на Маскву. Некаторыя дэмакраты рвуць на сабе валасы праз тое, што ў 1989-м не пачалі працэс забароны камуністычнай партыі, як зрабілі некаторыя краіны-суседкі.

Не ўсе спяваюць рэквіем па чэшскай дэмакратыі і спадчыне яе заснавальніка Вацлава Гавела. Некаторыя каментатары заклікаюць не дэманізаваць камуністаў. Па-першае, KSCM даўно ўжо не марыць пра дыктатуру пралетарыяту. Арганізацыю Войтэха Філіпа (правадыра камуністаў) можна параўнаць з партыяй Зюганава, якая стала эксплуатуе настальгію па часах камунізму (сярэдні ўзрост чэшскага камуніста — 62 гады). Этычны кодэкс камуніста не замінае функцыянерам KSCM весці вельмі буржуазны modus vivendi.

Такая апартуністычная партыя наўрад ці будзе асабліва ўплываць на стратэгію Бабіша. Лепшы прыклад — апошнія знешнепалітычныя крокі яго кабінету. Нягледзячы на рэверансы перад камуністамі, Бабіш паслядоўна арыентуецца на Вашынгтон, адмаўляючыся, напрыклад, ад скарачэння чэшскіх вайсковых кантынгентаў у Афганістане і краінах Балтыі. Раней, у сакавіку, Прага выставіла трох дыпламатаў Расіі ў знак салідарнасці з Лонданам па справе Скрыгаляў.

Вяртанне камуністаў у эшалоны ўлады сапраўды стварае вялікую маральную і псіхалагічную праблему для палітычных сілаў, якія арыентуюцца на спадчыну Аксамітнай рэвалюцыі. У сімвалічным сэнсе апошнія падзеі рыкашэтам б'юць па іх канцэпцыі, у якой камуністы заўжды былі абсалютным злом.

Напэўна, пытанне трэба ставіць яшчэ больш глабальна. Чаму грамадства дае легітымацыю такім палітыкам, як Бабіш? Як піша брытанская «The Guardian», Андрэй Бабіш адважыўся на саюз з камуністамі, паколькі ў пытаннях дэмакратыі адчуваў палітычную апатыю большасці простых чэхаў.

# Падайце ўраду на выжыванне!

Алег НОВІКАЎ

**За гады існавання СНД адбывалася шмат чаго, але такое... Улады Кыргызстана прапанавалі грамадзянам скінуцца і агульнымі намаганнямі пагасіць знешні доўг, які дзяржава аплачваць не ў стане.**



Фота www.lg-news.net

Дарэчы, кыргызскія пазыкі не такія ўжо і вялікія. Яны складаюць 4,4 мільярда долараў ЗША (да прыкладу, знешні дзяржаўны доўг Беларусі па стане на 1 чэрвеня 2018 года склаў 16,4 мільярда долараў). Але ў Кыргызстане праблема з аплатай дзярждоўгу існуе. Інакш бы на пачатку лета прэм'ер Мухамедкалый Абылгазіеў фактычна не абвясціў дэфолт — публічна прызнаўся, што ў бюджэце няма сродкаў плаціць па знешніх крэдытах, большасць з якіх былі атрыманыя з суседняга Кітаю.

Праўда, афіцыйнай заявы пра дэфолт яшчэ няма. Магчыма таму ў нетрах урадавага апарата паўстаў геніяльны план выратавання сітуацыі. Чыноўнік разлічылі, што на кожнага грамадзяніна прыходзіцца па 800 долараў дзярждоўгу, што, у прынцыпе, не самая завоблачная сума. Асабліва калі ўлічыць, што амаль у кожнай кыргызскай сям'і нехта працуе за мяжой. Толькі з Расіі за першыя 5 месяцаў гэтага года гастарбайтэры даслалі на радзіму амаль мільярд долараў.

Так і нарадзілася незвычайная ідэя: адкрыць спецыяльны банкаўскі рахунак для жадаючых дапамагчы дзяржаве выплаціць знешнія пазыкі. Абслугоўваць крэдыты, што ўзялі за мяжой, збіраюцца за кошт грошай з другога рахунку. Яго плануюць папаўняць сродкамі, канфіскаванымі ў карупцыянераў.

Не абышлося, натуральна, без адпаведнай прапагандысцкай кампаніі. «Кыргызскі народ павінен сабрацца! Ты, я, сваякі павінны аб'яднацца і пагасіць знешні доўг. Не толькі дэпутаты, простыя працоўныя, некаторыя нават пенсію гатовы аддаць», — заклікае грамадзян адзін з праўладных дэпутатаў.

Заклікаюць кыргызаў таксама раўняцца на паўднёвых карэйцаў, якія прыкладна 20 гадоў таму ў падобных умовах аддалі апошнія кроўныя, каб не дапусціць банкруцтва краіны.

Мяркуючы па ўсім, да справы падключылі праўладных патрыётаў. На старонках афіцыёзу тыя пішуць, што ўслед за дэфолтам на адрас Бішкеку абавязкова пойдуць судовыя пазовы крэдытораў. Замежнікі будуць патрабаваць кампенсацыю ў выглядзе самых смачных кавалкаў кыргызскай прыроды, уключаючы курортную перліну краіны — возера Ісык-Куль.

Нягледзячы на інфармацыйную істэрыку, простыя людзі паставіліся да ініцыятывы ўраду вельмі насцярожана. Шмат хто не разумее, чаму не дзяржава павінна клапаціцца пра народ, а народ мусіць дапамагаць дзяржаве. На сайце кыргызскай секцыі «Радыё Свабода» адзін з каментатараў піша: «Чыноўнікі крадуць, а насельніцтва павінна пагашаць доўг дзяржавы і забяспечваць зноў тых жа чыноўнікаў магчымасцю для далейшага крадзяжу? Яны зусім хворыя на галаву?». Быць філантропамі людзі не толькі не жадаюць, але і проста не могуць — праз цяжкі матэрыяльны стан. Па сутнасці, эканоміка Кыргызстана ўсё яшчэ не выйшла на ўзровень, які папярэднічаў крызісу 2014-га. У сярэднім кожны кыргыз цяпер атрымлівае каля 200 долараў ЗША ў эквіваленце.

Нарэшце, ад шырокага жэсту ўтрымлівае і сумны досвед. Раней урад некалькі разоў заклікаў кыргызаў скінуцца на будаўніцтва буйных аб'ектаў інфраструктуры. Напрыклад, у канцы 1990-х гадоў з народа былі сабраныя грошы на будаўніцтва адной з ліній чыгункі. Аднак справа не была даведзена да канца, а справаздачы па сабраных грошах людзі так не дачакаліся.

Праўда, чыноўнікі падобную рэакцыю з боку народных мас прадбачылі. Таму паспяшаліся запэўніць насельніцтва, што кантроль за ахвяраваннямі

**Людзі паставіліся да ініцыятывы ўраду вельмі насцярожана. Шмат хто не разумее, чаму не дзяржава павінна клапаціцца пра народ, а народ мусіць дапамагаць дзяржаве**

на выплату пазыкі будзе належны. Прапануецца стварыць назіральную раду, якая будзе складацца з 13 чалавек — у тым ліку прадстаўнікоў няўрадавых грамадзянскіх арганізацый. Сродкі будуць акумуляваны на асобным рахунку Цэнтральнага казначэйства ў Нацбанку. Мінфін абяцае публікаваць на сваім сайце справаздачу пра іх выкарыстанне адзін раз на квартал.

Але і такія гарантыі асабліва не пераканалі грамадзян. Больш за тое, на кыргызскіх інтэрнэт-форумах тыражуюцца плёткі, што дапамога дзяржаве будзе мець «добраахвотна-прымусовы характар». Такія спекуляцыі больш за ўсё непакояць бюджэтнікаў, частку заробкаў якіх цэнтралізавана могуць накіраваць на згаданы рахунак. Хаця і не занятыя ў дзяржсектары, напэўна, нервуюцца. Праблему даўгоў могуць вырашыць за кошт павышэння падаткаў на бізнес.

Трэба сказаць, што кыргызам нават трошкі пашанцавала. Калі б нешта падобнае мела месца ў суседніх аўтакратычных краінах Сярэдняй Азіі, улады проста праігнаравалі б крытычныя настроі. У Кыргызстане захаваліся рэшткі плюралізму і, як вынік, у апошнія дні «план па раскулачванні» пачалі асцярожна спускаць на тармазах. Так, Улан Прымаў, сябра парламенцкага камітэту па фінансах, удакладніў, што адрасатамі заклікі ўраду з'яўляюцца «забяспечаныя кіраўнікі, бізнесмены, неабыякавыя заможныя грамадзяне».

А днямі прэзідэнт краіны Саранбай Жээнбекаў заклікаў для вырашэння праблемы дзярждоўгу імпартаваць армянскія напрацоўкі. Нагадаем, што армянскі прэм'ер-міністр Нікола Пашынян, які прыйшоў да ўлады на хвалі нядаўняга Майдана, фармуе новыя фонды за кошт вяртання грашовых сродкаў, атрыманых карупцыйнымі шляхамі. З 1 ліпеня ўсе чыноўнікаў Арменіі абавязаныя здаць новыя падатковыя дэкларацыі. Прэзідэнт Кыргызстана таксама лічыць неабходным хутка праверыць даходы і выдаткі ўсіх чыноўнікаў.

Можна меркаваць, што ўлада паступова адмаўляецца ад сваёй экстравагантнай ідэі. Але радавацца кыргызам пакуль рана. Працэс пошуку карупцыйных грошай і вяртання іх у бюджэт, відавочна, патрабуе шмат часу. Між тым кітайскі пасол у Бішкеку катэгарычна заявіў: усе плацяжы павінны быць пагашаныя ў тэрміны, абумоўленыя кантрактамі. Таму не выключана, што хутка кыргызаў зноў папросяць падзяліцца кроўнымі грашыма.

Увогуле, лагічней за ўсё чакаць непапулярных крокаў ад ураду ў верасні, калі ўся краіна будзе сачыць за Трэціміі сусветнымі гульнямі качэўнікаў. Мерапрыемства абяцае быць вельмі маштабным. У гэтым годзе на яго ў якасці ганаровых гасцей запрошаны Анджаліна Джалі, Джэкі Чан, Леанарда Ды Капрыё і іншыя сусветныя зоркі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Калінда Грабар-Кітаравіч



Прэзідэнтка Харватыі, лідарка партыі «Харвацкі дэмакратычны саюз» (HDZ) атрымала больш за ўсё дывідэндаў з Чэмпіянату свету па футболе. Харваты проста закахаліся ў свайго гаранта. Усё дзякуючы сталай прысутнасці Калінды на стадыёнах, дзе гуляла каманда краіны. Грабар-Кітаравіч, апранутая ў футболку харвацкай зборнай, паводзіла сябе як звычайны заўзятар, што перш за ўсё выклікала сімпатыі. Пазітыўнае стаўленне ўзмацніла навіна пра тое, што яна паехала ў Расію за свой кошт, прычым эканом-класам, са звычайнымі фанатамі. Нарэшце, цяжка было ўтрымацца ад слёз, калі кіраўніца краіны пасля фінальнага матчу амаль па-мацярынску абняла кожнага з футбалістаў зборнай.

Медыяэксперты ў Заграбе ўжо падлічылі, што колькасць пазітыўных публікацый пра прэзідэнта за час турніру вырасла на 25 працэнтаў. Ніводны футбаліст зборнай Харватыі не можа нават марыць пра такую статыстыку. Падсумоўваючы вынікі футбольных прыгодаў Грабар-Кітаравіч, прэса адназначна называе яе пераможцам на прэзідэнцкіх выбарах у наступным годзе. Прычым, напярэдадні Мундыяля яе шанцы на пераабранне выглядалі не такімі высокімі. Справа ў тым, што Калінда вучылася і доўгі час працавала за мяжой, што стварыла ёй рэнаме чалавека, далёкага ад харвацкіх рэалій.

### Дзмітрый Козак



Віцэ-прэм'ер Расіі акрамя сваіх функцый таксама будзе адказваць за адносіны Расіі і Малдовы. Гэта разглядаюць як пралог вялікіх зменаў у рэгіёне.

Крэмль, як піша прэса, мае намер аб'яднаць Прыднястроўе з Малдовай у адну федэральную дзяржаву. Менавіта такі план распрацаваў Козак яшчэ ў 2003 годзе. Тады ён не рэалізаваўся з-за дэмаршу малдаўскіх камуністаў, якія знаходзіліся ва ўладзе. Цяпер Малдовай кіруе клан алігарха Уладзіміра Плахатнюка.

Доўгі час Плахатнюк лічыўся празаходнім палітыкам, аднак цяпер раману з ЕС, падаецца, прыйшоў канец. Усё праз вердыкт малдаўскіх судоў, што адмовіліся пацвердзіць мандат абранага мэра Кішынёва, дэмакрата Андрэя Нэстасе, які перамог прадстаўніка партыі Плахатнюка. У Брусэлі прызналі гэта парушэннем правоў грамадзян, заклікалі ўлады Малдовы выправіць сітуацыю і адмовілі ў крэдыце. Кішынёў, у сваю чаргу, пакрыўдзіўся на еўрапейскіх чыноўнікаў.

Між тым, хутка восеньскія парламенцкія выбары, і Плахатнюку патрэбныя нейкія перамогі, якія можна дэманстраваць на радзіме і за мяжой. Вяртанне Прыднястроўя ў склад Малдовы можа прымусіць Захад перагледзець стаўленне да алігарха. Пуцін, як кажуць, у сваю чаргу, можа абмяняць Прыднястроўе на Крым. Цікава, што пакуль улады непрызнанай Прыднястроўскай Малдоўскай Рэспублікі (ПМР) катэгарычна адмаўляюць магчымасць перадачы часткі суверэнітэту Кішынёву. Аднак наўрад ці Цірасполь зможа пайсці супраць Масквы.

### Рауль Кастра



Экс-прэзідэнт Кубы застаецца важнай фігурай кубінскай палітыкі. Сярод іншага, ён кіруе парламенцкай камісіяй, якая адказвае за змены Канстытуцыі.

Змены сапраўды можна лічыць радыкальнымі. Упершыню пасля рэвалюцыі 1959 года кубінская дзяржава прызнае рынкавую эканоміку. «Дзяржава прызнае ролю рынку і новыя формы ўласнасці, у тым ліку прыватныя», — гаворыцца ў праекце. Цяпер за праект зменаў павінны прагаласаваць на рэферэндуме, вынікі якога, думаецца, вядомыя ўжо зараз. Не толькі таму, што гэта — ініцыятыва ўлады ў краіне, дзе няма апазіцыі. На самай справе, рэформа трошкі запазнілася. Ужо сёння на Востраве Свабоды каля 12 працэнтаў працоўных занятыя ў прыватным сектары.

Тое, што ў Гаване вырашылі прывесці закон у адпаведнасць з сітуацыяй, тлумачыцца патрэбай інвестыцый. Замежнікі не адважваюцца ўкладаць грошы ў эканоміку краіны, якая не прызнае прыватную ўласнасць. Праблема інвестыцый асабліва абвастрылася ў сувязі з крызісам у Венесуэле, адкуль Куба атрымлівала таннае паліва. Незразумела, што краіна будзе рабіць у выпадку змены рэжыму ў Каракасе.

Варта ўзгадаць, што ў праекце новай Канстытуцыі ёсць пункт, які абвяшчае роўнасць у правах усіх кубінцаў, незалежна ад іх сексуальнай самаідэнтыфікацыі. Гэты пункт прасунула Марыела Кастра — дачка Фідэля Кастра, якая даўно займаецца абаронай правоў прадстаўнікоў кубінскіх сексуальных меншасцяў.


Сям'я Хуана Дамейкі, часовага паверанага Чылі ў Аўстрыі, 1955–1959 гады. Другая справа — Пас Дамейка


Сядзіба Дамейкі Жыбартоўшчына непадалёк ад Дзятлава


Так выглядае Жыбартоўшчына сёння. Фота «Радыё Свабода»

# «Пястун нацыянальнага гонару сярод чужых народаў»

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

**Аднойчы ён паслізнуўся і зваліўся б у шахту, калі б за нагу яго не злавіў магутны шахцёр. Іншым разам пасля страшэннага падземнага гулу яго нейкім цудам выкінула з хаты. Ачуняўшы, ён убачыў, што ад мураванага дома засталіся адны парэшткі...**



Яго дэвізам сталі словы: «Жывучы, будзь карысным для іншых, бо інакш няма сэнсу жыць!»

Ігната Дамейку выгналі з Радзімы, і ён стаў нацыянальным героем Чылі. Але да канца жыцця заставаўся верным бацькоўскай старонцы: «Я ніколі натуралізавацца не патраплю і маю надзею на Бога, што ці ў Кардыльерах, ці ў Панарах — памру ліцвінам».

## Філамат, аграном, паўстанец

Ігнат Дамейка нарадзіўся 31 ліпеня 1802 года ў маёнтку Мядзвятка каля ракі Уша Наваградскага павета. У сем гадоў страціў бацьку, і таму клопат аб пляменніку ўзялі два дзядзькі — Ігнацій і Юзэф Дамейкі, апошні з якіх быў горным інжынерам, што скончыў Фрайбургскую горную акадэмію. Юзэф любіў распавядаць пра рамантычныя падарожжы ў пошуках новых адкрыццяў, пра прафесію геолага, якая з дзяцінства захапіла Ігнація. Да таго ж хлопчык цікавіўся прыгодніцкімі раманамі і кніжкамі пра падарожжы. Але яшчэ быў не час, каб ажыццявіць дзіцячыя мары.

Спачатку Ігнат вучыўся ў піярскай школе ў Шчучыне, пасля якой у 1816 годзе паступіў у Віленскі ўніверсітэт. Скончыўшы яго ў 1822 годзе, атрымаў ступень магістра філасофіі. Але за ўдзел у таварыстве філаматаў Дамейка быў асуджаны на «вечны нагляд паліцыі і адхіленне ад усялякай царскай службы». Таму нягледзячы на шэраг спробаў, так і не здолеў уладкавацца на дзяржаўную працу і вымушаны быў кіраваць гаспадаркай дзядзькі Ігната ў фальварку Заполле Лідскага павета.

Тут ён пабудаваў млыны, тартакі, займаўся вырошчваннем жывёлы, прымяраў на сябе прафесіі доктара, ветэрынара і агранома, аб чым у 1829 годзе пісаў сябрам:

«Пяць тыдняў сяджу самотны дома, штудзірую новыя кнігі, прысланыя з Германіі, а да таго шмат рознымі гаспадарчымі непрыемнасцямі прыгнечаны; лячу хворых сялян і не раз да чорцікаў абдураны, ашуканы, дрыжу са страху, пасылаючы п'яўкі і г.д., а гарачка не ведае літасці і страшна ў гэтым баку лютуе. Лячу таксама хворых кароў, у чым мне не вельмі шанцуе».

Таму не дзіўна, што калі ў 1830 годзе на землях былой Рэчы Паспалітай успыхнула паўстанне, Дамейка ўступіў у яго шэрагі. Ваяваў у атрадзе разам з Эміліяй Плятэр, але пасля паразы пад Шаўлямі летам 1831 года быў інтэрнаваны ў Прусію.

## «Жэгота» і «сябар дзяцей»

Пасля доўгага падарожжа, падчас якога ён наведаў вядомы па аповедах дзядзькі Фрайбург з яго Горнай акадэміяй, знакамітыя срэбраныя руднікі ў Рудных гарах на мяжы Германіі і Чэхіі, Дамейка нарэшце ў 1832 годзе разам са сваім сябрам Адамам Міцкевічам прыбыў у Парыж. Іх сяброўства было настолькі моцным, што Міцкевіч першапачаткова хацеў назваць сваю будучую паэму «Пан Тадэвуш» не інакш, як «Жэгота» — мянушкай Дамейкі па таварыстве філаматаў. Таксама Дамейка з'яўляецца героем адной з частак «Дзядоў» Адама Міцкевіча.

У Парыжы Ігнат паступіў у Горную акадэмію. Нягледзячы на даволі сталы 30-гадовы ўзрост, ён старанна вучыўся, а таксама актыўна ўдзельнічаў у дабрачынных таварыствах, дапамагаў суайчыннікам, асабліва моладзі, за што яго паважліва называлі «сябрам дзяцей».

Пасля паспяховага заканчэння навучання ў 1837 годзе Дамейка накіраваўся ў Эльзас, дзе працаваў на радовішчы жалезнай руды і займаўся будаўніцтвам доменных печаў. Але ў гэты ж час яму паступіла прапанова (якую ён адразу прыняў) адправіцца ў якасці прафесара хіміі і мінералогіі ў паўднёваамерыканскі горад Какімба.

## «Бацька горнай справы» Чылі

У лютым 1838 года ён з Лондана адправіўся ў Бразілію і далей у Аргенціну, каб затым разам з выпадковым вандроўнікам перабрацца праз Кардыльеры і патрапіць у Рэспубліку Чылі, утвораную толькі ў 1818 годзе. Падарожжа Дамейкі доўжылася чатыры месяцы. Калі ж ён нарэшце дабраўся да месца, то быў сустрэты не інакш як чарадзей, які займаецца выплаўкай медзі і жалеза, срэбра і золата.

Дамейка адразу ж заняўся асветніцтвам мясцовага насельніцтва, дэманструючы на вуліцах горада розныя навуковыя эксперыменты. І, што было яшчэ больш важна, пачаў вучыць іспанскую мову, якую асіліў за тры месяцы напружанай працы. Менавіта гэты час сам Дамейка называў самымі цяжкім у сваім жыцці.

Кожны год Дамейка выдзяляў па некалькі месяцаў на падарожжы і збіранне даследчых матэрыялаў. Ён таксама вывучаў побыт і жыццё карэннага насельніцтва — плямёнаў араўканаў, і крытыкаваў нехрысціянскае стаўленне да іх чылійскага ўрада.

У 1847 годзе ён перабраўся ў Санцьяга ў Чылійскі ўніверсітэт. Дамейка пісаў падручнікі па фізіцы і мінералогіі, і менавіта па яго праекце ў краіне была арганізавана сістэма адукацыі, прыкладам для чаго паслужыла Радзіма. Дамейка правёў водаправод у Санцьяга, увёў у краіне метрычную сістэму мераў і вагі, дзякуючы яму горназдабываючая прамысловасць стала асноўнай галіной эканомікі Чылі — самай багатай у той час краіны Лацінскай Амерыкі. Яго называлі «Бацькам горнай справы», самым паважаным чалавекам Чылі.

Прызнаннем заслуг Дамейкі стала наданне яму ў 1848 чылійскага грамадзянства, а ў 1867 годзе ён нават прадстаўляў Чылі на Парыжскай сусветнай выставе ў якасці камісара. Па вяртанні з Парыжа ён быў абраны рэктарам універсітэта ў Санцьяга і яшчэ чатыры разы перавыбіраўся, пакуль у 1883 годзе ў знак пратэсту супраць вайны Чылі з Перу не адмовіўся ад рэктарства. Калі чылійскі ўрад накіраваў ва ўніверсітэт атрыманыя ў якасці кантрыбуцыі ў вялікіх скрынях прыборы і абсталяванне, Дамейка заявіў: «Універсітэт нарабаваных трафеяў не прымае. Прашу забраць рэчы назад».

## Шчаслівы муж

Яшчэ ў 1850 годзе 47-гадовы Ігнат Дамейка ажаніўся з 16-гадовай чылійкай Энрыкетай Сотамаёр Гусман. Знаёмства здарылася дзякуючы адданаму індзейцу Хуану, які падштурхнуў Ігната патрапіць у госці да сям'і маладой дзяўчыны. Ужо на першай сустрэчы высветлілася, што тая даўно зацікавілася паважаным еўрапейцам. У хуткім часе быў заключаны шлюб, у якім нарадзілася чацвёра дзяцей.

На жаль, ні дачка Дамейкі Аніта, ні двое яго старэйшых сыноў не пакінулі нашчадкаў. Але малодшы сын Казімір меў чацвёра сыноў і 23 унукі. Энрыкета ж памерла ад сухотаў у 1870 годзе, пасля 20 гадоў шчаслівага сямейнага жыцця.

У 1884 годзе Ігнат Дамейка накіраваўся на Радзіму, праехаўшы па дарозе па ўсёй Заходняй Еўропе. У 85 гадоў нават узабраўся на вяршыню Везувія і пабываў ля яго кратэру. Чатыры гады ён пражыў спачатку ў Мядзвядцы, а затым у Жыбартоўшчыне Слонімскага павета, паспеўшы здзейсніць падарожжа ў Святую зямлю.

У канцы 1888 года ён вырашыў зноў наведаць Чылі, каб уладкаваць жыццё сыноў. Па дарозе Дамейка цяжка захварэў.

У выніку, 13 студзеня 1889 года ён памёр у Санцьяга. У гэты дзень у Чылі была абвешчана агульнанародная жалоба.

***

Імя Ігната Дамейкі занатавана ў мінерале дамейкіце, акамянеласцях малюскаў — Навуцілус Дамейкус, фіялкавай кветцы — Віёла Дамейкона, і нават малой планеце 2784 Дамейка. Таксама ў яго гонар названа паселішча Дамейка (у раёне Какімба), порт на поўдні краіны, у Араўканіі (Пуэрта-Дамейка), ланцуг Кардыльераў даўжынёй у 350 кіламетраў — Кардыльеры Дамейка. У Санцьяга яму пастаўлены помнік, на якім змешчаны надпіс: «Вялікаму Асветніку».

Ігнат Дамейка мог шмат зрабіць для Радзімы, але ў выніку яго плённая праца стала штуршком для развіцця іншай маладой краіны — Чылі. Нездарма Вінцэсь Каратынскі назваў яго «Пястун нацыянальнага дабрачынства і гонару сярод чужых народаў».

# Беларускі рыцарскі рух: больш аўтэнтыкі!

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Ці шмат вы ведаеце пра рэканструкцыю? А пра беларускую рэканструкцыю? Пра дасягненні і складанасці беларускай рэканструкцыі гутарым з кіраўніком экстрым-тэатра «Берсерк», арганізатарам фестываляў Аляксандрам Ракам.**



**У нашым рэгіёне больш увагі надаецца адпаведнасці эпосе. У нас шмат мерапрыемстваў, калі ўдзельнікі, напрыклад, ідуць на некалькі дзён у паход у сярэднявечным строі, як гэта было 600–700 гадоў таму**

***— Што такое «экстрым-тэатр», і чаму тэатр арганізуе фестывалі?***

— Экстрым-тэатр «Берсерк» пачынаўся ў 2000 годзе як кампанія каскадзёраў. Здымаліся ў кіно, арганізоўвалі экстрэмальныя шоў. У тэатры ўдзельнічалі выхадцы з рыцарскіх клубаў, таму мы арыентаваліся на гістарычную тэматыку.



Потым калектыў трансфармаваўся ў агенцтва, што арганізоўвае разнастайныя мерапрыемствы. У нас большасць камерцыйных праектаў — карпаратывы, трэнінгі і фэсты — так бы мовіць, прафесійнае хобі.

Сёлета мы рабілі Свята Сонца (16 чэрвеня), будзем рабіць «Наш Грунвальд» (21–22 ліпеня), Мсціслаўскі фэст (3–5 жніўня), «Менск старажытны» на Дзень горада, «Halloween» — музычны фэст клубнага фармату, Каляды ў Дудутках і ў Батанічным садзе; пад пытаннем — эка-гістарычны фестываль «Дулебы» ў Крычаўскім раёне, «Самайн» у Батанічным садзе. Летась арганізоўвалі яшчэ фэсты «Бітва чатырох эпох» і «Шлях вікінгаў». Сёлета мы іх не робім, але налета яны будуць.

***— Раскажыце пра гісторыю такіх фэстаў.***

— «Наш Грунвальд» з яго 10-гадовай гісторыяй — адзін з самых старых рыцарскіх фестываляў Беларусі. Да яго быў «Белы замак», і гэта была цэлая эпоха. На «Белым замку» можна было сустрэць і вікінга, і прыдворнага XVII стагоддзя, і эльфійку... Цудоўны быў фэст, вельмі атмасферны, але цяпер іншая сітуацыя і іншы падыход да арганізацыі фестываляў. «Наш Грунвальд» мы абмежавалі рэгіёнам ВКЛ, Еўропы, Польшчы і Балтыі і часавымі межамі 1170–1520 гадоў.

Мы шмат чаго добрага ўзялі з «Белага замка». Я таксама займаўся яго арганізацыяй, але гэта быў праект Змітра Несцюка, знакамітага беларускага рэканструктара, які стаяў на пачатку рыцарскага руху ў Беларусі. Ён мой добры сябра. Цяпер не жыве ў Беларусі, але мы ўвесь час на сувязі, прыязджае на Грунвальд, і сёлета будзе весці турнір.



Эпоха «Белага замку» была вельмі добрай, але яна скончылася. Цяпер да рэканструкцыі ставяцца ўжо не як да гульні, а як да хобі. А раней у клубах была сапраўды атмасфера сярэднявечных адносінаў, калі ёсць магістр, што кіруе, яму падначальваюцца рыцары, якія могуць даваць загады, маюць васалаў... Па першым патрабаванні рыцара ты павінен з любой кропкі Мінска прыехаць у клуб... Мы гулялі ў гэту вялікую гульню і верылі ў яе. Цяпер гэтага ўжо няма. Рэканструкцыя стала хобі сур'ёзных людзей, якія выдаткоўваюць на гэта шмат грошай.

***— Ці паўплываў інтэрнэт на беларускую рэканструкцыю?***

— Безумоўна. Калі мы пачыналі, рабілі той жа «Белы замак», інфармацыі было вельмі мала. Шмат чаго мы былі вымушаныя дадумваць. Цяпер дасяжна шмат крыніц, інфармацыі пра археалагічныя вынаходкі. Людзі, што сур'ёзна займаюцца рэканструкцыяй, маюць дакладна зробленыя па старых узорах касцюмы і даспехі...

***— А што найбольш адметнае робіць «Берсерк» акрамя «Нашага Грунвальда»?***

— Ужо тры гады мы займаемся арганізацыяй Мсціслаўскага фэсту. Мясцовая адміністрацыя сама нас знайшла і прапанавала ўзяць на сябе гэты фестываль. Да таго ім займаліся розныя арганізатары. Гэта таксама даволі стары фэст, яму каля 10 гадоў, і ён вельмі істотна змяняўся — ад лакальнага праекту да маштабнай міжнароднай імпрэзы, якой ён ёсць зараз.

***— Ці можна вызначыць нейкія асаблівасці беларускай рэканструкцыі ў параўнанні з суседнімі краінамі, з Еўропай?***

— У Еўропе, як і ў ЗША, большасць рыцарскіх фестываляў — гэта больш шоў. Там вялікія рынкі рамеснікаў, шмат музыкаў... Яны не ставяць за мэту дакладную рэканструкцыю касцюмаў ці даспехаў, іх не турбуюць машынныя швы на вопратцы, недакладнасці крою і дробязі такога кшталту, дапускаюць эклектыку з розных эпох. Хаця там таксама сустракаюцца добрыя даспехі (часта замоўленыя ў беларускай студыі «Steel Legacy», дарэчы). У нашым рэгіёне, у Беларусі і суседніх краінах, больш увагі надаецца якасці касцюмаў і даспехаў, адпаведнасці эпосе. У нас шмат мерапрыемстваў «living hostory», калі няма гледачоў, а ўдзельнікі, напрыклад, ідуць на некалькі дзён у паход у сярэднявечным строі, зусім як гэта было 600–700 гадоў таму.

І там, і там цікава. У Беларусі таксама спрабавалі зрабіць фестывалі кшталту шоў, дзе можна заплюшчыць вочы на недакладнасці рэканструкцыі. Але беларуская рэканструктарская супольнасць досыць кампактная і ў той жа час падзеленая: адны надаюць больш увагі гістарычнай дакладнасці, а іншыя займаюцца, напрыклад, фехтаваннем як спортам.

Ёсць такі сусветна вядомы фэст — «Бітва нацый», гэта амаль як Алімпійскія гульні. Кожны год ён праходзіць у новай краіне, і людзі з усяго свету змагаюцца на турнірах і бугуртах за месцы ў разнастайных намінацыях. Гэта спорт. І ў Беларусі зараз ёсць шмат спартсменаў, якія робяць добрыя даспехі, адпаведныя эпосе, але знізу там — пластык і спартыўныя майкі. Гэта такі сярэдні варыянт, калі ёсць ахвота займацца гістарычным фехтаваннем, але як спортам, а не як рэканструкцыяй.

У «living hostory» ёсць рэканструктары, якія самі вырабляюць тканіны, усё робяць ручным швом і гэтак далей. Ёсць тыя, хто недзе пасярод: займаюцца і спортам, і імкнуцца да дакладнасці рэканструкцыі. У гэтых памежных варыянтах троху захавалася і ад сярэднявечнай іерархіі. На нашых фэстах мы імкнёмся аб'яднаць усіх: і «спартсменаў», і рэканструктараў «living hostory», і тых, хто пасярод.

Падчас фестываляў за ўдзельнікамі назірае касцюмная камісія, і потым унутраныя абмеркаванні цягнуцца ледзь не да наступнай імпрэзы: кагосьці заўважылі ў сонечных акулярах, а кагосьці без галаўнога ўбора... За апошнія гады дзякуючы павелічэнню колькасць крыніц значна падвысілася якасць рэканструкцыі, але застаюцца і свае складанасці. Паглядзім, як будзе сёлета!



Фота аўтара

# Рыгор Кобец — чалавек-легенда




**Па гарызанталі:** 1. ... Сандыга. Сапраўднае імя і прозвішча (паводле адной з версій) Рыгора Кобеца, беларускага пісьменніка, драматурга, кінасцэнарыста, Заслужанага дзеяча мастацтваў БССР (1935 г.), сябра Саюза пісьменнікаў БССР (1935 г.), сябра Саюза кінематаграфістаў Беларусі (1967 г.). 5. П'еса драматурга Р. Кобеца пра жыццё рабочых шклозавода, першая прэм'ера якой адбылася ў 1930 годзе; п'еса прынесла славу беларускаму драматычнаму тэатру імя Якуба Коласа. 7. «Ноеў ...». Аўтабіяграфічная аповесць Р. Кобеца, у якой ён апісаў свае пакуты ў сталінскіх лагерах; у 1989 годзе аповесць надрукаваў часопіс «Нёман». 9. «... — адзінае месца, дзе бедныя звысоку глядзяць на багатых» (У. Роджарс). 10. «Ратуй, ...». Камедыя, якая была напісана ў 1932 годзе Р. Кобецам сумесна з пісьменнікам А. Вольным, расстраляным сталінскімі апрычнікамі ў 1937 годзе. 11. У мінулыя часы — вандроўны акцёр. 14. Дыван ручной работы (абласное). 16. «Шчаслівы ...». Музычная кінакамедыя, знятая ў 1940 годзе сцэнарыстам Р. Кобецам сумесна з С. Бытавым. 18. Аўтар вершаваных твораў; ім быў Р. Кобец, аўтар верша «Паравоз» (1925 г.), які стаў папулярнай камсамольскай песняй. 19. У казахаў, кіргізаў — народны паэт-пясняр. 22. Лямант. 23. Бланк, які трэба запаўняць спецыяльнымі звесткамі. 25. Збор невялікіх літаратурных ці музычных твораў. 28. Музыка, якая спалучае ў сабе рысы еўрапейскай і афрыканскай традыцый. 29. Тое, што і дыяпазітыў. 31. «... народжаныя». Першы на Беларусі гукавы, на беларускай мове, мастацкі кінафільм, зняты ў 1933 годзе па сцэнарыю Р. Кобеца. 32. «Лясная ...». Першы беларускі мастацкі кінафільм, зняты ў 1926 годзе кінарэжысёрам Ю. Тарычам па аповесці «Свінапас» пісьменніка М. Чарота, расстралянага ў Мінску ў 1937 годзе. 33. Невялікая краіна ў Заходняй Афрыцы.

**Па вертыкалі:** 1. Раздзел тэорыі літаратуры, які вывучае вершаскладанне. 2. Закончаная частка спектакля, драматычнага твора. 3. Паэтычнае сказанне. 4. Настаўнік, майстар (састарэлае). 6. Прадукт творчай працы. 8. «Першы ... савецкай драматургіі». Так называў Р. Кобеца беларускі кінарэжысёр і сцэнарыст П. Шамшур. 12. Расійскі горад на Далёкім Усходзе, куды быў сасланы Р. Кобец, дзе ён праявіў свае лепшыя творчыя якасці; у гэтым горадзе ён быў прыгавораны да смяротнага пакарання, якое замянілі на катаржную працу на будаўніцтве БАМа (Байкала-Амурскай магістралі). 13. Тая, хто валодае чым-небудзь. 15. «... — прырода чалавека; прырода — ... Бога». Ф. Бэйлі. 17. Кіраўніцтва пастаноўкай спектакля, фільма. 20. Чалавек-...; так называлі Р. Кобеца тыя, хто быў знаёмы з яго складаным, насычаным падзеямі, жыццёвым шляхам. 21. Жанр сусветна вядомага мастацкага кінафільма «Шукальнікі шчасця», знятага па сцэнарыю Р. Кобеца і І. Зэльцара ў 1936 годзе; кінаартыста, выканаўца галоўнай ролі расстралялі ў 1952 годзе, а знявечаны труп С. Міхоэлса, кансультанта фільма, быў знойдзены ў 1948 годзе на вуліцы Мінска. 24. Курортны горад у Францыі, дзе штогод праходзяць сусветныя кінафестывалі. 26. Салодкі плод паўднёвага дрэва сямейства ружакветных. 27. Бой, бітва (састарэлае). 30. Штотыднёвая беларуская літаратурная газета (абрэвіятура), якая ў 1936 годзе надрукавала кінасцэнарый Р. Кобеца і А. Вольнага «Паўстанне гневу».

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Беларусь — калыска Нобелеўскіх лаўрэатаў і прэзідэнтаў» (НЧ №24 ад 29 чэрвеня):**

Па гарызанталі: 1. Порах. 7. Корвін. 8. Зэльва. 9. Час. 10. Ліст. 11. Паэт. 12. Вымпел. 13. Іўрыт. 14. Крайск. 18. Калье. 19. Пінск. 20. Сонца. 21. Рыгор. 23. Кворум. 24. Купал. 26. Краскі. 29. Спец. 30. Хаім. 31. Ежа. 32. Начнік. 33. Каўчук. 34. Шрыфт.

Па вертыкалі: 2. Рататар. 3. Акадэмік. 4. Мінск. 5. Чэрап. 6. Бабруйск. 12. Віцебск. 15. «Крыжакі». 16. Перас. 17. Апора. 20. Стортынг. 22. Распорка. 25. Пружаны. 27. Бегін. 28. Гаваі.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №428

Падпісана да друку 20.07.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.